• выдаецца са жніўня 1917 г. **БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** • цана 1000 рублёў

**26** сакавіка 1996 г.
аўторак, №№ 81-82
(22884 — 22885)



# ЗВЯЗДА

## *РОЗГАЛАС*
## ВЫШЭЙШАЯ ЎРАДАВАЯ ТЭЛЕГРАМА

*Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь*

*Кіраўнікам міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання*

*Старшыням аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома*

*Старшыням гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў*

Паводле даных Белгідрамета, вышыня снежнага покрыва на тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі (вярхоўі Заходняй Дзвіны, Сожа, Дняпра і правабярэжных прытокаў Прыпяці) складае ў асноўным 20--40 см з запасамі вады ў ім 35--75 мм, што на 20--40 працэнтаў больш за сярэднешматгадовыя велічыні. Глыбіня прамярзання глебы складае 50--100 см, у шэрагу паўднёвых раёнаў -- 105--150 см. На асобных участках Дняпра, Прыпяці, Бярэзіны назіраецца ледастаў з торосамі да 78 см. Ва ўзнікшай сітуацыі існуе вялікая верагоднасць узнікнення затораў лёду з рэзкім пад'ёмам узроўню вады. Чакаецца затапленне пойменных зямель і магчымае падтапленне каля 170 населеных пунктаў у 45 раёнах рэспублікі. Арыенціровачная плошча затаплення можа скласці да 1,46 млн. гектараў.

Выказваючы сур'ёзную заклапочанасць узнікаючай перадпаводкавай абстаноўкай на тэрыторыі рэспублікі і суседніх дзяржаў, звяртаю Вашу ўвагу на неабходнасць усебаковай падрыхтоўкі да барацьбы са стыхіяй, нармальнага жыццезабеспячэння насельніцтва падтопліваемых раёнаў.

Галоўнымі задачамі дзяржаўных органаў у гэты перыяд павінны стаць абарона жыцця і здароўя людзей, захаванне матэрыяльных і іншых каштоўнасцей, сельскагаспадарчых жывёл, запасаў харчавання і фуражу, забеспячэнне бесперабойнага функцыянавання вытворчасці.

Звяртаю ўвагу кіраўнікоў на тое, што прымаемыя міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, аблвыканкомамі меры па падрыхтоўцы да паводкі не ўсюды адпавядаюць маштабам і складанасцям магчымай абстаноўкі, маюць часам дэкларатыўны і неканкрэтны характар.

У мэтах своечасовай падрыхтоўкі да веснавой паводкі, а таксама максімальнага зніжэння яе неспрыяльных вынікаў лічу неабходным:

1. Кабінету Міністраў, кіраўнікам міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, выканкомаў забяспечыць безумоўную рэалізацыю на ўсіх узроўнях мераў, выпрацаваных Камісіяй па надзвычайных сітуацыях пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь (пратакол ад 6 сакавіка 1996 г. №2), удзяліўшы асаблівую ўвагу своечасовай падрыхтоўцы неабходных сіл і сродкаў, стварэнню запасаў харчавання, медыкаментаў, гаруча-змазачных матэрыялаў, іншых матэрыяльных рэсурсаў, правядзенню адпаведных арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў.

2. Кабінету Міністраў, Мінфіну сумесна з аблвыканкомамі, Мінскім гарвыканкомам забяспечыць выдзяленне грашовых сродкаў, неабходных для фінансавання падрыхтоўчых мерапрыемстваў, жыццезабеспячэння насельніцтва падтопліваемых раёнаў і ліквідацыі вынікаў паводкі.

3. Аблвыканкомам, МУС, Мінсельгасхарчу, Белкаапсаюзу, іншым цэнтральным органам кіравання прыняць неабходныя меры па папярэджанню і ліквідацыі вынікаў паводкі, забеспячэнню правапарадку і захаванасці маёмасці ў раёнах, што пацярпелі.

4. Аблвыканкомам, Мінбудархітэктуры, Мінтрансу, Мінжылкамгасу сумесна з Мінабароны, Упраўленнем чыгуначных войскаў ажыццявіць комплекс арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па абароне і папярэджанню ў перыяд крыгаходу разбурэнняў і пашкоджанняў мастоў, гідратэхнічных і меліярацыйных збудаванняў, ліній электраперадач.

5. МНС, МЗС скаардынаваць з адпаведнымі дзяржаўнымі органамі сумежных краін дзеянні па пропуску крыгаходу па рэках і ўзгодненаму скіданню вады з вадасховішчаў.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

### *АНОНС*
## Вам адкажа Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ

**У пятніцу, 29 сакавіка, С. Г. Шарэцкі зноў прыедзе ў рэдакцыю нашай газеты, каб шчыра, адкрыта і сумленна пагаварыць з вамі, нашы паважаныя чытачы. «Прамая лінія» са Старшынёй Вярхоўнага Савета пачнецца ў той дзень з 14 гадзін.**

Як і раней, папярэдне можна пісаць пісьмы з пытаннямі да Сямёна Георгіевіча.

Адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-А, рэдакцыя газеты «Звязда».

Пытанні прымаюцца таксама па тэлефоне 68-27-40.



## «МІТЫНГ — ГЭТА АКЦЫЯ, ІНІЦЫЯТАРАМІ ЯКОЙ СТАЛІ ПАЛІТЫКІ-БАНКРУТЫ»

**Мітынг, што адбыўся ў нядзелю, 24 сакавіка, — гэта цалкам мэтавая, канкрэтная палітычная акцыя, ініцыятарамі якой выступілі ўсе былыя і, як правіла, палітыкі-банкруты, заявіў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзімір Замяталін.**

Перш за ўсё гэта Беларускі народны фронт, які не атрымаў ніводнага месца ў Вярхоўным Савеце на праведзеных у мінулым годзе выбарах, былыя дэпутаты парламента папярэдняга склікання, былыя сапернікі Прэзідэнта на прэзідэнцкіх выбарах і, на жаль, нязначная, мікраскапічная частка цяперашніх дэпутатаў, якія катэгарычна не прымаюць палітыкі Прэзідэнта, за якую народ прагаласаваў на прэзідэнцкіх выбарах і якую пацвердзіў на рэферэндуме 1995 года. І, безумоўна, яны не прымаюць усяго, што робіць Прэзідэнт.

Яны добра разумеюць, што 2 красавіка, у дзень падпісання дагавора паміж Беларуссю і Расіяй, настае лагічнае статус-кво двух народаў пры захаванні іх суверэнітэту. Таму спрабуюць разыграць палітычныя карты, якія кранаюць душу кожнага беларуса. Гэта перш за ўсё магчымасць удзелу Беларусі ў нейкіх канфліктах, паколькі наша рэспубліка мае трагічную гісторыю: кожны трэці загінуў у апошняй сусветнай вайне. Таму яны гавораць: падпісанне гэтага дагавора раўнацэнна таму, што салдаты і афіцэры Беларусі будуць праходзіць службу ў «гарачых кропках», у тым ліку і Чачні.

Гэта безумоўная хлусня, якая не адпавядае сэнсу і характару таго дагавора, што будзе падпісаны і аб якім Прэзідэнт у бліжэйшы час мае намер расказаць у Вярхоўным Савеце, растлумачыць беларускаму парламенту і народу, што ўяўляе сабой праект дагавора. Сумна, што праваахоўныя органы зусім не звяртаюць увагі на тыя заявы палітычных банкрутаў, якія былі выказаны на мітынгу: ад адкрытай русафобіі, распальвання міжнацыянальнай варожасці, да прамых зняваг Прэзідэнта. Праводзяць паралель з румынскімі падзеямі, якія, на іх думку, немінуча павінны адбыцца ў нашай рэспубліцы. Заклік Зянона Пазняка ледзь не да штурму тэлецэнтра — вядомая формула вядомых палітыкаў, якія заўсёды штурхалі на авантуры з мэтай паставіць народ у самую крытычную сітуацыю, падкрэсліў У. Замяталін.

— Я цалкам перакананы ў тым, што народ Беларусі разумее, што адбываецца на яго тэрыторыі. Гэты мітынг сведчыць аб канвульсіях тых сіл, якія не ў стане прапанаваць нешта іншае замест той палітыкі, якую праводзіць Прэзідэнт, — адзначыў У. Замяталін. — Тое, што прапануе Прэзідэнт, прадыктавана жыццём, гісторыяй Беларусі і Расіі, а таксама апошнімі пяццю гадамі, у выніку якіх кожны просты беларускі чалавек лепш жыць не стаў. Альтэрнатывы палітыцы Прэзідэнта на сёння не існуе. Гэта разумеюць і арганізатары мітынгу. Адсюль і хамства, падбухторванне, да якіх яны вымушаны звярнуцца як да спосабу вядзення палітычнай барацьбы. Іншага ў іх няма. Народ, паўтараю, разбярэцца, хто з'яўляецца палітычным шарлатанам, а хто робіць для яго максімальна магчымае.

Што датычыць сродкаў масавай інфармацыі, то ў Беларусі паўтарылася тая ж сітуацыя, якая адбылася нядаўна ў Маскве. Ні адзін кіраўнік СНД яшчэ не атрымаў рэальных дакументаў, прынятых расійскай Думай, не атрымала іх ні адна дзяржаўная структура ў Расіі, а сродкі масавай інфармацыі развязалі сапраўдную вайну супраць іх, каб навязаць грамадскасці іншы пункт гледжання. Дарэчы, ні аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў, ні аб нечым падобным размовы не было, заявіў У. Замяталін.

На яго думку, тое ж здарылася і ў нядзелю. Сродкі масавай інфармацыі Расіі пачалі гаварыць аб тым, што ў Беларусі — магутнае процістаянне лініі Прэзідэнта. Гэта зусім наіўныя рэчы, паколькі ў такіх выпадках кожны раз трэба звяртацца да майскага рэферэндуму. А тады 85 працэнтаў тых, хто галасаваў, выказаліся за палітыку Прэзідэнта. Прэзідэнт яе і ажыццяўляе.

У Расіі таксама існуюць сілы, што выступаюць супраць інтэграцыі на тым узроўні, аб якім вядзе размову наш Прэзідэнт. Наколькі яны моцныя? Суадносіны слана і мопсіка. Працэс, які ідзе з нетраў народаў, спыніць немагчыма. Яго можна прытармазіць на нейкі час. Але кожны, хто становіцца тормазам гэтага працэсу, павінен разумець і ступень адказнасці, якая на яго ляжа. Гэтак жа, як пан Шушкевіч павінен разумець сваю адказнасць за тое, што ён зрабіў у 1991 годзе. З адчуваннем гэтай меры няхай ён ходзіць увесь час, пакуль ён жыве на нашай зямлі, падкрэсліў У. Замяталін.

**БЕЛТА.**

## *ПОГЛЯД* Беларусь ускосна далучаецца да прэзідэнцкай кампаніі ў Расіі ў якасці казырнай карты кандыдатаў?

**Прэзідэнт А. Лукашэнка аб'явіў сенсацыйную навіну аб стварэнні новага саюза — беларуска-расійскага, які праз паўтара-два гады можа стаць адзінай дзяржавай.**

Бурная прэзідэнцкая кампанія ў суседняй Расіі прывяла да даволі нечаканых падзей у нашай краіне. Беларускі парламент на мінулым тыдні пасля вядомай пастановы Дзярждумы Расіі аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў вырашыў падштурхнуць расійска-беларускую інтэграцыю, а Аляксандр Лукашэнка заявіў аб стварэнні новага саюза дзвюх нашых дзяржаў.

Калі да гэтага часу нашым кіраўніцтвам гаварылася толькі аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй згодна з вынікамі леташняга рэферэндуму і падкрэслівалася, што Беларусь, безумоўна, застанецца пры гэтым суверэннай дзяржавай, дык апошняя заява А. Лукашэнкі, зробленая пасля сямігадзінных перамоў з Б. Ельцыным 22 сакавіка, павярнула рух падзей у іншае рэчышча. Цяпер размова ідзе ўжо аб беларуска-расійскім саюзе, ці садружнасці, што будзе мець свае герб, сцяг, аб'яднаны бюджэт пад агульныя праграмы, агульныя межы, вышэйшыя органы кіравання, а ў перспектыве — адзіную валюту, Канстытуцыю... Радыкальныя расійскія палітыкі, у прыватнасці А. Няўзораў, адразу ж патлумачылі сэнс ініцыятыў А. Лукашэнкі на свой лад, зазначыўшы, што адбываецца «уз'яднанне Расіі і Беларусі».

Расійскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін у інтэрв'ю РТБ зазначае, што гэтыя дамоўленасці не маюць ніякіх адносінаў да перадвыбарнай кампаніі ў РФ. Аднак расійская прапагандысцкая машына, перш за ўсё тэлебачанне, яскрава паказвае, што гэта адзін з галоўных козыраў Б. Ельцына як кандыдата ў прэзідэнты, а заадно тлумачыць, якія нікчэмныя ў гэтым плане дзеянні думцаў-камуністаў, што дэнансавалі Белавежскія пагадненні. Беларускія апазіцыйныя палітыкі аднагалосна прызнаюць, што праблема ўз'яднання Расіі з нашай краінай тым самым уваходзіць у якасці казырнай карты ў перадвыбарную гульню ў РФ, прычым карта гэтая перадаецца расійскімі кандыдатамі з рук у рукі. І нават сам А. Лукашэнка ў інтэрв'ю тэлебачанню шчыра прызнаў, што беларуска-расійскае аб'яднанне будзе мець важкі ўплыў на вынік выбараў у Расіі.

Аднак несумненна і тое, што гэта праблема будзе мець не меншы ўплыў і на падзеі ў Беларусі. Як лічыць віцэ-спікер беларускага парламента Г. Карпенка, наша грамадства будзе зноў расколата, падзелена, з'явіцца нестабільнасць. Што ўжо і выявілі маніфестацыі і мітынг 24 сакавіка ў Мінску.

Сёння цяжка ацэньваць названыя ініцыятывы, бо інфармацыі пра іх пакуль што мала, яна павярхоўная і супярэчлівая, а самі дакументы яшчэ не сталі аб'ектам галоснасці. Тым не менш, ужо відавочныя пэўныя разбежкі ў каментарыях двух бакоў: Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі і прэс-сакратара прэзідэнта Расіі С. Мядзведзева. Наш Прэзідэнт, заявіўшы, што «хопіць дурыць народы», зазначыў, што будзе заключацца дагавор аб саюзе з наднацыянальнымі органамі і агульным бюджэтам пад агульныя праграмы, які, магчыма, праз паўтара-два гады перарасце ў адзіную дзяржаву, шляхам падрыхтоўкі адпаведнай нарматыўнай базы і прыняцця Канстытуцыі. С. Мядзведзеў падкрэслівае, што размова ідзе не аб стварэнні новай дзяржавы, а толькі аб утварэнні саюза, падобнага да існуючага ў Заходняй Еўропе Еўрасаюза. Падкрэсліваецца, што агульным будзе толькі так званы «бюджэт інтэграцыі», які будзе складацца з адлічэнняў з нацыянальных бюджэтаў дзвюх краін. «Аб адзіным дзяржаўным бюджэце гаварыць не прыходзіцца, гэтак жа як аб стварэнні

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## *МЕРКАВАННЕ* У МІНСКУ ПАЛІТЫЧНЫЯ СТРАСЦІ ВЫЛІЛІСЯ Ў ФІЗІЧНЫЯ СУТЫКНЕННІ

**24 сакавіка ў Мінску адбыўся шматтысячны мітынг. Па першапачатковай задуме ён быў прымеркаваны да 78-х угодкаў з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Як вядома, Мінскі гарвыканком у адказ на заяўку аргкамітэта па святкаванню згаданай даты (які, дарэчы, ўзначаліў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў) дазволіў правядзенне толькі мітынгу на плошчы перад Оперным тэатрам, адначасова забараніўшы шэсце па праспекце Францыска Скарыны.**

Тым не менш, пасля 11 гадзін раніцы ў нядзелю ўдзельнікі акцыі пачалі збірацца менавіта на плошчы Незалежнасці. Усякія намаганні міліцыі процістаяць несанкцыяніраванаму мерапрыемству не мелі поспеху. Апоўдні калона дэманстрантаў, якіх было ўжо каля пятнаццаці тысяч, пад бела-чырвона-белымі сцягамі рушыла ў накірунку да опернага тэатра. Зразумела, такой колькасці людзей тратуары праспекта ўмясціць не змаглі, таму аўтамабільны рух на галоўнай аўтамабільнай артэрыі горада быў часова паралізаваны.

Падчас дэманстрацыі далучыліся яшчэ некалькі тысяч чалавек. У выніку колькасць удзельнікаў мітынгу, якія сабраліся на плошчы Парыжскай Камуны, склала прыкладна трыццаць тысяч чалавек. Такіх масавых акцый у беларускай сталіцы не было з 1991 года — піку рабочага і грамадска-палітычнага руху на Беларусі. Сам мітынг толькі знешне пераклікаўся з падзеямі амаль васьмідзесяцігадовай даўнасці. Па сутнасці акцыя стала дэманстрацыяй і аглядам апазіцыйных сіл сталіцы. Практычна ўсе выступленні насілі адкрыта антыпрэзідэнцкі характар. Прамоўцы засяродзілі ўвагу на зніжэнні жыццёвага ўзроўню людзей і пагаршэнні эканамічнага становішча ў рэспубліцы. Асабліва рэзка крытыкавалася апошняя ініцыятыва Прэзідэнта, накіраваная на заключэнне з Расіяй саюзнага дагавора. Яна была расцэнена не інакш як здача суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Дарэчы, многія назіральнікі схільны лічыць, што менавіта нездаволенасць тым, што без поўнай інфармацыі народа кіраўніцтва рэспублікі спрабуе вырашыць лёс краіны, прывяло значную частку людзей на плошчу. З кароткімі прамовамі на мітынгу выступілі Васіль Быкаў, Станіслаў Багданкевіч, Зянон Пазняк, Генадзь Карпенка, Станіслаў Гусак і некаторыя іншыя палітычныя дзеячы. Была прынята адозва да Вярхоўнага Савета, а чатыры чалавекі былі накіраваны на тэлебачанне для таго, каб павіншаваць жыхароў Беларусі са святам. Гэта было даручана зрабіць З. Пазняку, Г. Карпенку, П. Знаўцу і С. Гусаку, але намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета да тэлецэнтра не пайшоў.

Далей падзеі пачалі развівацца стыхійна. Удзельнікі мітынгу вырашылі суправаджаць вылучаных прадстаўнікоў да тэлецэнтра, і ў хуткім часе тысячы чалавек перамясціліся да будынка на вуліцы Камуністычнай. Але іх тут ужо чакала некалькі ўзводаў АМОНа і міліцыі. Сяк-так некалькім прадстаўнікам мітынгу на чале з Зянонам Пазняком, Юрыем Хадыкам і Паўлам Знаўцам удалося пераадолець кардон АМОНа і дайсці да прыступак тэлецэнтра. Але на іх просьбы прапусціць у будынак, міліцыяй было сказана канкрэтнае «не».

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ВЫШЭЙШАЯ ЎРАДАВАЯ ТЭЛЕГРАМА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

6. Міністэрству аховы здароўя, МНС, Мінсельгасхарчу, выканкомам устанавіць жорсткі санітарна-эпідэміялагічны кантроль у раёнах інтэнсіўнай паводкі і забяспечыць выкананне неабходных ахоўных мерапрыемстваў.

7. Аблвыканкомам, Белтэлерадыёкампаніі, Дзяржкамдруку арганізаваць пастаяннае інфармаванне насельніцтва падтопліваемых раёнаў аб абстаноўцы і прымаемых мерах па зніжэнню негатыўных вынікаў паводкі.

8. Камісіі па надзвычайных сітуацыях пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь (Далгалёву В. Б.) забяспечыць сістэматычны збор аператыўных даных аб узнікаючай абстаноўцы на месцах, іх аналіз і неадкладнае прыняцце адпаведных рашэнняў.

9. Ускласці персанальную адказнасць за выкананне гэтых даручэнняў і ажыццяўленне мерапрыемстваў па жыццязабеспячэнню насельніцтва і ліквідацыі вынікаў паводкі на кіраўнікоў выканкомаў, міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання.

Выказваю ўпэўненасць, што своечасовае ажыццяўленне проціпаводкавых мераў, падмацаваных фінансавымі і матэрыяльнымі сродкамі, дазволіць максімальна знізіць магчымы ўрон для народнай гаспадаркі і насельніцтва, забяспечыць нармальную жыццядзейнасць у раёнах інтэнсіўнай паводкі. НР 21/4-126.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

## БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ 2 КРАСАВІКА ПАДПІШУЦЬ ДАГАВОР АБ СТВАРЭННІ САЮЗА ДЗВЮХ ДЗЯРЖАЎ

**Беларусь і Расія дагаварыліся стварыць саюз дзяржаў з наднацыянальнымі органамі, дагавор аб гэтым будзе падпісаны 2 красавіка. Такі вынік перагавораў Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, якія адбыліся 22 сакавіка ў Маскве. Як паведамлялася ўжо, візіт беларускага Прэзідэнта адбыўся ў адпаведнасці з іх папярэдняй дагаворанасцю.**

На другі дзень ён сустрэўся з кіраўніком расійскага ўрада Віктарам Чарнамырдзіным. Сустрэўшыся потым з журналістамі ў Доме ўрада РФ, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што ён вёў перагаворы з Барысам Ельцыным на працягу больш чым сямі гадзін запар. «У ходзе гэтай сустрэчы, — паведаміў Аляксандр Лукашэнка, — мы прыйшлі да вываду, што мы павінны ў адпаведнай абстаноўцы, у прысутнасці прадстаўнікоў рускага і беларускага народаў, Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Алексія II падпісаць дагавор аб стварэнні Саюза, або Садружнасці, адкрыты для ўступлення любых іншых дзяржаў».

«Галоўная асаблівасць гэтага дагавора, — адзначыў далей Аляксандр Лукашэнка, — у тым, што ў ім ствараюцца наднацыянальныя саюзныя органы ў выглядзе вышэйшага савета, куды ўвойдуць прэзідэнты, прэм'ер-міністры і кіраўнікі заканадаўчых галін улады дзяржаў-членаў. Вышэйшы савет будзе прымаць рашэнні, якія будуць аднесены да яго вельмі шырокай кампетэнцыі. Канчаткова яе параметры не вызначаны, гэтым зоймуцца на наступным тыдні эксперты дзвюх краін. Акрамя таго, будзе створаны ўрад, так званы выканаўчы камітэт, які будзе выконваць усе рашэнні, выпрацоўваемыя вышэйшым саветам. Рашэнні гэтых органаў будуць мець абавязковы характар для членаў саюза, па аналогіі з абавязковасцю наднацыянальных рашэнняў для членаў Еўрасаюза. Таксама плануецца стварыць міжпарламенцкі кангрэс. Квоты прадстаўніцтваў і з таго і з другога боку будуць роўныя».

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, у планУемага саюза «будзе свой бюджэт, прызначаны для фінансавання прызнаных і зацверджаных агульных праграм, свой герб і сцяг, яго граніцы будуць ахоўвацца сумесна». «Мы ўжо сёння маем агульную сістэму ППА», — падкрэсліў ён.

У цэлым праект дагавора аб саюзе, паводле слоў беларускага Прэзідэнта, быў адобраны ў ходзе яго цяперашняга візіту ў Маскву. Пасля падпісання 2 красавіка гэты дакумент павінны будуць ратыфікаваць парламенты дзвюх краін. У праекце дагавора, адкрытага для іншых дзяржаў, паводле яго слоў, агаворана права на свабодны выхад любога члена саюза, аб чым жадаючы павінен інфармаваць іншых членаў за 6 месяцаў.

Беларусь згадзілася таксама падпісаць 29 сакавіка сумесна з Расіяй, Казахстанам, Кіргізіяй чатырохбаковае пагадненне аб паглыбленні інтэграцыі паміж гэтымі дзяржавамі, якое Аляксандр Лукашэнка назваў «Міні-СНД». Разам з тым, паводле яго слоў, Казахстан і Кіргізія не збіраюцца пакуль далучацца да саюза паміж Расіяй і Беларуссю, таму што яны «не гатовы да передачы часткі сваіх паўнамоцтваў наднацыянальным органам». У той жа самы час Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што «Расія і Беларусь захаваюць свае суверэнітэты ў рамках новага саюза». Рашэнні аб яго стварэнні запатрабуюць зацвярджэння парламентаў дзвюх краін, адзначыў Прэзідэнт Беларусі.

**ТАСС-БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ УСКОСНА ДАЛУЧАЕЦЦА ДА ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАМПАНІІ Ў РАСІІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

адзінай дзяржавы», — зазначае С. Мядзведзеў. Сімптаматычна, што расійскае тэлебачанне на гэты конт рэзюміруе: «Адзінага бюджэту не будзе, і праблемы беларускай эканомікі не лягуць на плечы расійскіх падаткаплацельшчыкаў».

Такім чынам, можна канстатаваць, што існуюць нестыкоўкі ў пазіцыях двух бакоў, якія сведчаць аб тым, што рыхтуецца гэты дагавор даволі паспешліва, і хоць В. Чарнамырдзін заяўляе, што над ім працавалі ўжо год, паводле яго ж прызнання, нават пасля перагавораў 22 сакавіка асноўныя палажэнні будучага дагавора яшчэ ўзгадняюцца. А падпісаць гэты дакумент мяркуецца 2 красавіка ў прысутнасці прадстаўнікоў грамадскасці дзвюх краін і патрыярха Рускай праваслаўнай царквы.

У гэтай праблеме яшчэ шмат незразумелага. Аляксандр Лукашэнка заяўляе, што рашэнні наднацыянальных органаў будуць абавязковыя для выканання ў абедзвюх дзяржавах. Такім чынам, ці не атрымаецца, што агульны цэнтр зможа, карыстаючыся гэтым правам, паслаць на абарону межаў аб'яднанай краіны (ці саюза краін) не толькі сібірскі, але і мінскі спецназ? Узнікаюць і іншыя пытанні: ці будзе Беларусь мець сваю ўласную знешнюю палітыку, ці будзем мы ўступаць у Савет Еўропы, як складуцца нашы адносіны з іншымі суседзямі, ці не трэба яшчэ адклікаць нашых паслоў з замежных краін? І яшчэ адно пытанне: раптам на выбарах у Расіі выйграе не «той» чалавек, не Ельцын? Ці не занадта рызыкоўна Беларусі прывязваць свой лёс да краіны, якая яшчэ сёлета можа кардынальна змяніць сітуацыю ў сваёй палітыцы і эканоміцы, нават памяняць грамадскі лад? Пытанняў сапраўды шмат, яны ўзнікаюць ва ўсіх, хто лічыць сябе патрыётам роднай краіны. Будзем спадзявацца, што сам Аляксандр Лукашэнка, які даваў клятву на новай Канстытуцыі суверэннай Беларусі, патлумачыць нам усё гэта і дасць адказы на пытанні як журналістаў, так і звычайных грамадзян. А пакуль што варта было б прывесці першыя рэагаванні з боку вядомых беларускіх палітыкаў на тое, што здарылася напрыканцы мінулага тыдня ў Маскве і што будзе мець працяг.

**Лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ** лічыць, што некарэктна параўноўваць прапануемы расійска-беларускі саюз з Еўрасаюзам:

— Еўрасаюз стварыўся павольна, шляхам натуральнага ходу гісторыі ў імя перш за ўсё эканамічных інтарэсаў, на базе наяўнасці глыбокай дэмакратыі ва ўсіх гэтых краінах. Нашы ж правіцелі хочуць злучыць нас з краінай ваюючай, карумпаванай, дзе капіталізм развіваецца ў горшым варыянце. З краінай, дзе разбураюцца ў Чачні гарады і вёскі, дзе мноства нявырашаных праблем, дзе па пяць месяцаў не выплачваецца зарплата, дзе адсталыя тэхналогіі і тэхніка, зношанае абсталяванне. Я магу зразумець імкненне людзей уз'яднацца з дабрабытам, але аб'ядноўвацца з галечай — цяжка зразумець логіку гэтых дзеянняў.

**— Але ці лепшая наша краіна?**

— Наша краіна павінна браць прыклад з бліжэйшых суседзяў і кіравацца здаровым сэнсам. Я не магу сабе ўявіць, каб нармальны чалавек не імкнуўся ўз'яднацца з тымі, хто можа даць яму свабоду, дабрабыт, законнасць, нармальныя ўмовы вучобы, жыцця, як гэта робіцца ў Чэхіі, Венгрыі, Польшчы, Літве.

**— Як вы лічыце, ці ўдасца ажыццявіць нашым кіраўнікам намячаемыя планы?**

— Шанцы ў іх ёсць, хаця нельга сказаць, што наш парламент будзе гатовы не гледзячы ні на што кінуцца ў вір передвыбарнай кампаніі ў Расіі ў імя чыіхсьці інтарэсаў, прадаць сваю незалежнасць... Я не думаю, што наш парламент не захоча ацаніць плюсы і мінусы таго, што нам прапануе наш Прэзідэнт. Наша фракцыя будзе шукаць падтрымку.

**Сяргей КАЛЯКІН, першы сакратар ЦК ПКБ, лідэр фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце** на пытанне, ці не лічыць ён, што Беларусь у выніку гэтых дзеянняў увязваецца ў расійскую прэзідэнцкую кампанію, адказаў:

— Не лічу, адназначна. Я лічу, што пачаліся рэальныя крокі па збліжэнню Беларусі і Расіі, з боку Рэспублікі Беларусь гэта выкананне волі народа, выказанага на леташнім рэферэндуме. Што датычыць саміх падыходаў, то яны ў значнай ступені з'яўляюцца развіццём таго, што было прапанавана фракцыяй ПКБ і ўключана ў парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета — пытанне аб паглыбленні і развіцці інтэграцыйных сувязей з Расійскай Федэрацыяй і іншымі рэспублікамі СНД. Мы прапануем прэзідэнтам дзвюх краін завяршыць у сакавіку падрыхтоўку саюзнага дагавора і разам яго падпісаць. Тое, што 2 красавіка прэзідэнты маюць намер падпісаць, з'яўляецца менавіта саюзным дагаворам, размова ідзе аб саюзнай дзяржаве, у якой пэўныя функцыі дэлегуюцца цэнтру. У цэлым мы станоўча ацэньваем гэтую ініцыятыву. І рашэнне Дзярждумы РФ, і пазіцыя нашага Вярхоўнага Савета дала сапраўдны штуршок, каб нешта пачало рэальна адбывацца. А тое, што Б. Ельцын спрабуе гэта разыграць у ходзе перадвыбарнай кампаніі ў Расіі, — то гэта сапраўды так, але мы павінны з пункту гледжання інтарэсаў Рэспублікі Беларусь выкарыстоўваць гэтую сітуацыю. Гэта сёння ў нашых інтарэсах. Гэта выгадна ўсім палітычным сілам у Расіі і большасці палітычных сіл у Беларусі, за выключэннем нацыяналістычнай і буржуазнай апазіцыі. Пара ўжо ад слоў і нічога не вартых дакументаў пераходзіць да рэальнага аб'яднання.

**— А што, для вас думка апазіцыі, людзей, якія думаюць інакш, увогуле нічога не значыць?**

— Вы ж разумееце, што ў дзяржаве заўсёды існуе шмат думак, але існуюць і прынцыпы функцыянавання дзяржавы як на ўзроўні парламента, так і на ўзроўні ўсёй дзяржавы ў цэлым. Тыя, хто мае большасць, і ажыццяўляюць сваю палітыку. Вазьміце ЗША, Германію — там таксама ёсць розныя пункты гледжання. Але каму народ давярае на выбарах ці за што ён галасуе на рэферэндумах, тое і праводзіцца ў жыццё, па-іншаму і быць не можа.

**— Аляксандр Лукашэнка гаворыць ужо аб адзінай дзяржаве, што выходзіць за рамкі леташняга рэферэндуму...**

— У Еўропе таксама ствараецца адзіная дзяржава — Еўрасаюз. Там ёсць наднацыянальныя органы, яны ідуць да адзінай валюты... У нас размова не ідзе аб аб'яднанні дзяржаў. Наколькі я зразумеў, у нас будуць дзейнічаць свае заканадаўчыя органы, свой прэзідэнт, свая Канстытуцыя, бюджэт, а саюзным органам мы аддамо пэўнае кола пытанняў. Прычым у гэтых органах будзе роўнае прадстаўніцтва Беларусі і Расіі.

**— Ці лічыце вы, што трэба будзе мяняць Канстытуцыю пад гэты дагавор?**

— Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба паглядзець сам дагавор. Калі ўсё будзе як у Еўрасаюзе, то, відаць, не трэба, таму што Канстытуцыя нам гэта дазваляе. Калі ж размова будзе ісці аб передачы часткі суверэнных паўнамоцтваў саюзным органам, — магчыма, для гэтага патрэбны будуць папраўкі ў Канстытуцыю. У мяне ўвогуле пункт гледжання такі, што для гэтага мала волі прэзідэнтаў і парламентаў. Гэтае рашэнне павінна быць асвечана рэферэндумам, воляй народа. Таму патрэбна, каб гэтыя дакументы былі абнародаваны пасля іх падпісання.

**— Ці не бянтэжыць вас, што мы ідзём на аб'яднанне з краінай, у якой ідзе вайна, у якой забіваюць людзей, дзе няма нармальнай законнасці і дэмакратыі?**

— Мы павінны аб'ядноўвацца з краінамі не па прынцыпу дэмакратычнасці ці недэмакратычнасці, а па прынцыпу — дзе ляжаць нацыянальныя інтарэсы нашай рэспублікі, нашага народа. Адназначна, што яны ляжаць у Расіі, таму што дэмакратычны Захад ужо прадэманстраваў, што мы ім непатрэбны.

***Відавочна, што прапанаваныя прэзідэнтамі Беларусі і Расіі ініцыятывы носяць вельмі сур'ёзны, вельмі важны характар для лёсу нашай краіны. Таму «Звязда» мае намер даць магчымасць выказацца ўсім бакам па гэтай праблеме.***

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 71 РП

**Аб стварэнні камісіі па праверцы фінансава-гаспадарчай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і падведамасных яму суб'ектаў гаспадарання**

1. У мэтах аб'ектыўнай праверкі захавання законнасці Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і падведамаснымі яму суб'ектамі гаспадарання пры ажыццяўленні фінансава-гаспадарчай дзейнасці стварыць камісію ў наступным саставе:

Капітан Васіль Сцяпанавіч — Генеральны пракурор; Шэйман Віктар Уладзіміравіч — дзяржаўны сакратар Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь; Агалец Валянцін Сцяпанавіч — міністр унутраных спраў; Дзямчук Мікалай Мікалаевіч — старшыня Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь; Дамашкевіч Мікалай Федаравіч — начальнік Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; Мацкевіч Уладзімір Аляксандравіч — старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі; Саковіч Васіль Андрэевіч — старшыня Кантрольнай палаты (па ўзгадненню); Бурак Віктар Канстанцінавіч — старшыня падкамісіі па барацьбе са злачыннасцю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (па ўзгадненню); Снягір Міхаіл Валянцінавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (па ўзгадненню); Салаўёў Анатоль Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (па ўзгадненню).

2. Устанавіць, што камісія мае права прыцягваць да работы спецыялістаў міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і іншых цэнтральных органаў кіравання.

3. Аб выніках праверкі дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь далажыць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь да 25 красавіка 1996 г.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

22 сакавіка 1996 г., г. Мінск.

## У МІНСКУ ПАЛІТЫЧНЫЯ СТРАСЦІ ВЫЛІЛІСЯ Ў ФІЗІЧНЫЯ СУТЫКНЕННІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Бачачы гэта, натоўп пачаў хвалявацца, а міліцэйскае кіраўніцтва выклікала дапамогу. Толькі калі натоўп прарваў першы кардон АМОНа, З. Пазняк і П. Знавец былі прапушчаны ў тэлецэнтр.

Тым часам да будынка прыбывалі новыя часці міліцыі, АМОНа і спецназа. А калі ў канцы вуліцы, пабліскваючы на сонцы шчытамі і шлемамі, з'явіліся спецпадраздзяленні ў масках і са зброяй без усякіх апазнавальных знакаў, здалі нервы і ў людскога натоўпу, і ў міліцыі. Сценка пайшла на сценку. У выніку спецпадраздзяленні, пракладваючы сабе дарогу пры дапамозе шчытоў, гумавых палак і, па сведчанню пацярпеўшых, газу, адцяснілі мітынгоўшчыкаў ад будынка тэлецэнтра.

Натоўп скіраваўся зноў на праспект Францыска Скарыны. Заняўшы тратуары і палову праезнай часткі, людзі разрозненымі групамі накіраваліся на плошчу Незалежнасці, але на падыходах да яе ўдзельнікаў мітынгу зноў сустрэў АМОН і спецназ. Моцныя сутычкі паміж мітынгоўшчыкамі і супрацоўнікамі правапарадку адбыліся ля будынка КДБ, на вуліцы Камсамольскай. Толькі каля шасці гадзін вечара праспект быў канчаткова ачышчаны.

Усё напісанае вышэй — хроніка нядзельных падзей, сухія факты, якія карэспандэнту «Звязды» прыйшлося бачыць на свае вочы. Я не хачу даваць сваіх каментарыяў таму, што адбылося, бо ў дадзенай сітуацыі, калі на падзеі існуюць самыя процілеглыя погляды, вельмі лёгка аказацца абвінавачаным у заангажыраванасці і сімпатыях да таго ці іншага боку.

Хто меў рацыю — пакажа час. Безумоўна, арганізатары мітынгу, хутчэй за ўсё, панясуць адказнасць за беспарадкі, якія адбыліся, і павінны будуць кампенсаваць нанесены урон гарадской гаспадарцы. Ва ўсякім разе, першы намеснік старшыні гарвыканкома сп. Сянкевіч загадаў падлічыць яго памеры. Але атрымаць хоць які каментарый з Мінгарвыканкома ўчора не ўдалося — У. Ярмошын паехаў у Бельгію разам з прэм'ер-міністрам, а без яго каменціраваць падзеі ніхто не захацеў.

Сілавыя структуры мабілізавалі вялікія сілы з прыцягненнем падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння. Як мне ўдалося зразумець з радыёперамоў афіцэраў, якія былі ля тэлецэнтра, у аперацыі былі задзейнічаны нават падраздзяленні з Брэста. На жаль, учора ў беларускіх сілавых ведамствах таксама не змаглі даць якой-небудзь дакладнай інфармацыі адносна колькасці задзейнічаных сіл, адносна затрыманых удзельнікаў мітынгу і г. д. У прэс-службе МУС паведамілі, што канфлікт носіць гарадскі маштаб. Але і ў прэс-службе УУС Мінгарвыканкома не ўдалося атрымаць каментарыя. Стала толькі вядома, што рыхтуецца афіцыйная заява начальніка УУС Барыса Тарлецкага наконт падзей 24 сакавіка, якая будзе агучана пазней.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ФОТАСЛОВА



**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Па усцюжаным краі бягуць*
*Сакавіцкія вольныя воды,*
*Як прывіды жаданай свабоды,*
*Ў сне зімовым гібець не даюць.*
*Ад халоднага сну уставай,*
*Краю родны, да спорнае працы,*
*Каб адроджанай рунню узняцца*
*Богам дадзены час скарыстай.*



# Выступленне Старшыні Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі Ягора СТРОЕВА на пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 22 сакавіка 1996 года

Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Георгіевіч! Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета! Паважаныя беларускія браты, сябры і таварышы! З асаблівым пачуццём удзячнасці ўспрынялі мы ў Савеце Федэрацыі Расіі запрашэнне Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі і Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Георгіевіча Шарэцкага наведаць вашу цудоўную Беларусь. Мы разглядаем гэтае запрашэнне як знак павагі да Расійскай Федэрацыі.

Ад імя нашай дэлегацыі, ад імя Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Мікалаевіча Ельцына шчыра вітаю ўсіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, а ў вашай асобе — увесь брацкі беларускі народ, такі родны і блізкі нам, расіянам.

Не люблю фальшывых высокіх нот. Але, думаю, буду мець рацыю, калі скажу, што ў расіян і беларусаў былі, ёсць і, упэўнены, будуць усе падставы заўсёды лічыць сябе народамі-братамі. Тысячагоддзямі, стагоддзямі ў нас складваліся адзіная культура, адзіная мова, рэлігія, нараджаўся адзіны дух славянскага народа. У нашых народаў падобны характар і падобная псіхалогія. У нас агульная гісторыя, за слаўнымі і цяжкімі старонкамі якой — сумесная праца, барацьба за свабоду і незалежнасць. Агульныя магілы нашых продкаў нагадваюць нам, што мы выстаялі там і тады, дзе заўсёды былі разам. Брэсцкая крэпасць і Хатынь — нашы агульныя святыні, сімвалы высокай самаахвярнасці ў імя Радзімы, у імя жыцця наступных пакаленняў. Нас звязаў агульны лёс, духоўныя і гістарычныя ўзлёты, падзенні, трагедыя і памяць аб Вялікай Айчыннай вайне, аб Чарнобылі. Нават боль у нас з вамі адзіны — аб тых праблемах, якія хвалююць нас цяпер.

Не ўтаю, мне не раз і не два ў рознай якасці даводзілася наведаць Беларусь. Тут у мяне шмат сяброў, шмат знаёмых. Многія з іх сядзяць цяпер у гэтай зале. Яны сядзяць і глядзяць, як далёка і ў той жа час як блізка мы сёння знаходзімся. Расійская вобласць Арлоўшчына, дзе я вырас і карані якой ахоўваюць мяне, як анёл, у гэтыя «акаянныя дні», застаецца, як і раней, пабрацімам з Брэсцкай вобласцю цяпер ужо самастойнай і незалежнай Рэспублікі Беларусь. Перакананы ў гэтай сувязі ў непазбежнасці і заканамернасці таго, што менавіта ад Расіі і Беларусі зыходзяць цяпер самыя жывыя і самыя моцныя імпульсы да збліжэння краін — удзельніц СНД, да яднання нашых народаў.

Ведаю не па чутках: у Беларусі ніколі не былі моцныя настроі на карысць выхаду з саставу Савецкага Саюза. З другога боку, неўразуменне і боль адчуваюць і расіяне, калі мы сталі паспяхова разбягацца, штучна адгароджвацца адзін ад аднаго. Разумныя, мудрыя людзі разумелі гэта і папярэджвалі. Памятаю, з якім болем гаварылі мне дэпутаты Малафееў і Камай, якія тут прысутнічаюць, аднойчы ў Крамлі, калі мы ішлі па плошчы: «Што адбываецца?! Давайце шукаць выйсце з гэтага становішча». Мы з Сямёнам Рыгоравічам Шарэцкім, з акадэмікам Ніканавым, прэзідэнтам УАСГНІЛ (цяпер нябожчыкам), сустракаліся ўжо пасля дзевятнаццатага і шукалі шляхі, як знайсці агульную згоду, як знайсці той шлях, які б не раз'яднаў нас так моцна.

Само жыццё паказала, што ніхто ад гэтага сёння не выйграў. Але будзем рэалістамі. Адрадзіць СССР у ранейшым выглядзе, канешне, немагчыма. Камяні былі раскіданы (мінула пяць гадоў, многае змянілася, многае знікла), сёння настаў час іх збіраць. Патрэбны крокі ў будучыню. Паспешлівае, не пралічанае па выніках рашэнне нашай Думы (Расіі) толькі абвастрыла і надало палітычную афарбоўку натуральнаму ходу падзей. Вакол гэтага рашэння столькі цяпер меркаванняў, столькі спрэчак, а сутнасць адна — шлях да збліжэння, шлях да інтэграцыі мы ўсё роўна шукаць будзем.

Дзяржаўныя дзеячы абавязаны чуць і адгукацца на волю і спадзяванні сваіх народаў. Але рабіць гэта трэба з улікам рэальнасцей, якія склаліся. Вось чаму мы, дэлегацыя Савета Федэрацыі новага саставу, свой першы афіцыйны замежны візіт робім да вас, у Рэспубліку Беларусь, каб на канструктыўнай аснове распачаць дыялог, рыхтаваць рэальныя шляхі ўзаемнага імкнення да аб'яднання, шукаць той адзіна правільны варыянт, які дазволіць нам са згоды свайго народа ўзаемна шукаць лепшыя ўмовы для жыцця, для будучага развіцця.

Савет Федэрацыі Расіі, гонар узначальваць які даручаны мне, — гэта асаблівы орган у сістэме дзяржаўнай улады Расійскай Федэрацыі. Ён з'явіўся параўнаўча нядаўна, але я перакананы, што ён ужо заявіў аб сабе сёння і будзе мець будучыню. У мяне ёсць цвёрдая вера ў тое, што Савет Федэрацыі будзе з кожным днём набіраць сілу, абапіраючыся на тыя паўнамоцтвы, якія прыпісаны яму Канстытуцыяй і самой яго роляй у грамадска-палітычным жыцці Расіі. Гэта орган, які складаецца з кіраўнікоў заканадаўчай і выканаўчай галін улады Расійскай Федэрацыі. Ён не змагаецца за ўладу, ён яе ўжо мае — цяжкую, складаную. І сёння ў саставе нашай дэлегацыі прыехалі кіраўнікі адміністрацый — губернатары Смаленскай, Пскоўскай, Бранскай, Белгародскай, Курганскай і іншых абласцей, старшыні заканадаўчых сходаў. Каму ўжо, як не ім, вядома, што такое ўлада і як цяжка яе несці!

Я з адказнасцю заяўляю, што ўзважанасць і разважлівасць, апора на розум, інтэлект і цвярозы розум, пачуццё адказнасці за лёс федэратыўнай дзяржавы — вось асновы нашага прынцыповага падыходу да любых праяў, якія нам даводзіцца вырашаць у штодзённым жыцці. Ва ўсе часы ва ўсіх народаў цаніліся мудрасць і мудрыя людзі. Знаходзячыся ў Беларусі, не магу не сказаць, што, на мой погляд, менавіта гэтымі якасцямі — мудрага дзяржаўнага дзеяча — валодаў Пётр Міронавіч Машэраў, павагу да якога я адчуваў і адчуваю цяпер. Такія людзі, як сімвалы, назаўсёды застаюцца ў людской памяці: іх нельга разбураць — іх трэба памятаць!

Яшчэ Канфуцый гаварыў: «Нельга пабудаваць храм на могілках». І мы не можам пабудаваць новую садружнасць, разбураючы тое, што ў нас ёсць. У кожнага пакалення ёсць свая задача, а ў нашага пакалення — стварыць новую садружнасць. Цяперашняму пакаленню кіраўнікоў, сапраўды, выпаў лёс практычнага ажыццяўлення глыбокіх эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў. Рэформа — не нечая выдумка. Разуменне таго, што змены неабходныя, мы літаральна праненслі самі, выпакутавалі. Рынак, шматукладная эканоміка, права чалавека валодаць уласнасцю, распараджацца ёю, памнажаць яе сумленнай працай — загад часу. Сёння няма ніводнай палітычнай сілы ў Расіі (ды, я думаю, і ў Беларусі), хто адмаўляў бы неабходнасць рэформаў. Гэта становіцца дрэнным тонам, але ўсе хочуць рэформаў разумных, якія б паляпшалі жыццё.

Абнаўленне нашага грамадства пачалося не ўчора, не ў 1991-м і нават не ў 1985 годзе. Кожнае пакаленне прыносіла і будзе прыносіць свае задачы, сваё абнаўленне. Цяперашняму пакаленню выпала ператварыць абнаўленне ў імпульс папярэдніх пакаленняў, з колькасці перайсці ў якасць. Можа, больш правільна было б рухацца эвалюцыйным шляхам, выпрабоўваць розныя мадэлі прыватызацыі, знаходзіць аптымальныя формы суадносінаў паміж дзяржаўным рэгуляваннем і рынкавымі механізмамі, змяншаючы сацыяльную мэту рэформаў, не дапускаць празмернай палітызацыі грамадства.

На жаль, атрымалася інакш. У які ўжо раз у нашай гісторыі перамаглі рэвалюцыйныя, а іншы раз і проста скачкападобныя формы. Гэта абярнулася рэзкім зніжэннем жыццёвага ўзроўню, дыскрэдытацыяй самой ідэі рэформаў, а ў вачах часткі насельніцтва — і проста нізкім жыццёвым узроўнем. І ўсё ж за мінулыя гады ў насельніцтва, у большасці палітычных сіл склалася адназначнае перакананне — рэформа патрэбна і вяртання назад няма!

Рэформа разбудзіла людзей, і сапраўды, задача сённяшняга дня ў тым, каб у будзённай, штодзённай рабоце шукаць аптымальны шлях яе ажыццяўлення, выпраўляць тое, што не атрымалася ці атрымалася не так, як нам хацелася б. А каб выправіць, каб арганізаваць паступальны рух эканомікі наперад, патрэбны кадры, патрэбна канцэпцыя, патрэбна моцная крэдытна-фінансавая сістэма, патрэбны тыя людзі, якія разумеюць, як гэта рабіць. І не выпадкова ва ўсім свеце на крутых зломах рэформаў, на крутых паваротах заўсёды берaглі разумныя галовы, заўсёды беряглі кадры. Вось гэтага, можа быць, сёння і не хапае. Нам трэба вярнуцца і ўзяць прагматыкаў, узяць тых людзей, хто ведае, як гэта ажыццяўляць.

У гэтай сітуацыі важная і роля дзяржавы, перш за ўсё ў тым, каб вырашаць многія сацыяльныя пытанні абароны людзей. Не можа, не павінна рэформа абарочвацца збядненнем мільёнаў і ўзбагачэннем асобных. Патрэбна больш беражлівае абыходжанне з тым багаццем, якім надзяліла нашу краіну сама прырода. Раздаць сёння лягчэй, але трэба, каб у выніку багацела грамадства ў цэлым, багацела б і наша пакаленне. Без рэгулюючай ролі дзяржавы нельга абысціся ў пытаннях энергазабеспячэння, транспарту і так далей. Патрэбна нейкая каардынуючая роля дзяржавы. Лічыць, што ажыццяўленне рэформаў пойдзе само сабой, па-мойму, сёння наіўна.

Паважаныя калегі! Савет Федэрацыі Расіі новага саставу цвёрда мае намер актыўна садзейнічаць рэалізацыі курсу на добраахвотную і глыбокую інтэграцыю Расіі і Беларусі ў рамках сваіх заканадаўчых магчымасцей, свайго палітычнага і інтэлектуальнага патэнцыялу. Мы падзяляем думку вашага Прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі аб тым, што глыбокую інтэграцыю нашых дзяржаў трэба было распачынаць яшчэ ўчора. Як кажуць на Русі, пашана яму і хвала за тое, што ён выступае як ініцыятар інтэграцыі, як галоўны парушальнік спакою на прасторах СНД.

На самай справе, народы ўсяго свету — у Заходняй Еўропе, Азіі, дзвюх Амерыках — рашуча становяцца на шлях інтэграцыі і стварэння наднацыянальных дзяржаўных структур, а мы рухаемся ў зваротным напрамку. Гэта ненатуральна, гэта проста неразумна. Нам дасталіся ў спадчыну такое раздзяленне працы і такая вытворчая кааперацыя, якія не могуць не ўваходзіць у супярэчнасць з цяперашнімі, у многім штучнымі граніцамі. Хочацца, каб прадукцыйна працавала наша прамысловасць, — трэба здымаць межы, узнімаць шлагбаумы. І кіраўнік адміністрацыі Смаленскай вобласці сёння на сустрэчы з Сямёнам Георгіевічам адкрыта падкрэсліў: калі б паўтарылі наш вопыт са Смаленскай вобласцю, можа быць, і эканоміка, і палітыкі даўно б ужо выйшлі на іншыя шляхі вырашэння гэтага пытання.

Я згодны з Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам і Сямёнам Георгіевічам, калі яны, выступаючы ў нас на Міжпарламенцкай асамблеі, а нядаўна і ў Савеце Федэрацыі на сустрэчы, сказалі, што, адсякаючы зусім жыццяздольныя, адладжаныя дзесяцігоддзямі сувязі, мы проста разараем сябе, разараем адзін аднаго.

У вас у Гомелі яшчэ намаганнямі ўсяго Савецкага Саюза быў створаны гомельскі завод, тэхніка якога патрэбна ў Расіі ўсім сялянам. У вас ёсць Мінскі трактарны завод. Колькі б мы ні гаварылі, я са свайго вопыту (усё жыццё займаўся аграрным комплексам) ведаю, што лепшага трактара няма. Не прыдумаем і не пабудуем мы лепшага завода. Дык чаму ж мы адгарадзіліся, а трактара сёння няма нават на плантацыях буракоў? У вас ёсць Бабруйскі шынны завод — мы без яго таксама не абыдземся. Ёсць буйныя машыны кар'living нага тыпу, гэтак жа, як ёсць Валгаградскі завод, які за мінулы год выпусціў тры тысячы гусенічных трактароў, хоць можа трыццаць і больш тысяч выпускаць.

Дык калі мы разбураем гэтыя вытворчыя сувязі, мы разбураем эканоміку, а ў рэшце рэшт разбураем жыццё. Дык няўжо танней, выгадней будаваць кожнай краіне прадпрыемствы аналагічнага профілю? Гэта абсурдна і эканамічна, і палітычна! Я не гавару ўжо пра экалагічную небяспеку, што нарастае ва ўсіх краінах СНД, у тым ліку з-за раз'яднанасці ў дзеяннях і падыходах. Не можам мы кожны паасобку эфектыўна змагацца з гэтымі праблемамі, якія не ведаюць граніц.

Чарнобыль, дзесяцігоддзе якога нам хутка трэба сустрэць, — гэта агульная наша трагедыя. І на пасяджэнні ў Пецярбургу на Міжпарламенцкай асамблеі дамовіліся, што Сямён Георгіевіч узначаліць дэлегацыю трох рэспублік, праедзе па ўсіх дзяржавах, якія закранула гэтая аварыя. І пазней мы падвядзём вынікі, вызначым меры, звернемся да ўсіх урадаў, каб, з аднаго боку, дапамагчы пацярпеўшаму насельніцтву, а з другога — зберагчы ад наступных непрыемных выпадкаў, якія могуць здарыцца.

Востра стаіць для нас праблема нацыянальнай бяспекі. Таго, хто не ўмее абараняць свае інтарэсы, непазбежна цясняць канкурэнты. У нас з вамі агульная рызыка, агульнае разуменне той небяспекі, якая ёсць. Ёсць разуменне Беларусі і заклапочанасць Расіі ў сувязі з імкненнем краін НАТО зрабіць крок на Усход. Мы вітаем ваша жаданне мацаваць ваеннае супрацоўніцтва. Больш таго, у нас агульны інтарэс ва ўмацаванні пазіцый Калінінградскай вобласці, якая рызыкуе стаць аб'ектам націску з боку знешніх сіл. Гэтыя вострыя праблемы, што насоўваюцца на ўсіх нас, магчыма вырашыць сумеснымі намаганнямі. Мы імкнёмся да гэтага, але адначасова адчуваем, як нялёгка знайсці правільнае рашэнне. Перакананы, падтрымана будзе толькі такая інтэграцыя, у працэсе якой грамадзяне нашых дзяржаў нічога не страцяць, а многае набудуць.

Сёння мы (і гэта відавочна) гатовы зрабіць гэты крок. Хачу падкрэсліць, што размова ідзе не пра такі Саюз, дзе адзін будзе камандаваць, як пішуць некаторыя газеты. Размова ідзе аб сапраўднай інтэграцыі, аб стварэнні арганізацыі, якая аб'ядноўвае намаганні ўсіх краін, але не ўшчамляе нацыянальныя інтарэсы кожнага.

Новыя формы ўзаемаадносінаў паміж былымі рэспублікамі СССР паступова прарастаюць у СНД. На жаль, прарастаюць вельмі марудна. Краіны СНД далёка не ў аднолькавай ступені гатовы да рэальнай інтэграцыі. Караван жа, як гавораць на Усходзе, не можа рухацца хутчэй за вярблюда, што ідзе марудней за ўсіх. На жаль, калі адзін з іх не ідзе, дык ці трэба ўсяму каравану чакаць яго? Мы ўжо бачым, што асобныя і не жадаюць ісці ў гэтым напрамку. Дык давайце ж рухацца з той ступенню паспешлівасці, якая наспела і рэальна існуе ў нас з вамі.

Думаю, што Беларусь і Расія маюць усе падставы зрабіць выбар на карысць паскоранага руху. Паміж дзвюма дзяржавамі падпісана больш за 120 пагадненняў і дагавораў у розных галінах. Яшчэ каля 30 праектаў пагадненняў знаходзяцца ў рабоце. Наша збліжэнне ніяк не ўшчамляе інтарэсы партнёраў па СНД. Расія і Беларусь не згортваюць, не спыняюць свайго ўдзелу ні ў адной з праграм Садружнасці. Калі ж хто-небудзь захоча далучыцца да нашых, пакуль яшчэ двухбаковых, заключаных дамоўленасцей, мы будзем гэтаму толькі рады, будзем толькі вітаць гэта. Каб выйсці на новы ўзровень інтэграцыі, неабходна зрабіць яшчэ адзін (прынцыпова новы) крок — стварыць двухбаковы наддзяржаўны, наднацыянальны орган. Такі вопыт ужо набыты Еўрапейскім саюзам. Мы вось у Брусель ездзім часта дэлегацыямі (я з'яўляюся членам пастаяннага Камітэта па рэгіянальнаму і мясцоваму самакіраванню) — ездзім у Францыю, Германію, Бельгію і іншыя краіны без візы, без граніц, і яны спакойна глядзяць на гэта.

Ужо ў гэты час можа быць створаны міждзяржаўны інтэграцыйны савет, міжпарламенцкі камітэт, міждзяржаўныя судовыя органы, зусім дапушчальна таксама фарміраванне сумесных кіраўніцкіх структур, асабліва ў галіне энергетыкі, сувязі. І сёння Прэзідэнт адкрыта гаварыў: дайце нам энергію па адзінай цане, якая ёсць у Расіі, і заўтра трактары, камбайны пойдуць ў Расію значна таннейшыя, і задыхае эканоміка дзвюх краін.

Ясна, што глыбокая інтэграцыя ў эканамічнай і сацыяльнай сферах прывядзе і да палітычнай інтэграцыі. Аднак адно без другога, на жаль, не бывае. Аб гэтым красамоўна сведчыць міжнародны вопыт. Любая спроба сёння гвалтоўна аб'яднаць дзяржавы, парушыць рэальнасць нічога, акрамя народнай бяды, расколу грамадства, прынесці не можа.

Хачу адзначыць галоўнае: інтэграцыя ўключае спадзяванні расійскага і беларускага народаў. У нашай краіне ў яе падтрымку выказалася пераважная большасць удзельнікаў усенароднага апытання. Расіяне таксама настроены на карысць канкрэтных крокаў — крокаў і рухаў не дзеля самой інтэграцыі, а дзеля змянення ў лепшы бок жыцця самога народа.

Пытанне пытанняў — каардынацыя дзеянняў нашых заканадаўчых органаў у сферы заканадаўства з мэтай збліжэння нацыянальных заканадаўстваў, і ў першую чаргу ў фінансава-эканамічнай галіне. Добра, што падпісаны двухбаковыя дагаворы і пагадненні па валютнаму, фінансаваму, грашова-крэдытнаму, падатковаму, мытнаму, гандлёваму рэгуляванню, цэнаўтварэнню і гэтак далей. Вялізнае значэнне мае падпісанне ў Маскве пагаднення аб усялякіх даўгах.

Але гэта толькі пачатак. Трэба не проста стварыць роўныя ўмовы ў дзейнасці суб'ектаў гаспадарання Расіі і Беларусі. Нам неабходна адзінае заканадаўства па іншых важнейшых пытаннях, якія паставіла жыццё. Трэба стварыць адзіную нарматыўна-прававую базу, што рэгулюе ўвесь комплекс эканамічных і фінансавых узаемаадносінаў. Звяртаюся ў гэтай сувязі да майго добрага знаёмага — Сямёна Георгіевіча Шарэцкага як да разумнага, удумлівага рэфарматара і прагматыка з пажаданнем у гэтыя цяжкія дні дапамагчы нам узаемна зірнуць на рэформы з двух бакоў, смялей рушыць наперад насустрач выкліку часу, абапіраючыся на розум і сэрца нашых народаў. І тады мы абавязкова пераможам, мы абавязкова інтэгруемся на разумных пачатках.

Вырашаючы гэтыя задачы, мы будзем у поўнай меры выкарыстоўваць мадэльныя законы, падрыхтаваныя Міжпарламенцкай асамблеяй. Ёю створана шмат па-сапраўднаму каштоўнага. У прыватнасці, хачу адзначыць адобраны нядаўна МПА мадэльны закон аб фінансава-прамысловых групах. Ён здыме многія перашкоды на шляху руху інвестыцый паміж краінамі СНД. Калі фінансава-прамысловая група прыйдзе і аб'яднае два буйныя заводы ў Расіі і Беларусі, дык палітыкі самі потым пойдуць на аб'яднанне.

На сённяшнім этапе мы звяртаемся да вас з прапановай стварыць пастаянна дзеючую камісію з парламентарыяў Расіі і Беларусі, якая стала б каардынаваць напрамак і ход гэтай выключна важнай заканадаўчай работы па стварэнню адзінай Садружнасці. Мы настроены таксама на цеснае ўзаемадзеянне парламентарыяў нашых краін на міжнароднай арэне, у міжнародных парламенцкіх і іншых арганізацыях. Можаце цвёрда разлічваць на нашу падтрымку ў пытанні аб прыёме Беларусі ў Савет Еўропы і Парламенцкую асамблею Савета Еўропы.

Паважаныя дэпутаты! Натуральна, усе мы цяпер разважаем над этапамі нашага рэальнага збліжэння, дзяржаўна-палітычнымі формамі ажыццяўлення гэтага працэсу. Мы выстройваем канцэпцыю нашай інтэграцыі, канцэпцыю ўзважаную, старанна вывераную. Прымаючы яе як вынік сумеснай творчасці інтэлектуальных сіл Расіі і Беларусі, сумесных намаганняў нашых палітыкаў, мы хутка і ўпэўнена пойдзем наперад. Мы проста абавязаны зрабіць крок насустрач адзін аднаму. Але было б у вышэйшай ступені неразумна і безадказна лічыць, што простым націсканнем кнопак для галасавання ці ўзняццем рукі можна вырашыць гэтыя праблемы. Я не прыхільнік гэтага. Я думаю, што гісторыя ўсіх нас вучыць: прамая дарога не заўсёды самая кароткая. Нам трэба ісці любой дарогай, няхай нават цяжкай і не заўсёды прамой, але такой, якая прывядзе да мэты. Мэта заўсёды лепшая за сілы, затрачаныя на саму дарогу.

У нас з вамі вельмі складаная задача. Расіі і Беларусі выпала першымі ісці да яднання і інтэграцыі па новаму шляху, у іншых палітычных і эканамічных умовах. Мы напрацоўваем вопыт, які ў многім ляжа ў аснову далейшага ўмацавання ўсёй Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Разам мы ўзнімемся. Нам у другі раз хочуць перашкодзіць. Вы ведаеце, што адзін раз гэты крок быў ужо зроблены. Гэта мы павінны бачыць, павінны асэнсавана падыходзіць да гэтага і не дапусціць ніякіх момантаў, якія перашкодзілі б галоўнай мэце. Разам кожны з нас стане мацнейшым, разам як адзіная сіла мы зможам паспяхова забяспечыць свае стратэгічныя інтарэсы ў сусветнай эканоміцы, займаць вядучае месца ў міжнароднай сістэме падзелу працы.

Хачу пажадаць усім нам мудрасці, настойлівасці і дальнабачнасці ў гэтай цяжкай дарозе. Хачу пажадаць вам, паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, усяму беларускаму народу шчасця і радасці ў кожным доме. Я веру ў нашу агульную будучыню, у наш з вамі агульны поспех. Мы былі, мы будзем разам: мы прыехалі ў момант вясны, і я думаю, што мы будзем разам з вамі і ў момант лета.

Паважаныя калегі! Паважаныя беларускія сябры! Гэты храм вялікай Расіі, які ўзняўся сёння з мёртвых і пабудаваны ў гонар адзінай перамогі ў вайне 1812 года, сімвалізуе нашу агульную дружбу, нашу згоду, асабліва ў цяжкія хвіліны. Дазвольце мне ад імя расійскай дэлегацыі, ад імя дэпутатаў Савета Федэрацыі Дзяржаўнай думы паднесці вам яго як сімвал згоды, даверу, як сімвал яднання нашай духоўнай культуры, мовы і маральнасці. Няхай ён пастаянна сваімі залатымі купаламі нагадвае вам, што мы былі і ёсць разам.

Дзякуй за ўвагу.

## ЗАЯВА парламенцкіх дэлегацый Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

У перыяд з 22 па 23 сакавіка 1996 года ў горадзе Мінску адбыліся перагаворы парламенцкіх дэлегацый Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Дэлегацыі ўзначальвалі адпаведна Старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі Я. С. Строеў і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкі.

У ходзе перагавораў бакі абмяняліся інфармацыяй аб дзейнасці заканадаўчых органаў сваіх краін, стане і асноўных напрамках заканатворчай дзейнасці парламентаў Расіі і Беларусі, перспектывах далейшага супрацоўніцтва.

Бакі пацвердзілі ўзаемную зацікаўленасць у паглыбленні парламенцкага ўзаемадзеяння ў мэтах усямернага развіцця інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма дзяржавамі.

Была выказана гатоўнасць актыўна садзейнічаць фарміраванню і ўдасканаленню заканадаўчай базы для дзелавога партнёрства ва ўсіх асноўных сферах жыццядзейнасці дзвюх дзяржаў.

Бакі згадзіліся ўтварыць Змешаную парламенцкую камісію Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з мэтай сумеснай падрыхтоўкі заканадаўчых актаў, якія забяспечваюць інтэграцыйны працэс, паглыблення міжпарламенцкага супрацоўніцтва.

Дэлегацыі абмеркавалі становішча спраў з ратыфікацыяй двухбаковых дагавораў і пагадненняў.

Асаблівая ўвага была ўдзелена праблемам удасканалення гандлёва-эканамічных і разлікова-плацежных адносінаў, адладжванню механізма кантролю за належнай рэалізацыяй падпісаных паміж дзвюма краінамі пагадненняў, у тым ліку тых, што адносяцца да эканамічнага і мытнага саюзаў, удзельнікамі якіх з'яўляюцца Расійская Федэрацыя і Рэспубліка Беларусь.

Парламенцкія дэлегацыі дамовіліся актывізаваць далейшыя кантакты, у тым ліку на ўзроўні камітэтаў і камісій парламентаў дзвюх краін. Дэлегацыі разгледзелі таксама некаторыя аспекты ўзаемадзеяння на міжнароднай арэне. Аднадушна была прызнана неабходнасць больш цеснай каардынацыі дзейнасці парламенцкіх дэлегацый дзвюх краін, якія ўдзельнічаюць у рабоце розных міжнародных міжпарламенцкіх арганізацый, узгаднення пазіцый Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь па праблемах, што ўяўляюць узаемную цікавасць.

Бакі выказалі глыбокую зацікаўленасць ва ўдасканаленні дзейнасці Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Была адзначана важнасць інстытутаў шматбаковага супрацоўніцтва ва ўмацаванні палітычнай стабільнасці ў краінах Садружнасці ў цэлым, і ў Расійскай Федэрацыі і Рэспубліцы Беларусь — у прыватнасці. У ходзе візіту дэлегацыі дамовіліся заключыць пагадненне аб міжпарламенцкім супрацоўніцтве паміж Федэральным сходам Расійскай Федэрацыі і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, якое бакі маюць намер падпісаць у час візіту ў адказ Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкага.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. ШАРЭЦКІ**

**Старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі Я. С. СТРОЕЎ**

## ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ: «БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ НАПРЫКАНЦЫ СТАГОДДЗЯ»

**Сённяшняй публікацыяй хачу распачаць новую рубрыку ў газеце. Героямі маіх матэрыялаў будуць прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі — вучоныя, мастакі, артысты, пісьменнікі, настаўнікі, дактары, інжынеры, бібліятэкары, святары, журналісты — усе тыя, хто працуе на духоўнасць і культуру свайго народа, каго мы называем работнікамі інтэлектуальнай працы.**

**У свядомасць нашых суайчыннікаў аказалася моцна ўбітым уяўленне, што сапраўднай працай з'яўляецца вытворчасць матэрыяльных каштоўнасцей. У пірагу, спечаным марксісцка-ленінскімі ідэолагамі, інтэлігенцыі адводзілася сціплая роля «праслойкі» паміж рабочымі і сялянамі. Хаця інтэлігенцыя ў краіне Саветаў, нягледзячы на тое, што называлася ўсяго толькі праслойкай, ідэалагічна забяспечвала існаванне савецкай улады. Лёс тых, хто спрабаваў пайсці супраць улады, быў прадвызначаны: для іншадумцаў існавалі турмы, ссылкі, псіхушкі і г.д.**

**Беларуская інтэлігенцыя — увогуле вельмі цікавая, не пазнаная яшчэ з'ява. Даследаваннем гісторыі беларускай інтэлігенцыі займаецца цяпер група вучоных Акадэіі навук Беларусі пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук У. Філякова. Гісторыя гэта, як вядома, даволі трагічная. Возьмем хаця б XX стагоддзе. У пачатку — магутны выбух інтэлектуальных і творчых сіл у асобах М. Багдановіча, братоў Луцкевічаў, С. Некрашэвіча, А. Смоліча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, У. Ігнатоўскага, А. Чарвякова і многіх іншых. Вось ён, залаты фонд нашай нацыі, эліта грамадства, значная частка якой бязлітасна і жорстка была знішчана як ворагі народа ўжо к канцу 30-х гадоў.**

**Кажуць, што сапраўдным інтэлігентам можа лічыцца той, хто ў трэцім калене займаецца інтэлектуальнай працай. У нас, у беларусаў, бадай што няма такой — клапатліва ўзгадаванай інтэлігенцыі. Кожнаму пакаленню даводзілася пачынаць з нуля. З тых, старэйшых, што будавалі Беларусь у пачатку стагоддзя, у нас засталася хіба што адна жывая легенда — славутая Стэфанія Станюта. Адышлі ў нябыт пісьменнікі і паэты, якія былі сумленнем і гордасцю нацыі, — У. Караткевіч, І. Мележ, П. Панчанка, М. Танк...**

**І што ж мы маем напрыканцы стагоддзя? Як пісаў нядаўна ў нашай газеце палітолаг Валерый Карбалевіч, адной з асаблівасцей Беларусі, якая адрознівае яе ад іншых дзяржаў, з'яўляецца роля і месца інтэлігенцыі ў нашым грамадстве і адносіны да яе народа. Сацыяльныя катаклізмы, якія адбыліся ў краіне за апошнія гады, дапамаглі выявіць цікавую і важную па сваіх выніках з'яву: разрыў ва ўзроўні культуры ўвогуле, і палітычнай — у прыватнасці паміж інтэлігенцыяй і астатнімі слаямі насельніцтва аказаўся значна большым, чым у іншых еўрапейскіх краінах. Як гэта ні горка канстатаваць, але беларуская інтэлігенцыя не стала духоўным аўтарытэтам у грамадстве. Больш таго, існуе думка, што адмоўная рэакцыя большасці насельніцтва на беларускае адраджэнне — у значнай меры адмоўная рэакцыя на інтэлігенцыю. Ды і ў асяроддзі самой інтэлігенцыі няма аднадушнасці і кансалідацыі ў адносінах да беларускасці.**

**Як лічыць той жа Валерый Карбалевіч, беларуская інтэлігенцыя стала чужародным цяперашняй уладзе элементам. А адхіленая ад рэальных рычагоў уплыву на ўладу і палітыку, інтэлігенцыя непазбежна аказваецца ў апазіцыі. Праўда, літаральна ў апошні час уладатрымальнікі ўсё ж вырашылі наладзіць кантакт з прадстаўнікамі творчых саюзаў, работнікамі культуры. Аднак папярэдзілі пры гэтым, што супрацоўнічаць будуць з тымі, хто згодны ажыццяўляць сацыяльны заказ..**

**Як пісаў у нарысах гісторыі расійскай інтэлігенцыі М. Славінскі, «у руках інтэлігенцыі знаходзяцца ўсе ключы ад нацыянальнага лёсу таго народа, прадстаўніком якога яна з'яўляецца». Мне здаецца, гэта вельмі важна зразумець і ўсвядоміць кожнаму грамадзяніну Беларусі — і хатняй гаспадыні, і банкіру, і селяніну, і сённяшняму студэнту. А таму я буду расказваць вам пра тое, як жыве наша інтэлігенцыя, пра яе рэфарматарскі патэнцыял, пра тое, чым скончылася (набыткі і страты) хаджэнне ў палітыку асобных яе прадстаўнікоў, пра сутнасць канфліктаў інтэлігенцыі з уладай, аб прычынах расколу ў асяроддзі самой інтэлігенцыі. Гістарычны вопыт сведчыць: інтэлігенцыя, з'яўляючыся заўсёды праслойкай, трэцяй сілай — падковай паміж кавадлам — народам і молатам — уладай, заўсёды, у канчатковым выніку, рабіла выбар на карысць народа.**

**Таццяна АНТОНАВА,**
**загадчык аддзела культуры рэдакцыі газеты «Звязда».**

# «АХВЯРУЮ СВАІМ «Я» Ў ІМЯ СВЯТОГА ЎСІМ НАМ АДРАДЖЭННЯ

**Радзім Гарэцкі, акадэмік Акадэміі навук Беларусі і Расійскай акадэміі навук, віцэ-прэзідэнт АНБ, ганаровы дырэктар Інстытута геалагічных навук — не той чалавек, якога трэба прадстаўляць. Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што яго імя добра вядомае не толькі ў навуковым асяроддзі, але і самай шырокай грамадскасці. Што датычыцца навукі, то на яго рахунку шэраг манаграфій, карт, некалькі сотняў артыкулаў, 6 навуковых вынаходак, яму прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР за стварэнне Тэктанічнай карты Еўразіі і Дзяржаўная прэмія БССР — за Тэктанічную карту Беларусі, прэмія АН СССР імя акадэміка М. Шацкага. Даследаванне Р. Гарэцкім маладых і старажытных платформаў прынесла значныя практычныя вынікі. Яны ляжаць у аснове навуковага прагнозу шэрага карысных выкапняў такіх абласцей, як Туранская пліта, Прыкаспійская ўпадзіна, захад Усходне-Еўрапейскай платформы (нафта і газ, калійныя і каменныя солі, аалітавыя жалезныя руды, падземныя воды і расолы і інш.). У 1975—1986 гадах Радзім Гарэцкі быў кіраўніком савецкай часткі праекта № 86, а зараз праекта № 346 Міжнароднай праграмы геалагічнай карэляцыі.**



Радзім Гарэцкі — сын Гаўрылы Гарэцкага, аднаго з першых савецкіх акадэмікаў — заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук, доктара геолага-мінералагічных навук, заснавальніка айчыннай палеапатамалогіі — навукі аб гісторыі развіцця ў мінулым рэк і рачных далін, аднаго з сяброў Інбелкульта, вядомага беларускага грамадскага дзеяча, а таксама пляменнік Максіма Гарэцкага — пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай прозы, літаратуразнаўцы, крытыка, фальклырыста, лексікографа і не менш вядомага беларускага грамадскага дзеяча. Дарэчы будзе сказаць, што і для Радзіма Гаўрылавіча грамадская дзейнасць — вельмі значная старонка яго біяграфіі. Так, ён уваходзіць у кіраўніцтва Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, з'яўляецца прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Актыўная работа Радзіма Гаўрылавіча ў абедзвюх гэтых арганізацыях не была выпадковасцю і данінай модзе. Па-першае, яму самому не па добрай волі давялося жыць удалечыні ад Беларусі аж 40 гадоў, і ён выдатна ведае, як гэта цяжка. Па-другое, нягледзячы на тое, што вельмі доўгі час іх сям'я вандравала па неабсяжных прасторах СССР, бацькі Радзіма Гаўрылавіча ўвесь час размаўлялі дома па-беларуску і тым самым прывілі яму любоў да мовы, трапяткія і беражлівыя да яе адносіны.

## З СЯМ'І «ВОРАГАЎ НАРОДА»

Што такое быць сынам «ворага народа», насіць на сабе кляймо, Радзім Гаўрылавіч добра ведае на ўласным вопыце. Столькі давялося пеpажыць знявагі і крыўды, калі ўступаў у камсамол, пасля паступаў у інстытут, уладкоўваўся на працу...

...Дзядзьку Максіма арыштавалі ў 1930 годзе, і ён быў асуджаны па так званай справе «Саюза вызвалення Беларусі» на 5 гадоў ссылкі ў Вятку, дзе і адбыў тэрмін пакарання. А ў 1937 годзе яго зноў асудзілі, і толькі праз 2 гады пасля арышту сям'і ўдалося даведацца, што Максім Гарэцкі памёр у ссылцы ў Комі АССР. Аж да 60-х гадоў нельга было нават называць яго імя.

Аб тым, што звесткі пра дзядзьку — хлусня, Радзім Гарэцкі змог даведацца толькі ў пачатку 90-х гадоў, калі разваліўся Савецкі Саюз. Архіўныя дакументы сведчылі, што М. Гарэцкага расстралялі неўзабаве пасля арышту ў Вязьме.

Чатыры разы арыштоўвалі бацьку Радзіма — Гаўрылу Гарэцкага. Першы раз — у 1922-м годзе — па абвінавачанню ў антысавецкай дзейнасці. Ён вучыўся тады на эканамічным факультэце Пятроўскай (пазней Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве і быў старшынёй Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў акадэміі.

Калі Радзіму было ўсяго 1,5 года, яго бацьку зноў арыштавалі, абвінаваціўшы ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Яе ўгледзелі ў навуковай канцэпцыі развіцця сельскай гаспадаркі Беларусі, адным з аўтараў якой быў Г. Гарэцкі. Дарэчы, канцэпцыя грунтавалася на дзейнасці пераважна дробных гаспадарак.

Толькі цуд выратаваў тады Гаўрылу Гарэцкага ад расстрэлу. Яго адправілі ў ссылку ў Карэлію. Пасля зноў арыштоўвалі: у 1938 і 1939 гадах. І аж да канца 60-х гадоў не дазвалялі вярнуцца ў Беларусь.

...Дзе толькі не давялося жыць Радзіму Гарэцкаму, пакуль бацька быў ссыльным! Аб'ездзілі ўсю Расію, нямала пабачылі людскога гора, папілі яго самі поўнай чашай...

Амаль у 70-гадовым узросце вярнуўся ў Беларусь рэабілітаваны «беларускі шавініст» Гаўрыла Гарэцкі з сям'ёй. Яго сыну Радзіму было ўжо 40 гадоў.

Гарэцкім пасля вяртання на Беларусь давялося на свае вочы ўбачыць, як мала засталося тут беларускага. Адзінае, што яны абодва — бацька і сын — маглі дазволіць сабе, дык гэта размаўляць па-беларуску.

... Калі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння пісьменніка М. Гарэцкага (1993 г.), у Вязьме, непадалёку ад мясцовай турмы, быў пастаўлены помнік з надпісам «Верагодна на гэтым месцы, дзе пахаваны сотні вядомых і невядомых людзей, ахвяр рэпрэсій, ляжыць прах беларускага пісьменніка, вучонага і педагога Максіма Іванавіча Гарэцкага».

З'яўленню такога помніка паспрыяў наш суайчыннік, беларус па паходжанню, кіраўнік адміністрацыі Вяземскага раёна ў Расіі В. Рудніцкі. Я б дадала, што яшчэ і час паспрыяў. Бо ўжо ў 1995 ці 1996 годзе такая акцыя наўрад ці магла адбыцца. Многае змянілася ў самой Расіі, яшчэ больш — у Беларусі. Масавая насталыгія па савецкіх часах адсунула ўбок злачынствы, учыненыя той жа самай савецкай уладай.

## ПАЗІЦЫЯ

90-я гады сталі надзвычай плённымі для акадэміка Радзіма Гарэцкага. У яго як бы адкрылася другое дыханне: «Нарэшце здарылася тое, пра што марылі дзесяткі пакаленняў беларусаў — Беларусь стала незалежнай, — пісаў ён. — Гісторыя дала нам бліскучы шанц — шанц для нашага беларускага адраджэння. Толькі трэба мець на ўвазе, што шанц гэты хутчэй за ўсё апошні. Альбо мы яго скарыстаем і пабудуем свабодную, дэмакратычную, магутную дзяржаву, якая ўвойдзе ў садружнасць еўрапейскіх дзяржаў, альбо Беларусь як дзяржава, а беларусы як нацыя ўжо ніколі не адродзяцца».

Абвешчаная незалежнасць і прыняты Вярхоўным Саветам Закон аб дзяржаўным статусе беларускай мовы дазволіў перавесці справаводства ў Акадэміі навук на родную мову. Для навукоўцаў, якія кепска ведалі беларускую мову, арганізоўваюць спецыяльныя курсы. Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» ўдаецца з падтрымкай дзяржавы правесці Першы з'езд беларусаў свету. Па запрашэнню суайчыннікаў Радзім Гаўрылавіч наведвае ЗША...

Шчырае жаданне беларускай інтэлігенцыі хутчэй убачыць сваю краіну моцнай і квітнеючай вымушае яе актыўна дзейнічаць «на ўсіх франтах» — у культуры, у сферы адукацыі, у літаратуры і публіцыстыцы, а таксама і ў сферы палітыкі.

Радзіму Гаўрылавічу неаднойчы прапаноўвалі вылучыць сваю кандыдатуру ў якасці дэпутата. Яго вядомасць і аўтарытэт гарантавалі поспех, аднак акадэмік быў перакананы, што палітыкай павінны займацца прафесіяналы, а не дылетанты. Ён пажадаў застацца свабодным і незалежным — не ўвайшоў ні ў адну з палітычных партый, што пачалі дзейнічаць у краіне.

Памяркоўны і лагодны па характару чалавек, праціўнік усякіх крайнасцей у палітыцы, ідэалагічнай канфрантацыі ў грамадстве, Радзім Гаўрылавіч жыве ў гэты час ідэяй кансалідацыі ўсіх дэмакратычных сіл у краіне і ўласнай дзейнасцю на пасадзе віцэ-прэзідэнта АНБ, удзелам у дзейнасці грамадскіх арганізацый спрыяе ажыццяўленню гэтай ідэі.

Як вучоны ў галіне прыродазнаўчых навук, Радзім Гаўрылавіч даследуе ўздзеянне радыяцыі на навакольнае асяроддзе, займаецца праблемамі экалогіі, атамнай энергетыкі. Аб выніках сваіх даследаванняў, аб тым, што хвалюе яго як вучонага і грамадзяніна, Радзім Гарэцкі піша ў прэсе.

***З публікацыі ў часопісе «Нёман» № 3, 1991 г. (у сааўтарстве з А. Кудзельскім)***

*...Вынікі ядзернай трагедыі ліквідаваць тэхнічна немагчыма. Тэрыторыі, што пацярпелі ад радыяцыі, не падлягаюць колькі-небудзь эфектыўнай рэкультывацыі, што яшчэ больш рэльефна паказвае ведамасную хлусню ў аснове праграм «ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі» — ліквідаваць здзейсненае нельга, трэба адсяляць».*

*«Радыеактыўнае забруджванне — толькі палова бедаў, што спасціглі рэспубліку. Другая іх палова — агульныя эканамічныя разбурэнні, што захапілі глебы і лясы, паветра і ваду. Стараннямі Аграпрома і дзесяткаў іншых «промаў» нас кормяць атручанымі прадуктамі, мы дыхаем радыеактыўнымі прамысловымі смогамі, п'ём перанасычаную нітратамі і ядахімікатамі ваду. Наша здароўе падвяргаецца ўздзеянню «экалагічнага СНІДу», а сярэдняя працягласць жыцця скарацілася на 5—10 гадоў, дзіцячая смяротнасць перавышае ўсе магчымыя для цывілізаванага грамадства межы. Мы выміраем маўкліва, любы голас пратэсту гасіцца апаратна-ведамасным воклікам: «Давайце без эмоцый!» Ну што ж, давайце без эмоцый... выміраць!*

*«Далей ісці няма куды: узведзеныя ў ранг палітыкі злачынствы супраць інтэлекту і культуры абярнуліся экалагічным генацыдам, генетычным і маральным выраджэннем. Высечаны лясы нашы і атручаны воды, разбураны храмы і заплёваны крыніцы. І пры ўсім гэтым мы яшчэ называем сябе гаспадарамі багаццяў тваіх, Белая Русь...»*

***З публікацыі ў часопісе «Нёман», № 9, 1993 г. (у сааўтарстве з А. Кудзельскім і Я. Пятраевым)***

*«Было б наіўна думаць, што наш беларускі ўрад, прымаючы энергетычную праграму, у якой расстаўлены ўсе акцэнты на карысць развіцця атамнай энергетыкі, не ведаў аб існаванні... антыатамных матывацый. Усё куды прасцей, і, напэўна, мае рацыю Галіна Старавойтава, якая разглядае ўсе постчарнобыльскія праекты будаўніцтва АЭС як «...дамову прамысловага комплексу». Не ў імя нашай з вамі карысці, а ў імя энергетычнага забеспячэння ўласных нястрымных інтарэсаў».*

***З публікацый у часопісе «Нёман», № 6, 1993 г.***

*«На жаль, і палітыка, і эканоміка ў нас дасюль старыя, цалкам залежныя ад «старэйшага брата».*

*«У справу фізічнага і маральнага знішчэння беларусаў вялікі ўклад унёс сталінскі генацыд, а цяпер дадае чарнобыльская катастрофа. Войны, тэрор і ўсялякія бедствы прывялі да вялікай міграцыі беларусаў і іх глыбокай асіміляцыі. На працягу больш чым 100 гадоў колькасць беларусаў застаецца прыкладна аднолькавай, тады як многія народы за гэты час павялічыліся ўдвая і ўтрая. Пры нармальным развіцці народа цяпер беларусаў магло б налічвацца каля 25—30 мільёнаў».*

***З выступлення на II Міжнародным кангрэсе беларускага ПЭН-цэнтра ў 1995 годзе***

*«Так лёгка атрымаўшы дзяржаўнасць, нашы ўлады не шануюць гэтага вялікага дару, аб якім марылі і за які змагаліся многія лепшыя сыны Беларусі».*

*«Большасць чыноўнікаў пасля рэферэндуму перайшлі на рускую мову, хаця добра ведаюць і беларускую. Са справаводства яе зноў амаль цалкам выгналі, што пярэчыць прынятаму Закону аб мовах. Закрываюцца беларускамоўныя школы, класы і садкі, забараняюцца новыя падручнікі, не маюць дадатковай падтрымкі беларускія выданні і г.д. Няўтульна адчувае сябе беларускамоўны беларус у Беларусі».*

## КАНФЛІКТ

Як вы ставіцеся да людзей, якія маюць сваю пазіцыю і ўмеюць яе адстойваць? Я — заўсёды з павагай, нават калі пазіцыя не супадае з маёй. Сёння ў нашым грамадстве не зусім, я б сказала, зручна мець сваю пазіцыю, альбо, дакладней, пазіцыю, якая адрозніваецца ад афіцыйнай.

У Радзіма Гарэцкага ўласная пазіцыя ёсць. І свае адносіны да тых ці іншых пытанняў навукі, культуры, эканомікі, палітыкі ён выказвае не на сваёй кухні ў прысутнасці блізкіх сяброў і жонкі, а публічна, услых. Напрыклад, калі ў Беларусі быў праведзены рэферэндум па пытаннях мовы і сімволікі, Радзім Гаўрылавіч даў інтэрв'ю для радыё, у якім выказаўся вельмі негатыўна ў адносінах да гэтай акцыі.

Як віцэ-прэзідэнт АНБ, Радзім Гарэцкі не мог маўчаць і пра становішча спраў у беларускай навуцы. Ён быў перакананы, што праблема не толькі ў нармальным фінансаванні навукі. Гаворка, на яго думку, павінна ісці пра тое, якой дзяржавай мы збіраемся быць і якую навуку хочам мець.

— На жаль, практычныя падыходы да праблем трансфармацыі навукі засталіся ў нашай рэспубліцы вельмі і вельмі старамодныя, — падзяліўся сваімі думкамі акадэмік Р. Гарэцкі. — Пазалетась, напэўна, для вызначэння ядра сучаснага навуковага патэнцыялу, кіраўніцтва рэспублікі загадала скласці «спісы талентаў» ад усіх інстытутаў акадэміі. Непрыняцце такіх метадаў, супраціўленне адміністрацыйнай сістэме, прынамсі, выказалі многія супрацоўнікі АНБ. А сёлета яшчэ адна навіна: ад усіх навукоўцаў-гуманітарыяў запатрабавалі пісьмовы адказ на сем пытанняў, сярод якіх ёсць і пытанне аб удзеле ў грамадскіх арганізацыях і палітычных партыях. Новая анкета выклікала яшчэ адну хвалю нездаволенасці навукоўцаў становішчам спраў у рэспубліцы. І гэта яшчэ больш паспрыяе адтоку вучоных, іх ад'езду з краіны.

Склад думак чалавека, які займае такую высокую пасаду — віцэ-прэзідэнта АНБ, — безумоўна, не мог не раздражняць улады. «Улады адыходзяць і прыходзяць, а народ і Беларусь застаюцца, — у сваю чаргу быў перакананы Р. Гарэцкі. — Таму думаць трэба перш за ўсё пра народ. А прымусіць усіх думаць аднолькава немагчыма, тым больш, што гэта вельмі непрадуктыўна».

З другога боку, склалася такая дзіўная сітуацыя, калі акадэміка перасталі разумець яго калегі. «Ну чаго ён не хоча жыць спакойна? — пыталіся яны. — Нашто яму гэтыя канфлікты, непрыемнасці, няўжо жыццё не навучыла, што супраціўленне бессэнсоўнае?!»

Вось гэты страх, нейкая маральная прыгнечанасць людзей, іх ціхая пакорлівасць абставінам больш за ўсё ўразілі Р. Гарэцкага. У тым, што страх, ад якога, здавалася, ужо пазбавіліся, зноў стаў адным з самых моцных пачуццяў у многіх людзей, ён пераканаўся яшчэ раз, калі ЗБС «Бацькаўшчына» ў канцы 1995 года ладзіла сустрэчу ў Мінску кіраўнікоў беларускіх суполак замежжа.

(Заканчэнне на 11-й стар.).

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 12 (31)

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Шины 6.40х13 к а/м ИЖ2715 | 890.000 руб. | ЧП «Остлайн» | (0172) 56-08-52 |
| МАЗ 54323 с п/п реэкспортный | | | (0172) 23-48-01, 46-59-06 (вечером) |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |
| **МАТЕРИАЛЫ** | | | |
| Провод ПС-25, 35, 50, 70 | Договорная | Организация | (0172) 77-61-09 |
| **ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ОБОРУДОВАНИЕ** | | | |
| Лампы обогрева с/х животных ИКЗ-250 | | ЗАО «Энергопромсервис» | (0172) 633-203, 634-489 |
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА И ДАЧНИКА** | | | |
| Мини-трактор МТЗ-082 | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотоблоки МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотокультиваторы «Крот» с комплектом с/х орудий | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Комплекты с/х орудий к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Картофелекопатели к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |





*Віншуем Нэлу Паўлаўну БУКО з днём нараджэння. Зычым любімай жонцы, маці і бабулі шчасця, радасці, удачы ва ўсіх справах.*
**Муж, дзеці, унукі.**

## ПРАДАЕЦЦА

**ДЫВАН ШАРСЦЯНЫ**, пастэльных тонаў (Кітай).
Тэл. (0172) 2-21-42-92.

**ДРАЎЛЯНЫ ДОМ** з гаспадарчымі пабудовамі. Звяртацца: Віцебская вобл., Міёрскі раён.
Тэл. 2-50-38.

**ТРАКТАР МТЗ-80.**
Тэл. (8-231) 21-2-85.

**ШЧАНЯТЫ** ратвейлера.
Тэл. (0172) 22-00- 36.

**РОГІ ЛАСЯ.**
Тэл. (0172) 33-57-02.

**Л/А МІЦУБІСІ-ЛАНСЕР,** 88 г.в. Кузаў — 95 г. Дызель, 5 л. на 100 км. Колер белы, 7000$.
Тэл. (8-277) 7-95-46.

Новы **ДРАЎЛЯНЫ ДОМ** для дачы 4,5х5,5 м, два паверхі, з неабходнымі будаўнічымі матэрыяламі, нядорага.
Тэл. (8-245) 60-2-71.

**ДОМ** з гаспадарчымі пабудовамі, сад у в.Грэбень Пухавіцкага раёна.
Тэл. 7-03-35 з 9 да 17 гадзін.

**БУЛЬБАЎБОРАЧНЫ КАМБАЙН** КПК-2-01 «Разань» новы, танна, разлік любы, можна бартэр.
Тэл. (8-02230) 31-7-69.

**ПРАДАЮ КОНЕЙ**: жарабец — 2 гады, жарабя — 1 год. Магчымы бартэр на свініну.
Слуцкі раён. Тэл. 77-3-05.

**КАТЭДЖ** — Нясвіж, цэнтр, 70 км ад Мінска, агульная плошча 200 кв.м, гараж-майстэрня 50 кв.м, побач парк, возера.
Тэл. (8-01634) 64-6-57.

**ХАЛАДЗІЛЬНЫЯ ВІТРЫНЫ**, б/к, 1995 г.в., 220 В, шырыня 1200 мм, 400$.
Тэл. (0172) 72-71-51.

**ГАРАЖ** металічны, уцеплены, кааператыў, Сцяпянка.
Тэл. (0172) 78-03-55.

**ДАЧНЫ ЎЧАСТАК** 10 сотак з домам 4х5 у вёсцы, 49-ы км Слуцкай шашы.
Тэл. (0172) 48-39-35.

**ДОМ** 10х11 без унутраных работ, нядорага ў Мастоўскім раёне.
Тэл. (8-01514) 36-1-48.

**ДОМ** 6х12 з гаспадарчымі пабудовамі, участкам 30х70 м у вёсцы за СКВ.
Тэл. (8-218) 55-7-89.

**ЗЯМЕЛЬНЫ ЎЧАСТАК** 10 сотак (лагойскі напрамак, 30 км).
Тэл. у Лагойску (274) 5-43-14.

## Адказ Людміле з Гомеля

*Добры дзень жа Вам, Людміла,*
*Верш чытаць ваш вельмі міла.*
*Ці паэтка Вы, ці не,*
*Спадабаўся верш Ваш мне.*

*Я мужчына адзінокі,*
*Дужа сціплы, невысокі.*
*Без вусоў і барады,*
*Ды дзяцюк я хоць куды.*

*Не куру, не п'ю гарэлкі,*
*Не б'ю посуд і талеркі.*
*Кажуць, тварам неблагі,*
*І ўстаю з тае нагі.*

*Вось усё я напісаў*
*І шчаслівы, мусіць, стаў.*
*А адказ цяпер Вы мне*
*Перашліце ў пісьме.*

**P.S.** Калі хто з жанчын, узростам да 45 гадоў, захоча мне напісаць, то буду ўдзячны.

***Мой адрас: 222120, г. Барысаў-9, а/с 300, Уладзіміру.***

*Віншуем з днём нараджэння **ГРЭК (КРЭШЧЭНСКУЮ) Наталлю Аляксандраўну** з Мінска.*
*Хай лёс падарыць незлічона дзён*
*Азораных любоўю і пяшчотай*
*Тых, хто ў цябе ўлюблён,*
*Кахае ўсё жыццё адкрыта, а не ўпотай,*
*І радуе цябе вясенні звон,*
*Жыццё ідзе, бы той чароўны сон.*
**Ала, Віктар.**

## РОЗНАЕ

Вывучаю попыт на **дачныя плугі, бытавыя інкубатары.**
Тэл. (8-295) 2-05-91.

АТЭП-5: **перавозкі і экспедзіраванне** ў краіны СНГ, Балтыю і Еўропу.
Тэл. у Мінску 2-75-21-07, 75-63-03, 75-38-00, 75-88-23, 75-65-13.

**Набуду газету «Наша ніва»** (нумары 1—11 ад пачатку ўзнаўлення). Адрас: 212001, г.Магілёў-1, вул.Бялінская, 22-13.

**Праекты:** электраацяпленне, электразабеспячэнне, электраабсталяванне, КВП і аўтаматыкі.
Тэл. у Віцебску 50-4-54.

**Ксеракопія купона не прымаецца.**



*Віншуем **Сасункевіч Людмілу Юльянаўну** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*
**Сын, дачка, муж.**

*Віншуем з днём нараджэння дарагую **Алінку**. Жадаем здароўя, усяго самага найлепшага.*
**Твае муж Юра, сын Дзіма, тата, мама, Коля (з Капыльшчыны).**

# ІНТАРЭСЫ АКЦЫЯНЕРАЎ

***Бадай, не знайсці сёння такой галіны чалавечай дзейнасці, якая прыкоўвала б да сябе столькі ўвагі, як банкаўская справа. Банкі сталі аб'ектам крытыкі не толькі з боку кіраўнікоў урада і гаспадарнікаў, але і простага люду. Прычым крытыкуюць усіх агулам, не звяртаючы ўвагі на тое, што сабой уяўляе той ці іншы банк.***





Сярод гэтага хору раздражнёнасці часам чуюцца крытычныя выказванні і ў адрас АКБ «Белпрамбудбанка». І як правіла на самых розных узроўнях. Але паколькі банк акцыянерны, то апошняе слова ўсё ж павінна быць менавіта за акцыянерамі. І яны сказалі сваё важкае слова ў мінулую пятніцу на штогадовым сходзе. У адрозненне ад большасці падобных сходаў, дзе незадаволеныя акцыянеры выпускаюць шмат крытычных стрэлаў у адрас праўленцаў, тут панаваў размераны рытм работы. Удзельнікі сходу спакойна выслухалі даклады генеральнага дырэктара Мікалая Ракава і старшыні праўлення Леаніда Калугіна, заключэнне рэвізійнай камісіі, прапанаваны праект на бліжэйшую перспектыву.

Было адзначана, што за справаздачны перыяд АКБ «Белпрамбудбанк» многае зрабіў для фінансавай падтрымкі базавых галін народнай гаспадаркі. Гэтаму садзейнічала і крэдытная палітыка банка. Усяго аб'ём крэдытных укладанняў у эканоміку летась склаў 9555 мільярдаў рублёў, што ў 3 разы больш, чым у папярэднім годзе. Прыбытак перавысіў 393 мільярды рублёў. За гэты час капітал банка вырас у 2,2 раза і дасягнуў 469 мільярдаў рублёў. Статутны фонд Белпрамбудбанка на канец 1995 года складаў 49.942,6 мільёна рублёў, або 3,5 мільёна ЭКЮ, што значна перавышае ліміт мінімальнай велічыні, вызначаны Нацыянальным банкам для камерцыйных банкаў.

І ўсё ж, што ў найбольшай меры паўплывала на акцыянераў? Чаму яны аднагалосна зацвердзілі справаздачныя даклады дырэкцыі і праўлення? Адказ напрошваецца сам: значыць, людзі задаволены вынікам работы. Як кажуць, ад дабра дабра не шукаюць. Колькасць акцыянераў банка перавышае 16 тысяч юрыдычных і фізічных асоб. Статутны фонд падзелены на 62.428.226 акцый намінальным коштам 800 рублёў за кожную. Атрыманы за справаздачны перыяд прыбытак забяспечыў высокую даходнасць акцый банка. Нават нягледзячы на чатырохразовае павелічэнне статутнага фонду Белпрамбудбанк здолеў выплаціць акцыянерам 56.298,6 мільёна рублёў дывідэндаў — больш як па 800 рублёў на кожную акцыю. Менавіта на гэтай акалічнасці і засяродзіў увагу намеснік дырэктара Мінскага мотавелазавода Уладзімір Ерафееў, які ад імя прысутных на сходзе падзякаваў праўленню банка і яго дырэкцыі за клопаты аб інтарэсах акцыянераў. А яшчэ ён гаварыў пра тую велізарную фінансавую падтрымку, што аказвае Белпрамбудбанк прадпрыемствам рэспублікі, без якой многія з іх не змаглі б нармальна арганізаваць справу.

Словам, інтарэсы акцыянераў, кліентаў Белпрамбудбанка — тут заўсёды на першым плане. Ці не таму пастаянна расце іх колькасць?

**Уладзімір ГОЙТАН.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае генеральны дырэктар банка Мікалай РАКАЎ; у зале пасяджэння.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*«БУЛЬВАР СМЕХУ»:*

# «Паспрабуйце развесяліць нашу нацыю!»



**«Смех, перш за ўсё, — выпраўленне. Ён здольны зневажаць, таму заўсёды робіць цяжкае ўражанне на таго, хто з'яўляецца яго прадметам. Грамадства помсціць шляхам смеху за тыя вольнасці, якія дазваляюць у адносінах да яго».**

**А. Бергсан, «Смех».**

## У СТЫЛІ БЕЛАРУСКАГА ЧАСУ

Зараз цяжка высветліць, калі засмяяўся першы беларус і хто быў гэты чалавек. Але, безумоўна, ён быў героем свайго часу, бо адкрыў свайму народу смех — сродак выжывання сярод змрочнасцей гісторыі. Каб захаваць гонар, лепш не плакаць пра мінулыя страты, а пасмяяцца з цяперашняга стану, каб выправіць памылкі ў будучым. І што, беларусы прынялі гэты рэцэпт? Ці знайшлі іншыя сродкі лячэння ад суму?.. І ўвогуле, ці шукалі?

*— Апошнім часам смех для Беларусі — з'ява ненатуральная, — лічыць артыст Купалаўскага тэатра Генадзь Давыдзька. — Лёгка ўявіць з усмешкай на твары італьянца, амерыканца, француза. А вось беларус, які смяецца — нешта такое, што супярэчыць прыродзе і ўсёй нашай сучаснай гісторыі.*

Тым не менш, Генадзь Давыдзька даўно марыў пасмяшыць мінчан. «Напрыклад, стварыць бульвар смеху, няхай бы ён быў метраў сто, я нават ведаю прыдатнае месца, — кажа Генадзь. — Кругласутачны бульвар, каб там заўсёды было людна, стаяў свабодны мікрафон і кожны мог выказацца, прыгадаць нейкі жарт. Каб там дарылі ўсмешкі, пацалункі, праводзілі смешныя гульні для дзяцей і дарослых. Толькі смех, смех... Па-за палітыкай, па-за соцыумам. Можна было б аформіць усё ў стылі шчаслівага беларускага часу...»

Мары маюць асаблівасць — здзейсніцца трошкі ў іншай форме. «Бульвар смеху» сапраўды з'явіўся ў Мінску. Тэатр «Бульвар смеху»: мастацкі кіраўнік Генадзь Давыдзька і акцёры Валерый Мацкявічус, Алена Баярава, Ігар Сідарэнка, Наталля Клімчык, Анатоль Кот, Таццяна Шахоўская, Наталля Мотлах. Амаль усе — выпускнікі курса, на якім Генадзь выкладаў акцёрскае майстэрства. Сам ён як рэжысёр паставіў у Купалаўскім тры спектаклі. Неяк сустрэліся хлопцы і дзяўчаты, прапанавалі стварыць свой тэатр. «Ды што вы, — казаў настаўнік, — не трэба рабіць тэатр, гэта небяспечная, непрыбытковая справа, у нас ні сцэны, ні базы...» А яны стварылі. І настаўніку нічога не заставалася, як дапамагаць і кіраваць. Так і з'явіўся незвычайны спектакль «Рок-н-рол на саломе». Незвычайны, таму што смешны і беларускі адначасова.

*— Проста цікава было даведацца, дзе ж беларусы не плачуць,— працягвае размову мастацкі кіраўнік тэатра.— Любая беларуская п'еса пачынаецца з таго, што героі плачуць і хочуць есці. Уся наша літаратура пабудавана на плачы, за выключэннем нейкіх камічных пробліскаў: Дуніна-Марцінкевіча, Гарэцкага, Купалы. Звярніце ўвагу: беларусы не любяць хваліцца, яны любяць скардзіцца, нават калі няма на што, усё роўна скардзяцца на ўсякі выпадак. У нашай нацыі ёсць пэўная няўсмешлівая рыса. А каб выйсці з журботнага стану, п'юць людзі горкую. Рускія таксама п'юць, але каб ірвануць на сабе кашулю і выказаць прэтэнзіі да ўсяго свету, каб нешта здзейсніць: ці паламаць, ці пабудаваць, ці заплакаць, ці палюбіць. Украінцы п'юць, каб адчуць радасць ад сонца, палёў, украінцы запраграміраваны на тое, каб пасмяяцца. А беларус, перш чым рассмяяцца, прааналізуе сітуацыю, агледзіцца: «А чаго?...» Спакон веку беларускі мужык піў для таго, каб забыць сум, выказацца тужлівай песняй. Нашы беларускія песні ў большасці сваёй сумныя — і прыгожыя. З вясёлых беларускіх песень мне амаль ні адна не падабаецца, толькі ў выкананні фолк-мадэрн гурта «Палац», а так гэта нейкая «ум-ца-дрыца» ці вясёлая ўкраінская песня, якая добра ў нас прыжылася. Калі ж услухацца ў журботную беларускую песню — так, гэта пesнішча.*

*У акцёрскіх «хітрыках» ёсць такі прынцып: калі іграеш злодзея, шукай, дзе ён добры. Дык вось, калі я адношу сябе да гэтага народа, заплаканага, з сумнымі вачыма, то павінен разабрацца, дзе ж ён смяецца і як.*

Так Генадзь Давыдзька звярнуўся да фальклору і знайшоў там салідны пласт. Смяяцца, як аказалася, у нас умеюць. Але гумар вельмі своеасаблівы, заўсёды з сумам.

**Анекдот.** «Мама, а дзе ж наша самагонка?» — пытаецца хлапец. «А як бацьку хавалі, дык усю і папілі». — «А-а, то-та я гляджу: ні гарэлкі, ні бацькі».

Дзякуючы неўміручым анекдотам спектакль успрымаецца вельмі сучасна, напэўна таму, што сэнс беларускіх жартаў так і не змяніўся. Нам і да цяперашняга часу ёсць на што скардзіцца, з чаго смяяцца. Але на прадстаўленнях сцэнічнага шоу, як назвалі сваю дзею артысты, смяецца ў асноўным моладзь. Адзін з галоўных лозунгаў тэатра: «Лепш «прыкаліся», чым укаліся». Дзеля моладзі і працуюць, таму што ёю сёння ніхто не займаецца, дзецям няма куды падзецца. Рэжысёра гэта непакоіць, таму што ў самога дачка падрастае, а акцёры нядаўна студэнтамі былі і добра адчуваюць, што такое адсутнасць маладзёжнай палітыкі. «Я не наіўны, каб думаць: вось зраблю спектакль — змяню жыццё, — кажа Генадзь. — Калі некалькі падлеткаў з вуліцы да нас прыйдзе — ужо не дарэмна працуем. Прагматызм зараз падаўляе культ душы, рамантыкі зусім няма... Але напэўна нармальнае пакаленне падрастае, і сем'і ў іх будуць, і праца. Іншая справа — наколькі ў іх хопіць паэзіі». Рэжысёр і яго каманда былі моцна зацікаўлены, каб моладзь прыняла беларускую мову як сваю, на якой можна размаўляць і быць «крутым». Беларуская мова можа гучаць сучасна, гэта рок-н-рольная мова, а хто ў гэтым сумняваецца, няхай паглядзіць «Рок-н-рол на саломе».

Ізноў-такі, яшчэ адзін доказ апанентам, якія сумняваліся: ці можна паставіць нешта смешнае на беларускай мове? Дастаткова «Паўлінкі» купалаўскай, ці «Ажаніцца — не журыцца», народ ходзіць, смяецца. А Генадзь Давыдзька казаў, што і сучасны спектакль на беларускай мове можна зрабіць смешным, і смяяцца будуць, і гуртамі будуць прыходзіць «некіруемыя» падлеткі. І будуць выносіць па некалькі фраз са спектакля, якія прыжывуцца ў іх слэнгу. І дасягнуў. Ён выйграў гэтую спрэчку.

*— А што, спектакль з'явіўся як аргумент у спрэчцы?*

*— У мяне многа добрых сяброў сярод беларускіх літаратараў, мастакоў, паэтаў, драматургаў. Апошнія гадоў дзесяць мы пастаянна гаварылі пра лёс народа, літаратуры. І гэтая спрэчка не ўзнікла адразу, у сувязі са спектаклем. Увесь час ішла гаворка, што на беларускамоўныя пастаноўкі цяжка завабіць рускамоўную публіку. Таму я свядома вырашыў паспрабаваць.*

*У святле апошніх падзей я не бачу перспектыў для развіцця беларускай культуры. Як зараз яе прадстаўляюць, беларуская культура — гэта псеўданацыянальны сіроп з прытопамі, прыхлопамі і крычаннем слоў на мове. Вось гэта быццам бы народнае. У паняцце «народ» я ўкладаю такі сэнс: гэта ўсе людзі, што жывуць на нашай зямлі. Забываем, што культура развівалася не толькі як вясковы фальклор. Так, адначасова адны ігралі на дудачках і складалі казкі, а насельнікі замкаў ігралі на клавесінах і скрыпках. Але гэта быццам бы і не народ, і культура больш высокая, быццам бы «ненародная». Я шкадую сябе і іншых за такі падыход. І калі бясконца круцяць па радыё, як спяваюць вясковыя бабкі (быццам бы ў нас падтрымліваецца культура), то толькі гэта не зробіць нас духоўна багацейшымі.*

### «ЗАРАЗ ТРЭБА СУЦЯШАЦЬ НАРОД»

Напэўна, так. І мне таксама хацелася знайсці суцяшэнне, ці адпачыць, ці проста пераключыцца, не ведаю, калі ішла ў тэатр смеху. Хоць сам спектакль, складзены з народных анекдотаў і жартаў, суцяшальным не назавеш. Таму што ўсё жыццё беларусаў — не што іншае, як рок-н-рол на саломе, часам такія выкрутасы вырабляем, што іншы даўно выцягнуў бы ногі, а мы нічога, жывём. То да Бога ў малітве звяртаемся, то з чортам пагадненне шукаем. Канчаецца гісторыя небаракі-беларуса словамі: «І да гэтага часу мы не маем золата і на нейкага чорта працуем».

*Што тычыцца суму, які можа выклікаць спектакль («на чорта працуем») — ці ж гэта нова для Беларусі? Звычайны лозунг народа, памятаеце:»А хто там ідзе?» Беларусы, якія пакутліва нясуць свой крыж, нават атрымліваюць ад гэтага нейкае задавальненне. Увогуле, беларусам у нейкай ступені ўласцівы масавы мазахізм.*

**Анекдот.** Ідзе беларус па Кіеву. Раптам прама на яго зверху выліваюць вядро памыяў. «Ну вось... — падымае галаву, — а каб чалавек ішоў...»

А калі глядзець у будучыню, артысты занепакоены, што, магчыма, далей прыйдзецца перайсці на рускую мову, таму што тут створаны ўсе ўмовы для таго, каб творчыя беларускамоўныя калектывы павыміралі. «Бульвар смеху» лічыцца тэатрам камерцыйным. І гэта смешна гучыць. Таму што камерцыя — гэта разлік, а яны разлічваюць толькі на смех. Але артысты вельмі ўдзячныя сваім гледачам: яны даюць новаму тэатру магчымасць існаваць далей, атрымліваць за гэта радасць.

На радасць гледачам адбылася ў тэатры яшчэ адна прэм'ера. Мюзікл «Вясёлыя жабракі» паводле Бёрнса паставіў малады рэжысёр Сяргей Кавальчык. Шалёныя грошы патрэбны, каб запісаць фанаграму, нічога, залезлі ў даўгі, закупілі гукавую апаратуру, таму што тэатр хоча жыць.

Неяк з'явіліся людзі, фірмы, якія збіраліся дапамагчы тэатру. За апошні час іх так абрабавала дзяржава, што было б зусім нялішне, каб ім самім нехта дапамог. І такое адчуванне, што жыццё рушыць да горшай мадэлі, з адсоўваннем культуры на самы край, калі ставіць спектаклі для вузкага кола гледачоў выгадней, чым ездзіць на гастролі. У Жодзіне, Гомелі нядаўна былі, упэўніліся, што людзі сумуюць па добраму смеху. Толькі арганізаваць такія гастролі вылятае ў капеечку. Гэта ж не тое што ў сярэднявеччы — набыў кібітку, і падарожнічай на ёй, куды дарога вядзе. Цывілізацыя не пайшла на карысць артыстам, прынамсі ў нашай краіне.

Сярод дзяцей у садку вылучаюць непаслухмяных і тых, з каго «выйдзе толк». Так і сярод акцёраў: непаслухмяныя дзеці, якія займаюцца няўдзячнай справай, — артысты камічнага жанру. Быццам бы і сур'ёзныя людзі, а смяюцца і смяюцца. На Беларусі да нядаўняга часу прафесіянальна ў гумары ніхто не працаваў. І вось на не асвоенай гумарам тэрыторыіі з'явіўся тэатр «Хрыстафор». І паспрабаваў раптам рассмяшыць хмурую нацыю з размытымі рысамі нацыянальнага характару. «Хрыстафор» выйшаў з Купалаўскага тэатра, Генадзь Давыдзька таксама ведае цяжкасці першапраходцаў, таму што быў адным са стваральнікаў і год працаваў там.

*— У гумары цяжка працаваць, а «Хрыстафор» паспрабаваў гэтую справу разварушыць і разварушыў. Такі тэатр, як «Хрыстафор», у Адэсе даўно б на руках насілі. Я лічу, што гэта ўжо нацыянальны набытак і гісторыя.*

*Чым «Бульвар» адрозніваецца ад «Хрыстафора»? Па-першае, мы не эстрадны тэатр, мы тэатр камедыі, калі гаварыць груба — музычнай. «Хрыстафор» — тэатр эстрады, яны ў асноўным ладзяць канцэрты, якія часам называюць спектаклямі. Магчыма, і мы зробім які-небудзь канцэрт. Але акцёры «Бульвара смеху» — маладыя выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў, а там эстраду не выкладаюць. Эстрада — зусім іншы спосаб існавання на сцэне, «хрыстафораўцы» яго спасцігалі самі. Мы існуём як драматычныя акцёры ў пэўным жанры.*

*Што датычыцца канкурэнцыі, то ў нас розная публіка. У «Хрыстафора» — дарослыя людзі, якія глядзяць серыялы і хочуць неяк бавіць час. У нас — моладзь, якой трэба «адарвацца». У нас ужо многа фанатыкаў, якія глядзяць спектакль не першы раз.*

**Парада:** смейцеся, бо гэта карысна. Калі дрэнны настрой, трэба проста расцягнуць вусны ва ўсмешку, і самаадчуванне палепшыцца за кошт мімікі.

*— Вы самі ці часта зараз смеяцеся?*

*— Пастаянна. Акрамя тэатра ёсць яшчэ праграма на МКТ «Налівай». Добра весяліць мяне народ любімы. Ён зрабіў усё, каб выглядаць смешна. У наступнай нашай пастаноўцы я ізноў буду смяяцца разам з беларусамі. Баліць у мяне тэма народа, каранямі ўвесь тут. Як казаў Дунін-Марцінкевіч, «магілы бацькоў» тут. Падазраю, што я, магчыма, дзесьці і небеларус, калі, разумеючы сутнасць сітуацыі, умею смяяцца. І гэта добры смех, бо я не хлушу і не імкнуся да ўлады. А злыя жартачкі і злы смех у палітыкаў, што вызначаюць наша жыццё. Але ім таксама лепей дараваць і гэты смех, і падман. Толькі ўжо больш не верыць ім, і быць вольнымі і моцнымі. Вось, напрыклад, чалавек вінен вам 10 тысяч, вы спадзеяцеся іх калі-некалі атрымаць — у гэтым ваша слабасць. А падарыце іх яму і смейцеся — за такую мізэрную суму вы атрымалі інфармацыю пра чалавека. Вось мы атрымалі інфармацыю шляхам адкату назад прыкладна на пяць гадоў, давайце смяяцца: памыліліся. Але тут са смехам куды больш складана, палітыка намнога хітрэйшая, чым уяўляе сабе народ. Таму і сумна.*

*— Ці можна ўвогуле навучыцца жыць без плачу, са стваральным смехам?*

*— Так, але для гэтага трэба не мець шанцаў.*

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*ГАЛЕРЭЯ*

## ШЛЯХ ДА РОДНЫХ КРАЯВІДАЎ

**Галерэя «Шостая лінія» працягвае знаёміць з сучасным беларускім жывапісам. «Рамантычны краявід» — такая назва выстаўкі мастакоў Пятра Шарыпы і Алены Шарыпы. Родны, беларускі наш краявід. Пейзаж, які з маленства побач. Але ці заўсёды заўважаем яго? Ці хапае мужнасці адысці ад сумных дум і паглядзець яму ў твар? Ён нас кліча да сябе, а мы чамусьці кажам: «Не трэба». Адварочваемся ад шчырасці і з усіх сіл хапаемся за штучнасць.**

Мастак мае абавязкі сцвярджаць каштоўнасць такіх свяшчэнных і гарманічных вобразаў роднай зямлі, бо гэта вельмі патрэбна сучаснікам. На думку мастака Пятра Шарыпы, «пейзаж фарміруе этнас і ў той жа час непарушна звязаны з ім». Знішчэнне натуральнага прыроднага асяроддзя — небяспека для нармальнага развіцця як чалавека, так і цэлага народа. Таму стваральная энергія і неспакой адчуваюцца ў поглядзе мастака, абуджаюць свядомасць людзей праз далучэнне іх да свету яшчэ не скажонага, чыстага, натуральнага. Спрадвечныя сялянскія сядзібы і культавыя помнікі падкрэсліваюць беларускі характар яго пейзажаў, бо яны арганічныя гэтай зямлі, зрасліся з ёю ў непарушнай цэласнасці. Пакаленні выхоўваліся, гледзячы на гэтыя краявіды. І сёння ад мастака-бацькі вучыцца глядзець на іх дачка, студэнтка акадэміі Мастацтваў Алена Шарыпа. Вучыцца бачыць і захапляцца...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ВЕРНІСАЖ У ТЭАТРЫ ЮНАГА ГЛЕДАЧА

**Незвычайны выгляд набылі ў гэтыя дні абодва фае Тэатра юнага гледача. Тут размясціла свае экспазіцыі выстаўка юных мастакоў, якія навучаюцца ў Беларускім ліцэі мастацтваў.**

У акварэлях вучняў 6—8 класаў і ў жывапісных палотнах, выкананых алейнымі фарбамі старшакласнікамі, знайшлі адлюстраванне любоў да роднай прыроды, далёкая і нядаўняя гісторыя бацькаўшчыны, падзеі сёнішняга дня. Супрацоўнікі псіхолага-педагагічнай службы тэатра і прадстаўнікі ліцэя знаёмяць юных гледачоў з выстаўленымі работамі, многія з якіх выклікаюць захапленне як у дарослых, так і ў дзяцей.

Мяркуецца, што экспазіцыі перыядычна будуць абнаўляцца і мяняцца цалкам. На змену мастакам з ліцэя прыйдуць юныя таленты з сярэдніх школ. Будуць экспанавацца таксама лепшыя вырабы з дрэва, саломкі, выцінанкі і іншыя мастацкія работы школьных умельцаў. Выстаўка прысвячаецца 40-годдзю тэатра, якое адбудзецца ў красавіку гэтага года.

**Сяргей ШАМІЁНКА,**
**памочнік загадчыка літаратурнай часткі.**

## ДА ТРАДЫЦЫЙ ПРАЗ КАТАСТРОФЫ

**У гэтыя дні ў Мінску праходзіць фестываль народнай творчасці чарнобыльцаў. Ініцыятарам і арганізатарам яго выступіла Беларуская асацыяцыя чарнобыльскіх арганізацый «26 красавіка» пры падтрымцы Міністэрства культуры, Мінгарвыканкома і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароны насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС.**

«Галоўная ідэя фестывалю ў тым, — кажа старшыня асацыяцыі Міхаіл Образаў, — што людзі, якія пацярпелі ад Чарнобыля, — гэта не толькі жабракі, якія просяць міласціны, а тыя, хто, нягледзячы на ўсе нягоды, захавалі вернасць векавым традыцыям культуры і мастацтва свайго народа і самі з'яўляюцца іх прадаўжальнікамі».

**Наталля ГУСАКОВА.**

## ФЕСТЫВАЛЬ СТУДЭНЦКІХ ТЭАТРАЎ

**Калі ў рэспубліцы ніхто не працуе, студэнты па-ранейшаму вучацца, вучацца і яшчэ раз вучацца. А таксама культурна бавяць вольны час.**

23 сакавіка ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (БДЭУ) гала-канцэртам закончыўся 1-ы Рэспубліканскі фестываль СТЭМ (студэнцкіх тэатраў экстрадных мініяцюр). Арганізатары фестывалю — Беларускі саюз моладзі і Міністэрства культуры — ставілі на мэце адрадзіць традыцыі СТЭМ. Гульня, якая нагадвае КВЗ, была папулярнай у бацькоў сённяшніх студэнтаў.

У фестывалі ўдзельнічалі 10 каманд з гарадоў Беларусі (у тым ліку 4 — з Мінска). Іх выступленне ацэньвала кампетэнтнае журы, у саставе якога кампазітары, рэжысёры. Гран-пры быў прысуджаны тэатру «Канкан» з Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Плануецца фестываль СТЭМ праводзіць штогод. Усмешкі на тварах гледачоў, што пераходзяць у істэрычны смех, — гарантаваны.

**Марына АЖГІРЭЙ.**

АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАЕКТ РЭФАРМІРАВАННЯ ШКОЛЫ

# СУЧАСНАЕ ПАКАЛЕННЕ НАСТАЎНІКАЎ БУДЗЕ ЖЫЦЬ ПРЫ...

**Сучасны настаўнік, асабліва які мае больш-менш працяглы вопыт работы ў школе, разумеючы неабходнасць змен у сістэме адукацыі, усё ж даволі інфантыльна ставіцца да любых мерапрыемстваў, звязаных са словам «рэформа». Па сутнасці, ён, настаўнік, апошнім часам і не працаваў у стабільнай сістэме каардынат: з году ў год мяняюцца праграмы, паступаюць і спісваюцца «маральна» састарэлыя падручнікі, хваля за хваляй накочваюцца і разбіваюцца аб сцены школ новыя інтэнсіўныя тэхналогіі, ператвараецца ва утыль матэрыяльна-тэхнічная база, настаўніцкія сем'і набліжаюцца да жабрацкага стану. А тут зноў рэформа... Для работнікаў школы пакуль што вядома адно: сучаснае пакаленне настаўнікаў будзе жыць пры рэформе (калі наогул будзе жыць).**

З усіх апублікаваных «дарэформенных» матэрыялаў самым ясным і зразумелым з'яўляецца праект структуры адукацыі ў рэспубліцы Беларусь (гл. «Звязду» за 25.01.96 г.). Здаецца, гэта аптымальны варыянт, бо ўключае бесперапыннасць адукацыі, варыятыўнасць формаў на вышэйшых ступенях, развіццё тых арганізацыйных адзінак, якія існуюць зараз. Што датычыцца школы, то зразумела, што яна пабольшае на адзін «паверх» (стане 12-павярховай), адбудуцца некаторыя змены ўнутры будынка сярэдняй адукацыі, і дзецям будуць нададзены роўныя правы з дарослымі на адпачынак — нарэшце школьнікі, як і іх бацькі, будуць мець два выхадныя.

Вызначыўшы структуру адукацыі, Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь зрабіла, тым не менш, самую лёгкую справу — архітэктурную. Значна цяжэй будзе распрацаваць змест і праграмы навучання, падручнікі і метадычныя рэкамендацыі. І складанасці будуць не аб'ектыўнага навукова-педагагічнага плана (у свеце дастаткова вопыту па гэтых праблемах), а суб'ектыўнай, палітычнай кан'юнктуры. Калі ж распрацоўшчыкі пойдуць у рэчышчы другой плыні, то можна быць упэўненымі, што гэта рэформа ўжо будзе цяжарная новай рэформай. І таму, на маю думку, вельмі важна напачатку вызначыцца не толькі са структурай адукацыі (каркасам будынка), але і з яе асновай (падмуркам). Толькі на трывалым падмурку можна ўзводзіць трывалыя пабудовы.

У свой час вядомымі ўсім дэкрэтамі школа ў СССР была аддзелена ад царквы, а царква — ад дзяржавы. У выніку гэтага сістэма адукацыі пачала засноўвацца і развівацца на падмурку абсалюту матэрыялізму і атэізму. На працягу некалькіх пакаленняў грамадству насаджаліся погляды матэрыяльнасці ўсяго навакольнага свету, нас пераконвалі ў абмежаванасці чалавечага жыцця, немагчымасці існавання Духа пасля смерці, адсутнасці Вышэйшага Суда і г. д. І хоць у «Маральным кодэксе будаўніка камунізму», па сутнасці, паўтараліся многія хрысціянскія ісціны, насаджалася думка (праз падручнікі, школу, кнігі, тэлебачанне, радыё, газеты і г. д.), што жыццё ў чалавека адно, што суддзя яму толькі дзяржава, што трэба жыць сучасным днём. У выніку тэарэтычны матэрыялізм трансфарміраваўся ў практычную формулу: «Бяры ад жыцця ўсё, што можаш узяць зараз». І бяруць. Таму няма чаго здзіўляцца той хвалі маральнай дэградацыі грамадства, таму шквалу насілля, якія выплюхнуліся на гарады і вёскі пост-СССР. І крызіс у грамадстве пачаўся не з эканомікі, а з душ чалавечых, і сёння шматлікія карныя органы не здольны знішчыць насілле, бо самі гэткія ж хворыя, як і ўсё грамадства. Нармальнае жыццё можа адрадзіцца пры нармальным светаўспрыманні.

Разумею, што многія не пагодзяцца з маімі думкамі, але мушу канстатаваць: сістэма адукацыі павінна змяніць сваю філасофскую аснову — месца матэрыялізму павінен заняць ідэалізм. Вядома, гэта вельмі складана, але гэты крок — неабходны. Без яго незразумелай робіцца галоўная мэта намячаемай рэформы — гарманічнае развіццё асобы. Асобы без Душы не бывае, а Душа — гэта ўжо сфера ідэалізму.

Такім чынам, ідэалізм — галоўная аснова новай школы, галоўны яе пастулат? Так, і з ім звязаны ўсе іншыя пастулаты, якія можна пакласці ў падмурак новага будынка. Іх дастаткова толькі пералічыць: «Новая школа — школа здароўя», бо фізічная дасканаласць чалавека — аснова свабоднага развіцця Духа. «Новая школа — школа агульначалавечых каштоўнасцей», а агульначалавечыя каштоўнасці — гэта не вынаходка апошніх дзесяцігоддзяў, а даўно вядомыя біблейскія ісціны. «Новая школа — школа нацыянальная», бо Асоба (Душа) стварае Культуру, а Культура — з'ява ў першую чаргу нацыянальная. «Новая школа — школа творчасці», бо творчасць — форма жыцця Асобы (Душы). «Новая школа — школа асноў навук і вытворчасці», бо Асобе для самаўдасканалення і творчасці неабходны веды і інструментарый.

На падставе прапанаваных пастулатаў і структуры адукацыі (падмурка і будынка) можна напаўняць сістэму зместам і праграмамі.

Вельмі важна і тое, што на падставе ідэалізму можна стварыць выдатную сістэму выхаваўчай работы, якая зараз, па сутнасці, знаходзіцца ў стане вялацякучага параліча. Яе формай можа стаць скаўтынг са сваім цудоўным лозунгам «Служыць Богу і Айчыне». Скаўтынг добра распрацаваны ў свеце, і наша краіна мае вельмі вялікія магчымасці для яго развіцця ў розных праяўленнях.

На падставе прапанаваных пастулатаў можна вызначыць узроўні адукацыі і іерархію каштоўнасцей. Для школы можна выдзеліць тры асноўныя структурныя адзінкі, што абагульнена паказваюць тыя сферы чалавечага «я», якія прызвана развіваць школа. Гэта: «Душа» — духоўныя якасці; «Цела» — фізічныя якасці; «Розум» — разумовыя дзеянні, практычныя веды, навыкі, уменні. У школьным працэсе названыя элементы пераплятаюцца, узаемадапаўняюць і ўзаемаўплываюць адзін на аднаго. І ўсё ж на розных ступенях школьнай адукацыі можна вызначыць своеасаблівыя дамінанты: на першым узроўні (пачатковая школа), калі ідзе інтэнсіўны рост арганізма школьніка, калі ёсць вялікая прыродная патрэба ў дзейнасці і рухах, дамінантай выступае «Цела»; для сярэдняга школьнага ўзросту, калі адбываецца станаўленне духоўнай сферы чалавека, адбываецца ацэнка ўласнага «я» і навакольнага свету, дамінантай становіцца «Душа»; а ў старэйшым школьным узросце, калі эмацыянальна-псіхалагічны ціск трохі спадае, актывізуецца пазнавальна-практычная дзейнасць і дамінантай становіцца «Розум».

Вялікую праблему ў ажыццяўленні рэформы створыць моўнае і — шырэй — нацыянальнае пытанне. Любы чалавек, здольны лагічна разважаць, абавязкова прыйдзе да высновы, што ў незалежнай дзяржаве Беларусь павінна дзейнічаць адзіная нацыянальная школа. І, лагічна, натуральнай мовай выкладання і навучання павінна быць беларуская. Альтэрнатывай нацыянальнай беларускай школе можа быць толькі антынацыянальная. Але гэта мы ўжо, як кажуць, праходзілі.

Калі рэформа возьме курс на нацыянальную школу (у чым зараз прыходзіцца вельмі сумнявацца), то можна будзе прапанаваць і адпаведную схему вывучэння моў у школе.

Пэўныя змены павінны адбыцца і ў сістэме адзнак, і ў сістэме экзаменаў. Так, можна прапанаваць захаваць сістэму адзнак на першым і другім узроўні школы, і ўвесці бальную сістэму для трэцяй ступені, якая б магла знайсці працяг у ВНУ і ў сістэме прафтэхадукацыі.

Варта было б выніковыя экзамены за курс 9 (10 кл.) не праводзіць, а замяніць іх уступнымі ва ўсе ўстановы трэцяй ступені. Поспехі і няўдачы рэформы ў многім будуць залежаць ад настаўнікаў, ад іх энтузіязму, энергіі, жадання працаваць лепш. Але чамусьці пра настаўнікаў успамінаюць заўсёды ў апошнюю чаргу і толькі на словах. Хацелася б, каб новая рэформа пачалася менавіта з настаўнікаў, і не ў перспектыве 2000 года, а, напрыклад, з наступнага месяца. І для гэтага не трэба распрацоўваць ніякіх канцэпцый, дастаткова толькі выканаць у поўным аб'ёме Закон аб адукацыі. Вось калі ў настаўнікаў зарплата за стаўку рабочага часу зраўняецца з сярэднім узроўнем зарплаты ў прамысловасці, а па графіку выдачы зарплаты можна будзе правяраць каляндар, то тады мы з упэўненасцю скажам, што першы камень у падмурак новай школы закладзены.

**Ігар ПРАКАПОВІЧ,**

**настаўнік геаграфіі СШ №1, удзельнік рэспубліканскага конкурсу «Настаўнік года-95», член Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь.**

*г. Паставы.*

**Ад рэдакцыі.**

*Мы разумеем, наколькі нетрадыцыйны падыход прапануе аўтар. Вядома, можна было б спісаць гэта пісьмо ў архіў і зрабіць выгляд, што яго не было. Але за пісьмом — глыбокая чалавечая перакананасць, і што яшчэ важна — пазіцыя не аднаго І. Пракаповіча. А таму гэта ўжо з'ява грамадская, якая мае права трапіць на старонкі друку — каб стаць прадметам абмеркавання, дыскусіі, згоды або нязгоды.*

*Мы зараз — у роздуме і пошуку. Шукаем дарогу да саміх сябе. Да храма — у сваёй душы, у сваёй краіне. То давайце шукаць добразычліва і — ўсе разам.*

АДУКАЦЫЯ Ў СТАЛІЦЫ:

# пачатак стагоддзя і дзень сённяшні

**Усеагульнасць, даступнасць і бясплатнасць адукацыі, да чаго мы прызвычаіліся за гады савецкай улады, існавалі, як вядома, не заўсёды. Усё паступова вяртаецца на кругі свае: хочаш атрымаць добрую адукацыю — плаці. Можна па-рознаму ставіцца да платы за навучанне, але нельга адмаўляць, што з'яўленне недзяржаўных навучальных устаноў значна пашырыла і колькасць людзей, якія атрымліваюць вышэйшую адукацыю, і кола спецыяльнасцей. Акрамя таго, новыя навучальныя ўстановы сабралі вельмі моцныя настаўніцкія кадры.**

**Цікава, а якія справы былі з адукацыяй у дарэвалюцыйным Мінску...**

У Мінску, як і ва ўсёй дарэвалюцыйнай Расіі, адзінай сістэмы сярэдняй адукацыі не існавала. У 1913 годзе ў горадзе налічваліся 2 мужчынскія і 5 жаночых гімназій, 2 рэальныя вучылішчы, камерцыйнае вучылішча, 2 жаночыя прагімназіі і духоўная семінарыя. З іх мужчынская і 3 жаночыя гімназіі, рэальнае вучылішча і 2 прагімназіі былі прыватнымі.

Большасць гарадской інтэлігенцыі ў дарэвалюцыйным Мінску складалі работнікі асветы. У 1910 годзе ў пачатковых школах налічвалася 227 настаўнікаў, а ў ніжэйшых і сярэдніх школах працавала 556 чалавек. Акрамя штатных настаўнікаў мелася шмат рэпетытараў. «Хто толькі не рыхтуе дзяцей у ніжэйшыя класы», — пісаў «Минский листок» у 1900 годзе. У сярэднія навучальныя ўстановы (гімназіі, рэальныя і камерцыйныя вучылішчы) прымаліся дзеці, якія ўжо засвоілі азы пачатковай школы: чытанне, правапіс, асновы арыфметыкі. Таму забяспечаныя бацькі былі вымушаны прыватным парадкам даваць дзецям пачатковую адукацыю дома, запрашаючы настаўнікаў.

Вучняў сярэдніх школ (усіх тыпаў) у Мінску ў 1913 годзе было 5150 чалавек. Растучая грамадская патрэба ў жаночай адукацыі абумовіла значнае павелічэнне колькасці вучаніц: з 477 у 1890 годзе да 2768 — у 1913-м. Вучні-хлопчыкі ўпершыню аказаліся ў меншасці.

Навучанне ў пачатковых школах, апроч гарадскіх вучылішчаў, было бясплатным. А вось саслоўны характар сярэдняй адукацыі яшчэ не быў знішчаны. У 1913 годзе на прывілеяваныя саслоўі ў сярэдніх школах горада прыпадалі 34 працэнты, у гарадскіх — 57,9, на сялян — 7,9 працэнта. Паводле сведчання дырэктара народных вучылішчаў Мінскай губерні, гімназіі і рэальныя вучылішчы з'яўляліся «галоўным чынам навучальнымі ўстановамі прывілеяванага заможнага класа».

За навучанне абавязкова патрабавалася высокая плата. Напярэдадні першай сусветнай вайны прыватныя навучальныя ўстановы горада бралі за навучанне адной асобы да 150 рублёў кожны год. Выпадкі выключэнняў з саставу вучняў толькі за тое, што бацькі ў тэрмін не змаглі заплаціць, не з'яўляліся рэдкасцю. У 1909 годзе, напрыклад, з дзвюх мінскіх мужчынскіх гімназій выбыла 95 вучняў, ці 40 працэнтаў залічаных у тым жа годзе.

Але сярэдніх навучальных устаноў у Мінску не хапала. Нават прыватныя гімназіі не маглі прыняць усіх жадаючых вучыцца. З 200 чалавек, якія падалі прашэнне аб залічэнні ў адну з такіх гімназій у 1911 годзе, трапілі туды толькі 96, ці 48 працэнтаў.

☆☆☆

На сённяшні дзень у Мінску дзейнічае 221 сярэдняя школа, у якой навучаюцца 250.193 чалавекі. Акрамя дзённых школ існуюць шэсць вячэрніх. Прычым сітуацыя з дэфіцытам вучнёўскіх месцаў не змянілася — іх па-ранейшаму не хапае. У горадзе таксама 7 недзяржаўных навучальных устаноў, якія даюць пачатковую і сярэднюю адукацыю на аснове ліцэнзіі Міністэрства адукацыі і навукі РБ. Навучацца там сваім дзецям могуць дазволіць далёка не ўсе бацькі.

Так, напрыклад, у мінскай гімназіі «МОКА» адзін месяц навучання абыходзіцца бацькам у 200 долараў. На гэту суму трэба арыентавацца і пры выбары любой іншай з існуючых у сталіцы недзяржаўных навучальных устаноў. Да іх адносяцца гімназія «Наступны час» (1—5 кл., колькасць вучняў 60 чалавек), жаночая гімназія «Каранарыя» (падрыхтоўчы і 1—4 кл., 34 вучаніцы), гімназія «ЭКО-Л» (1—9 кл., 90 вучняў), пачатковая школа «Новая надзея» (падрыхтоўчы і 3 клас, 25 вучняў), пачатковая школа «Мэрыус» (падрыхтоўчы і 1—4 кл., 20 вучняў). Акрамя таго ў Мінску пачала працаваць недзяржаўная гімназія «Альтэрнатыва», створаная фондам ФРІП як састаўная частка сістэмы няспыннай прафесіянальнай адукацыі, што ўключае ў сябе таксама Беларускі недзяржаўны інстытут кіравання, фінансаў і эканомікі (БелНІКФіЭ) і Недзяржаўны інстытут дзелавога адміністравання (НІДА). Праўда, калі ў цябе няма сродкаў для аплаты вучобы, але ёсць жаданне і здольнасці, то прадастаўляецца магчымасць звярнуцца ў дзяржаўную гімназію, ліцэй ці каледж і, калі пройдзеш конкурсны адбор, прадоўжыць сваё навучанне там.

☆☆☆

Пасля закрыцця ў 1863 годзе Горы-Горацкага земляробчага інстытута Беларусь засталася без вышэйшай навучальнай установы. Патрэба ж у спецыялістах расла і расла.

У 1914 годзе ў горадзе адкрыўся трохгадовы педагагічны інстытут, праграма якога не перавышала ўзроўню сярэдняй школы. Адкрыццё ўстановы было выклікана вострым дэфіцытам настаўнікаў. Нават калі працавалі ўжо тры педагагічныя інстытуты (Мінскі, Віцебскі (з 1910), Магілёўскі (з 1913), палова педагагічнага саставу вышэйшых пачатковых вучылішчаў Мінскай губерні не мела адпаведнай адукацыі.

Асабліва недахват спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі адчувала сельская гаспадарка. Неабходнасць адкрыцця ў краі вышэйшай навучальнай установы абмяркоўвалася на розных узроўнях. Большасць выказванняў зводзілася да таго, што ВНУ лепш заснаваць у Мінску, горадзе, размешчаным у цэнтры беларускіх губерняў, горадзе прамысловым, з вялікай колькасцю насельніцтва. Але ў сваім насцярожаным стаўленні да вышэйшай адукацыі на Беларусі царскі ўрад заставаўся непахісным і паслядоўным. Адкрыццё камерцыйнага, сельскагаспадарчага Інстытута, або універсітэта, аб якіх так многа гаварылася да Першай сусветнай вайны, так і не ажыццявілася — урад асцерагаўся ўзмацнення элементаў, варожых існуючаму ладу, якія значна ўплывалі на палітычнае жыццё Паўночна-Заходняга краю. А ў 1916 годзе Міністэрства адукацыі адхіліла ўсе прашэнні аб адкрыцці ВНУ, спасылаючыся на блізкасць фронту. Нязменна цвёрдай лініі ў гэтым пытанні прытрымліваўся пазней і Часовы ўрад, не дазволіўшы заснаваць універсітэт у Мінску.

☆☆☆

Цяпер у беларускай сталіцы дзейнічаюць 19 дзяржаўных і 16 недзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў. Атрымаць платную вышэйшую адукацыю ў нас, у параўнанні з сярэдняй, бадай, больш даступна ў матэрыяльным сэнсе. Так, напрыклад, Беларускі камерцыйны універсітэт кіравання гарантуе фіксаваную аплату на ўвесь тэрмін навучання. Сёння яна складае 700 долараў за 1 год навучання на дзённым і 450 долараў — на завочным аддзяленні. Гуманітарна-эканамічны недзяржаўны інстытут прапануе навучанне за 500 і 350 долараў на дзённым і завочным аддзяленнях адпаведна. Навучанне ў Інстытуце кіравання на факультэце правазнаўства каштуе 700 долараў, на эканамічным факультэце — 500 долараў, у НІДА і БелНІКФіЗ — 96 мінімальных зарплат (на завочным — 72) і г.д. Безумоўна, недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы маюць шэраг пераваг: магчымасць атрымаць некалькі спецыяльнасцей адначасова, прайсці моўную стажыроўку за мяжой і працягваць там навучанне, атрымаць дыплом міжнароднага ўзору... Акрамя таго, спонсарамі на конкурснай аснове могуць устанаўлівацца імянныя стыпендыі, а выдатнікі наогул могуць вызваляцца ад платы за навучанне. Так, у Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, напрыклад, можна атрымаць адукацыю ў міжнароднай школе журналістыкі або на тэалагічным факультэце зусім бясплатна, калі, канешне, пройдзеш конкурсны адбор. А плата за вучобу на іншых факультэтах наступная: факультэт права і эканомікі — 950 долараў, факультэт філасофіі, мастацтва, сацыяльных навук — 800 долараў у год.

**Увогуле, у параўнанні з пачаткам стагоддзя, выбар у мінчан вялікі. Застаецца толькі ўзважыць уласныя жаданні, здольнасці і магчымасці кашалька. Мудры той, хто ўкладае грошы ў адукацыю, бо веды — найлепшы капітал у жыцці. Але, на жаль, не ўсе могуць дазволіць сабе такую раскошу...**

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПОШЛІНЕ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

А. Унесці змяненні і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1992 года «Аб дзяржаўнай пошліне» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 6, арт. 100; 1994 г., № 7, арт.91):

1. У пункце 4 артыкула 2 словы «выканаўчымі органамі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў» замяніць словамі «мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі».

2. У частцы другой артыкула 3 словы «ў абсалютных велічынях» замяніць словамі «ў працэнтных адносінах ад размеру мінімальнай заработнай платы, устаноўленай на момант ажыццяўлення натарыяльнага дзеяння».

3. У артыкуле 4:

у раздзеле «У судовых установах»:

у пункце 19 словы «Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» замяніць словамі «Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі»;

дапоўніць раздзел пунктам 22 наступнага зместу:

«22) Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь — па судовых справах»;

у раздзеле «У органах, якія выконваюць натарыяльныя дзеянні»:

у пункце 19 словы «атрыманне ў спадчыну страхавога ўзнагароджання» замяніць словам «пакрыццё»;

у пункце 23 словы «і страхавога пакрыцця па абавязковаму страхаванню маёмасці, якая належыць грамадзянам» выключыць;

у пункце 5 раздзела «У органах запісу актаў грамадзянскага стану» словы «без вестак прапаўшай» замяніць словамі «адсутнай без вестак»;

у назве раздзела «У органах Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і выканаўчых органах пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў за прапіску грамадзян» словы «выканаўчых органах пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў» замяніць словамі «мясцовых выканаўчых і распарадчых органах».

4. У артыкуле 5:

назву артыкула выкласці ў новай рэдакцыі:

«Артыкул 5. Правы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў і іншых органаў па ўстанаўленню дадатковых ільгот па дзяржаўнай пошліне»;

у частцы першай слова «Савет» замяніць словам «Кабінет»;

частку другую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Абласны і Мінскі гарадскі Саветы дэпутатаў або па іх даручэнню выканаўчыя і распарадчыя органы маюць права ўстанаўліваць дадатковыя льготы па дзяржаўнай пошліне, якая залічваецца ў мясцовы бюджэт, для асобных плацельшчыкаў або груп плацельшчыкаў, а раённыя і гарадскія Саветы дэпутатаў або па іх даручэнню выканаўчыя і распарадчыя органы — для асобных плацельшчыкаў».

5. У частцы другой артыкула 10 словы «Міністэрства фінансаў» замяніць словамі «пры Кабінеце Міністраў».

Б. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

23 лютага 1996 г., г.Мінск.
№ 127-XIII

## АБ ПАМЕРАХ АБАВЯЗКОВЫХ СТРАХАВЫХ УЗНОСАЎ У ФОНД САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ НАСЕЛЬНІЦТВА МІНІСТЭРСТВА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 1. Памеры абавязковых страхавых узносаў для юрыдычных і фізічных асоб, якія падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню**

Для наймальнікаў, а таксама кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў з калектыўнай формай уласнасці, якія выплачваюць абавязковыя ўзносы за работнікаў (членаў), што працуюць на аснове працоўнага дагавора (членства), устанаўліваюцца наступныя памеры абавязковых страхавых узносаў ад фонду заработнай платы:

для грамадскіх аб'яднанняў інвалідаў і пенсіянераў, а таксама прадпрыемстваў, аб'яднанняў, устаноў, якія поўнасцю належаць такім грамадскім аб'яднанням на праве ўласнасці, — 4,7 працэнта;

для жыллёвых, жыллёва- і гаражна-будаўнічых кааператываў, якія не маюць даходаў ад сваёй дзейнасці, садаводчых таварыстваў — 5 працэнтаў;

для калегій адвакатаў — 5 працэнтаў;

для наймальнікаў, у якіх працуе не менш чым 50 працэнтаў інвалідаў ад сярэдняспісачнай колькасці работнікаў, — 20,4 працэнта;

для калгасаў, саўгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак (за выключэннем іх членаў) і іншых суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца пераважна вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі, — 30 працэнтаў;

для астатніх наймальнікаў (у тым ліку з замежнымі інвестыцыямі — для грамадзян Рэспублікі Беларусь) — 35 працэнтаў.

У выпадках, калі на юрыдычную або фізічную асобу распаўсюджваюцца некалькі абзацаў часткі першай гэтага артыкула, дзейнічае найменшы з вызначаных памераў.

**Артыкул 2. Памеры абавязковых страхавых узносаў для фізічных і юрыдычных асоб, якія падлягаюць дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню пры ўмове выплаты страхавых узносаў**

Для фізічных і юрыдычных асоб, якія падлягаюць дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню пры ўмове выплаты страхавых узносаў, устанаўліваюцца наступныя памеры абавязковых страхавых узносаў:

для прадпрымальнікаў — 15 працэнтаў ад даходу;

для працуючых па дагаворах падраду і аўтарскіх дагаворах — у памерах, устаноўленых у артыкулах 1 і 3 гэтага Закона, ад сумы ўзнагароджанняў;

для членаў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак — 15 працэнтаў ад даходу;

для творчых работнікаў — 15 працэнтаў ад даходу;

для прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі (для замежных грамадзян) — 5 працэнтаў ад заработнай платы замежных грамадзян;

для замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія працуюць у Рэспубліцы Беларусь, — у памерах, устаноўленых гэтым Законам.

**Артыкул 3. Памеры абавязковых страхавых узносаў, якія выплачваюцца працуючымі грамадзянамі**

Для працуючых грамадзян устанаўліваецца страхавы ўзнос у памеры 1 працэнта ад заработку.

**Артыкул 4. Вызваленне ад выплаты абавязковых страхавых узносаў**

Вызваляюцца ад выплаты абавязковых страхавых узносаў калгасы, саўгасы, сялянскія (фермерскія) гаспадаркі і іншыя суб'екты гаспадарання, якія займаюцца вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі, у частцы сродкаў, што выкарыстоўваюцца на выплату заработнай платы школьнікам, навучэнцам сярэдніх спецыяльных, прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, студэнтам дзённага навучання вышэйшых навучальных устаноў, якія прымаюць удзел у сельскагаспадарчых работах у час вучобы.

Артыкул 5. Тэрмін дзеяння гэтага Закона

Гэты Закон дзейнічае з 1 сакавіка па 31 снежня 1996 года.

Прадоўжыць тэрмін дзеяння Закона Рэспублікі Беларусь «Аб тарыфах страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь на 1995 год» да 1 сакавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

29 лютага 1996г., г.Мінск.
№138-XIII.

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў у адпаведнасці з артыкулам 41 Закона Рэспублікі Беларусь ад 11 лістапада 1991 года «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь» і артыкулам 32 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 кастрычніка 1994 г. «Аб папярэджанні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў» прынятай пастановай зацвердзіў прыкладаемы Дзяржаўны рэестр (пералік) тэхнічных сродкаў сацыяльнай рэабілітацыі, якія выдзяляюцца інвалідам бясплатна або на льготных умовах.

Міністэрству сацыяльнай абароны сумесна з Міністэрствам аховы здароўя даручана:

па меры неабходнасці ўносіць прапановы па змяненню Дзяржаўнага рэестра (пераліку) тэхнічных сродкаў сацыяльнай рэабілітацыі, якія выдзяляюцца інвалідам бясплатна або на льготных умовах, зацверджанага гэтай пастановай;

у двухмесячны тэрмін распрацаваць і, узгадніўшы з Міністэрствам фінансаў, зацвердзіць парадак забеспячэння інвалідаў тэхнічнымі сродкамі сацыяльнай рэабілітацыі.

У пастанове рэкамендавана абласным і Мінскаму гарадскому выканкомам прадугледжваць выдзяленне сродкаў абласным і Мінскаму гарадскому ўпраўленням сацыяльнай абароны на фінансаванне затрат, звязаных з набыццём тэхнічных сродкаў сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў.

***

Кабінет Міністраў у адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 лютага 1996 г. № 38рп і даручэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 сакавіка 1996 г. № 21/7-700-10 пастанавіў абзац першы пункта 1.1 раней прынятай ім Пастановы ад 28 лістапада 1995 г. № 648 «Аб парадку фінансавання жыллёвага будаўніцтва ў 1996 годзе» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 34, арт. 828) пасля слоў: «ва ўстаноўленым парадку асобам» дапоўніць словамі: «воінам-інтэрнацыяналістам» і выключыць з яго словы: «(у першую чаргу прызваным у армію на тэрыторыі рэспублікі)».

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

## «ЗЛАЧЫНЦАМ ПАВІННЫ ПРОЦІСТАЯЦЬ ПРАФЕСІЯНАЛЫ»

Як ужо паведамлялася, Вярхоўны Савет выбраў Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь Васіля Капітана. З ім гутарыць карэспандэнт БЕЛТА.

**— Васіль Сцяпанавіч! Мяркуючы па рашэнню парламента, Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка не памыліўся, назначыўшы вас выконваючым абавязкі Генеральнага пракурора яшчэ да абмеркавання вашай кандыдатуры на сесіі Вярхоўнага Савета. І ўсе ж, якія вынікі галасавання?**

— Усе 149 дэпутатаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні, выказаліся за маё выбранне.

**— Чым вы тлумачыце такую аднадушнасць?**

— Думаю, у пэўнай ступені гэта звязана з тым, што пракурорскай службе я аддаў два дзесяткі гадоў. Адбіліся і мае зносіны ў парламенцкіх камісіях і фракцыях. Відаць, мой погляд на праблемы захавання законнасці і правапарадку знайшоў у іх разуменне.

**— Як вядома, пракуратура, суды, МУС, іншыя міністэрствы і ведамствы літаральна завалены заявамі і скаргамі грамадзян аб розных парушэннях іх правоў і законных інтарэсаў...**

— Так, на вялікі жаль, парушэнняў шмат. І гэта праблема вельмі сур'ёзная. Для яе вырашэння былі сканцэнтраваны асноўныя намаганні ўсёй пракурорскай сістэмы ў мінулым годзе. І паверце, зроблена вельмі шмат. Было разгледжана больш за 43 тысячы заяў і зваротаў грамадзян. Пагадзіцеся, што для паўтары тысячы работнікаў пракуратуры краіны гэта вельмі значная лічба. Акрамя таго, следчымі пракуратуры расследавана больш за 6 тысяч крымінальных спраў. А згодна з законам, мы расследуем толькі найбольш цяжкія і значныя справы — забойствы, хабарніцтва, службовыя, гаспадарчыя, іншыя злачынствы. Гэта значыць менавіта такія, дзе часцей за ўсё ўшчамляюцца правы і законныя інтарэсы грамадзян. Акрамя таго, праведзена 10 тысяч агульнанаглядных праверак, унесена больш чым 7 тысяч пракурорскіх прадстаўленняў па парушэннях законнасці. Па названых прадстаўленнях 9 тысяч асоб, у тым ліку і службовых, былі прыцягнуты да дысцыплінарнай, матэрыяльнай і іншых мераў адказнасці.

**— Якія, на ваш погляд, асноўныя праблемы павінна вырашаць сёння пракуратура па ўтаймаванню злачыннасці?**

— Перш за ўсё мы павінны арганізаваць нашу сумесную з МУС прафілактычную работу. У нас у мінулым былі адпрацаваныя і апраўдаўшыя сябе формы і метады папярэджання злачынстваў. Ёсць і артыкулы Крымінальнага кодэкса, якія накіраваны на гэта. На жаль, яны слаба працуюць, хоць згодна з імі можам, напрыклад, прыцягнуць да крымінальнай адказнасці асоб, якія пагражаюць забойствам, нанясеннем цялесных пашкоджанняў, хуліганяць. Не сакрэт, што ў розных узнікшых прытонах учыняецца мноства злачынстваў, аж да забойстваў. Аднак не заўсёды ў нас утрыманне такіх месцаў вядзе да крымінальнай адказнасці. Дарэчы, у мінулым годзе 70 працэнтаў усіх злачынстваў, у тым ліку каля 80 працэнтаў забойстваў, учынены на глебе п'янства. І гэта пры тым, што шырокі дыяпазон законаў і пастаноў дае магчымасць абмяжоўваць у дзеяздольнасці асоб, якія злоўжываюць спіртнымі напоямі, накіроўваць іх на прымусовае лячэнне. Таму, на мой погляд, скаардынаваўшы работу праваахоўнай сістэмы, іншых дзяржаўных органаў па папярэджанню злачынстваў, мы можам знізіць вастрыню крымінагеннай сітуацыі. Да таго ж гэта не патрабуе значных матэрыяльных затрат.

Вельмі важная праблема — гэта абарона эканамічных інтарэсаў дзяржавы і кампенсацыя нанесенага ёй урону. Прывяду такія даныя. Абараняючы інтарэсы прадпрыемстваў і іншых суб'ектаў гаспадарання, пракуроры толькі ў мінулым годзе прад'явілі іскі да віноўных у нанясенні ім урону на суму звыш 750 мільярдаў рублёў. Канфіскавана шмат замежнай валюты. У выніку прынятых мераў удалося ў значнай ступені зменшыць колькасць парушэнняў, якія адбываліся ў банкаўскай сферы, Узброеных Сілах. Аднак работу ў гэтым напрамку нам трэба ўзмацняць.

Органам пракуратуры неабходна з большай мерай адказнасці падыходзіць да забеспячэння вяршэнства Закона. Вялікае значэнне ў вырашэнні гэтага пытання, на маю думку, можа належаць разам з іншымі органамі Міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй пры Савеце бяспекі краіны. Тое, што ў яе рабоце задзейнічаны прадстаўнікі выканаўчай і судовай улады, праваахоўнай сістэмы, дае магчымасць скаардынаваць дзеянні ўсіх ведамстваў і выходзіць з канкрэтнымі прапановамі ў плане захавання патрабаванняў Канстытуцыі і законаў прама на Вярхоўны Савет або Прэзідэнта.

Яшчэ адна задача, якая патрабуе неадкладнага вырашэння, — гэта якаснае паляпшэнне самога заканадаўства. Многія праблемы барацьбы са злачыннасцю, асабліва ў сферы эканомікі і банкаўскай сістэме, напрамую звязаны з недасканаласцю законаў і іншых нарматыўных актаў. Падсумоўваючы ўсе наяўныя ў заканадаўстве праблемы, пракуроры таксама могуць і павінны сказаць сваё слова. Выкарыстоўваючы права заканадаўчай ініцыятывы Генеральнага пракурора, каардынуючы яе з Вярхоўным Саветам, Адміністрацыяй Прэзідэнта і Кабінетам Міністраў, мы зможам своечасова ліквідаваць узнікшыя нестыкоўкі ў заканадаўстве.

Ну і, зразумела, важнейшай праблемай з'яўляецца раскрыццё злачынстваў. Чым больш злачынстваў будзе раскрывацца, тым менш іх будзе ўчыняцца. Гэта аксіёма існавала ва ўсе часы. І тут у нас надзея на кадры. На жаль, прафесіяналаў у праваахоўных органах становіцца ўсё менш.

**— Дарэчы, як з кадрамі ў пракуратуры?**

— Праблемы з узроўнем іх падрыхтоўкі ў нас ёсць, і перш за ўсё ў следчым апараце. Ёсць яны і ў аператыўных службах КДБ і МУС. І менавіта адсутнасць прафесіяналаў зніжае раскрывальнасць злачынстваў. Вядома, што злачыннасць істотным чынам відазмянілася. Сам злачынны элемент стаў больш кваліфікаваным, прафесіянальным, больш аснашчаным і ўзброеным. Таму і процістаяць яму павінны адпаведна падрыхтаваныя прафесіяналы праваахоўнай сістэмы. І мы мэтанакіравана над гэтым працуем. Мяне вельмі радуе тое, што з канца 1994 года працэс адтоку кваліфікаваных кадраў спыніўся. А ў мінулым годзе прафесіяналы сталі вяртацца.

**— Якія вашы адносіны з Прэзідэнтам? Як практычна ён дапамагае пракурорскай сістэме?**

— Мае адносіны з Прэзідэнтам перш за ўсё службовыя, дзелавыя. Я як грамадзянін і пракурор з павагай стаўлюся да кіраўніка нашай дзяржавы. Аднак гэта ніяк не ўплывае на маю пазіцыю па тых пытаннях, дзе я маю свой пункт гледжання, заснаваны на Канстытуцыі і дзеючым заканадаўстве. Якога-небудзь націску на мяне з боку Аляксандра Лукашэнкі не было. Больш таго, у пытаннях падтрымання правапарадку, расследавання канкрэтных крымінальных спраў і шэрага іншых праблем, дзе патрабавалася дапамога кіраўніка дзяржавы, я заўсёды знаходзіў у яго разуменне і падтрымку. Дарэчы, дзякуючы менавіта Прэзідэнту пры ўсёй беднасці нашага дзяржаўнага бюджэту павышана зарплата супрацоўнікам пракуратуры. Ён таксама падпісаў указ, згодна з якім пракурорскія работнікі ў пенсіённым забеспячэнні прыраўнаваны да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў.

**— Чым, на вашу думку, трэба кіравацца парламенту краіны пры выпрацоўцы законаў па барацьбе са злачыннасцю?**

— Мы жывём у час інтэграцыйных працэсаў, што ўсё больш паглыбляюцца ў свеце. Таму ў аснове прымаемых нашымі дэпутатамі законаў павінны ляжаць адзіныя для ўсяго СНД прынцыпы і падыходы, але, вядома, з улікам нацыянальных і іншых асаблівасцей Беларусі. Усё гэта дасць магчымасць аблегчыць сам заканатворчы працэс і скаардынаваць намаганні краін Садружнасці ў барацьбе са злачыннасцю. Прычым будзе правільным прымаць законы не кожны асобна, а блокамі. Напрыклад, Падатковы, Адміністрацыйны, Крымінальна-працэсуальны кодэксы і так далей. Гэта дае магчымасць правесці іх комплексны аналіз у цэлым і ліквідаваць існуючыя ў іх супярэчнасці. Акрамя таго, сам закон павінен быць напісаны даступнай мовай, якая не дапускае дваякага яго тлумачэння. І, па-мойму, настаў час, калі, прымаючы закон, неабходна пралічваць і крыміналагічныя вынікі яго прымянення, улічваць усе плюсы і мінусы.

**— Васіль Сцяпанавіч, некалькі традыцыйных пытанняў. Якая ў вас сям'я? Як вы адпачываеце, ваш любімы занятак?**

— Мая сям'я складаецца з чатырох чалавек: жонка, дачка і сын. Жонка працуе, дачка заканчвае вучобу ў школе, сыну ў ёй яшчэ вучыцца і вучыцца. Сродкаў асаблівых у сям'і няма, водпуск, як правіла, праводжу ў вёсцы. У ёй я нарадзіўся, вырас, увогуле карані мае сялянскія. У вольны час вельмі люблю чытаць. Дарэчы, у гэтым дачка пайшла ў мяне. Аддаю перавагу гістарычным кнігам.

**Павел ПРАТАСЕНЯ, БЕЛТА.**

# ЧАЛАВЕК НА «ЗЯМЛІ АБЕТАВАНАЙ»

**Па запрашэнню Міністэрства замежных спраў Дзяржавы Ізраіль шэсць журналістаў з Беларусі, Малдовы і Украіны на працягу васьмі дзён знаёміліся з гэтай краінай. Сярод іх — і карэспандэнт «Звязды», чые нататкі прапануем увазе чытачоў.**

## «ЗВАНІЦЕ — ГЭТА МЯСЦОВЫ...»



У Ізраілі любяць анекдоты. Вось і ў Міністэрстве фінансаў нашы сур'ёзныя размовы пачаліся з анекдота.

Сустрэліся ў Маскве прэм'ер-міністры СССР, Францыі і Ізраіля. На стале — чырвоны тэлефон.

— Што гэта за тэлефон? КДБ?

— Не, гэта прамы тэлефон да Усявышняга.

— І можна пазваніць?

— Калі ласка. 10 тысяч долараў.

Такі ж дыялог — праз нейкі час у Парыжы. 10 тысяч долараў — і ўся праблема. Праз год сустрэліся ў Ізраілі. Зноў той жа чырвоны тэлефон.

— Можна пазваніць?

— Калі ласка. 1 долар.

— Чаму так мала?

— Дык гэта ж мясцовая размова.

Гумар — гэта цудоўна. Але ў дадзеным выпадку за ім хаваюцца вельмі глыбокія і значныя для цябе паняцці. Вярнуўшыся з Ізраіля, мне найперш захацелася перачытаць Біблію. Бо нават адны назвы, што сустракаліся за час падарожжа — Іерусалім, Віфлеем, Назарэт, Тыверыядскае возера, — будзяць у душы толькі тваё, тое, што асэнсоўваецца на працягу ўсяго жыцця, сувымяраецца з думкамі і ўчынкамі. Ты стаіш ля Сцяны Плачу, узыходзіш — лічаныя прыступкі! — на Галгофу, укленчваеш перад Гробам Госпадніім, запальваеш свечкі ля Нязгаснай Лампады — і разумееш, што ты паедзеш адсюль іншым. Якім — ведаеш толькі ты.

Іерусалім — горад усіхні. Храм Гроба Гасподня, адноўлены не так даўно намаганнямі трох асноўных цэркваў, — сімвал таго, як пад адным дахам могуць мірна жыць розныя людзі, калі яны паяднаны духоўнасцю. Тут побач, але асобна — праваслаўныя і каталіцкія святыні. Ды і назва самога горада, згодна з яўрэйскай традыцыяй, зыходзіць ад найвялікшай мудрасці і каштоўнасці. Ір (горад) і шалом (мір) — гэтыя словы з іўрыта і далі назву гораду і ўвасабляюць даўнюю мару чалавецтва аб усеагульным міры. Чаму ж тады так неспакойна ў Вечным горадзе на працягу тысячагоддзяў? Рушацца і аднаўляюцца храмы, руйнуюцца рэліквіі, дзеляцца святыні. Увесь свет з трывогай сочыць за падзеямі на Святой Зямлі. Мы ўсё яшчэ недараслі да разумення высокага: «Весяліцеся з Іерусалімам і радуйцеся з ім, усе, хто яго любіць! Бо так гаворыць Гасподзь. Вось я накіроўваю да яго мір, як раку...» (Ісая).



Сёння ў Іерусаліме адносна спакойна. Мы пабывалі ў Старым горадзе ўвечары. У мусульман якраз быў Рамазан. Ізраільскія ўлады далі дазвол на ўезд у Іерусалім у дні свята 400 тысяч мусульман з суседніх дзяржаў. Па вузенькай вулачцы арабскага квартала бясконцай ракою ішлі паломнікі — хто ў сваім нацыянальным адзенні, хто ў звычайным. Шумныя дзеці, бойкія гандляры, лакальныя сваркі з-за перавернутай пасудзіны з салатай на продаж. І ўздоўж амаль усяго шляху да мячэці — салдаты ізраільскай арміі з аўтаматамі. Успрымаць гэта можна па-рознаму, але нам, напрыклад, было спакойна там, дзе яны стаялі. З некаторымі мы прыязна пагутарылі — людзі выконваюць сваю справу, сочаць за парадкам.

Наогул сустрэць чалавека са зброяй у Ізраілі можна даволі часта. Падчас нашай камандзіроўкі са старонак ізраільскіх газет ішло папярэджанне грамадзянам: рыхтуюцца новыя тэрарыстычныя акты, будзьце асцярожнымі. Толькі вярнуліся — чытаем у сваіх газетах: адбылося. Узарваны аўтобус, у другі аўтобус урэзаўся аўтамабіль, на прыпынку транспарту выбухнула ўзрыўчатка. Загінулі людзі, многія пакалечаны. Адказнасць за тэракты ўзяла на сябе арабская арганізацыя «Хамас». Зноў кроў... Да Бога блізка, а вось да завяшчанага ім міру?.. У маі рыхтуецца чарговы раунд араба-ізраільскіх перамоў па ўрэгуляванню блізкаўсходняга канфлікту. Міру ў гэтым рэгіёне чакае ўвесь свет, а найперш — тыя, хто тут жыве. Бо за плячыма яўрэйскага народа — Катастрофа.

## ПАМЯЦЬ І ІМЯ

**Катастрофа вучыць: са знікненнем аднаго чалавека знікае цэлы свет.**

Катастрофай у Ізраілі называюць тое, што адбылося з еўрапейскім яўрэйствам у гады другой сусветнай вайны. За шэсць гадоў нацысцкага гвалту планамерна, метадычна знішчана шэсць мільёнаў яўрэяў, у тым ліку паўтара мільёна дзяцей. Неверагодны і унікальна дзікі факт гісторыі чалавецтва: знішчэнне да сябе падобных толькі па нацыянальнай прымеце. У 1953 годзе на адным з пасяджэнняў кнесета (ізраільскі парламент) было прынята рашэнне аб стварэнні музея, які б увекавечыў ахвяр трагедыі. Музей назвалі Яд ва-Шэм, што ў перакладзе з іўрыта азначае: «Памяць і Імя». У назве заключаецца ўвесь сэнс работы супрацоўнікаў мемарыяла: за глабальнай катастрофай разгледзець кожнага, хто стаў ахвярай генацыду.

...У музеі Катастрофы я доўга асэнсоўвала: што прывяло Германію, адну з самых дэмакратычных па грамадскаму і палітычнаму ўладкаванню на той час краіны, да ганебнай палітыкі чалавеканенавісніцтва, крывавага гвалту над асобай, цэлым народам? Калі пачынаюцца Катастрофы? Для сябе я знайшла адказ, але спачатку — пра музей. Ён многаму вучыць.

Тут няма рэчаў, экспанатаў, рэліквій накшталт «пісталет вялікага маршала» ці «асабістыя рэчы радавога Гутмана». Пра ўсё расказваюць фотаздымкі — іх не прыдумаеш, не перайначыш. Здымалі ў асноўным сведкі падзей і іх удзельнікі (выканаўцы), не думаючы, што некалі іх работы стануць сведчаннем не доблесці і гераізму, а чалавечай дэградацыі.

Здымкі расказваюць, як у Германіі, пачынаючы з 39-га года, заканадаўча афармляецца антысемітызм, што распаўзаецца па Еўропе. Ствараюцца гета — нібыта для бяспекі яўрэяў, для абароны ад пагромаў, для захавання традыцыйнага ўкладу жыцця. Там пакуль што выходзяць газеты, дзейнічаюць школы, дзіцячыя садкі, нават тэатры. Архітэктары наладжваюць конкурсы — праектуюць палацы будучыні. Потым адтуль пойдуць цягнікі — «для стварэння новых яўрэйскіх пасяленняў на захопленых тэрыторыях, якія трэба асвойваць», для таго, каб вучыць адсталых мясцовых яўрэяў (напрыклад, беларускіх) рамёствам. У тым ліку і ў Мінск. Каля 30 тысяч яўрэяў, сярод якіх было нямала ветэранаў першай сусветнай вайны, што змагаліся за Германію. Многія надзелі медалі. Куды яны трапілі разам з медалямі — вядома: туды ж, куды і больш за паўмільёна іхніх беларускіх супляменнікаў. Паўсюдна знішчаюцца дзеці нават ад змешаных шлюбаў — асабліва ў славянскіх краінах: славянская кроў сама па сабе непаўнацэнная, а тут яшчэ прымесь яўрэйскай. Здымак жанчыны з шыльдай на грудзях: «Я спала з яўрэем». Дарога — туды ж, у газавую камеру, у Яр, у Яму, у Трасцянец.

Былі пратэсты, паўстанні (тры тыдні ішлі баі за падаўленне паўстання ў Варшаўскім гета, сотні тысяч знішчаных). Былі спробы ўцёкаў — шматлікімі групамі, пасяленнямі. Але бегчы не было куды — як у пачатку вайны, так і ў яе разгары. Тысячы румынскіх яўрэяў спрабавалі ўцячы ў Палесціну — Англія не дала дазволу праехаць праз Басфор. Патанулі ў моры.

У выніку — шэсць мільёнаў смерцяў. Іх, вядома, можна супаставіць са страшэннымі ахвярамі, што панеслі, напрыклад, народы Савецкага Саюза. Але іх знішчалі нават не за абарону сваёй тэрыторыі, не за супраціўленне, а за тое, што — яўрэі. Што з пейсамі замест «нармальных» прычосак.

Тут, у музеі, імкнуцца ўспомніць персанальна кожнага з удзельнікаў гэтых крывавых драм. Чалавек не павінен знікаць бясследна — няхай хоць у імені жыве памяць.

На адрас «Яд ва-Шэма» дагэтуль прыходзяць лісты з розных краін. Часта — толькі прозвішча і імя. Або атэстат аб заканчэнні сярэдняй школы. Вось — вершы: камандзір кулямётнага ўзвода, загінуў на Украіне. Фотаздымак хлопчыка з адсечанымі рукамі і нагамі. Усё, што засталося ад чалавека на зямлі.

У навуковага супрацоўніка музея, доктара гісторыі Арона Шнэера дрыжыць голас. Ён не прафесіянальны экскурсавод: навуковец, не так даўно выехаў з Прыбалтыкі. Доўга і пакутліва вагаўся, перш чым прыняць рашэнне аб эміграцыі ў Ізраіль. Падчас аднаго са святкаванняў Дня Перамогі быў на мітынгу, дзе слухаў афіцыйныя прамовы пра «акупантаў», «сапраўдных патрыётаў», бачыў ушанаванне калабарантаў. А ён жа гісторык, да таго ж яўрэй. З білетамі і візамі вялікіх праблем не было.

— Мы не паталагаанатамы. Немагчыма прывыкнуць да болю. Вы не ўяўляеце, з якім болем жывуць людзі. Можа, мы выбралі не самую лепшую форму, але такая работа важная для любога народа.

Сёння тут каля трох мільёнаў лістоў. Кожны дзень прыходзяць новыя. Да шасці мільёнаў — далёка.

Усю тэрыторыю музея ахопліваюць алеі праведнікаў — тых людзей, хто падчас вайны ратаваў яўрэяў. Рознае здаралася — былі факты, калі ратавалі да той пары, пакуль у ахвяр былі сродкі. Потым або кідалі, або перадавалі з рук у рукі паліцэйскім. Але ў абсалютнай большасці дапамагалі трапіўшым у бяду па адной прычыне: таму што людзі. Каля трох тысяч праведнікаў — з Галандыі. Маленькая краіна прадэманстравала адносіны да сваіх суграмадзян «крамольнай» нацыянальнасці: у дні дэпартацыі яўрэяў у лагеры знішчэння па ўсёй краіне рабочыя аб'явілі ўсеагульную забастоўку. Справа дайшла да ўзброеных сутычак з паліцыяй. Выратавалі больш як 24 тысячы яўрэяў, але большая частка абшчыны загінула. Усю сваю абшчыну выратавала Данія — на рыбацкіх лодках яўрэяў перавезлі ў нейтральную Швецыю. Людзей ратавалі дыпламаты, дзяржаўныя дзеячы.

Сярод праведнікаў — каля 600 беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. 147 літоўцаў. Парадаксальна: Літва ўстанавіла сумны рэкорд па ліку знішчаных яўрэяў (93-94 працэнты абшчыны загінула, прычым нярэдка ад рук мясцовых паліцаяў), а лік праведнікаў — высокі. Дзяцей хавалі ў манастырах, на хутарах. Доўгі час такія факты ўтойваліся нават ад блізкіх: каб не ствараць лішніх праблем.

Асаблівае месца ў Яд ва-Шэме — мемарыял дзяцей. Тое псіхалагічнае ўздзеянне, якое ён робіць на наведвальнікаў, перадаць словамі немагчыма. З яркага сонечнага дня вы трапляеце ў вялізную цёмную аб'ёмную залу, дзе ніводнай крыніцы святла, толькі мігцяць уверсе, унізе, з бакоў безліч маленькіх зорачак. Космас, бездань, вечнасць — і душы загубленых дзяцей ва ўспышках зорак. Ты праходзіш па вузенькай сцяжынцы сярод гэтых зорак — і чуеш знаёмыя словы на чужой мове: Баранавічы, Таня, Львоў, Слонім, Міша... Дзіця 14 дзён ад роду... Зноў сонца, святло, зоркі — ужо дома, у марозным мінскім небе. І тут жа пытанне: чые душы адляцелі — без памяці на зямлі, без імён?

Многія мае знаёмыя, якія збольшага ведаюць пра праблему знішчэння яўрэйства падчас другой сусветнай, здаралася, выказвалі раздражненне: нашы страты несувымерныя. Чаму пра гэта не крычаць, не раздзімаюць, не пішуць і не робяць? А хто ж за нас зробіць? Ізраіль? Германія? Італія ці Румынія? Некалькі разоў мой бацька, бачачы развернутыя хлапчукамі магілы (якія магілы — прыкапаныя косці) савецкіх салдат у лесе ля Проні, тэлефанаваў у ваенкамат, сельсавет — давайце высвятляць. Безвынікова. Мы дагэтуль не можам разабрацца, хто ляжыць у Курапатах, у парку Чалюскінцаў, не пафамільна нават, не персанальна, а — вызначальна. Мы дагэтуль верым, што разабрацца ў гэтым амаль немагчыма — гэта пры сённяшніх магчымасцях экспертных даследаванняў... Не ў тэхнічных магчымасцях тут, вядома, справа.

...Адказ на пытанне, пастаўленае ў пачатку гэтага раздзела, я знайшла для сябе на адным фотаздымку Яд ва-Шэма. Ён уразіў. Гэта не горы чалавечых шкілетаў у канцэнтрацыйным лагеры. Не нацыст, што качаргою запіхвае голага хлопчыка на транспарцёр, каб адправіць у печ крэматорыя. Гэта прыстойныя, добра ўкормленыя людзі ў бездакорна адпрасаваных судзейскіх мантыях з паднятымі ў прысязе рукамі. Суддзі прысягаюць на вернасць і адданасць Адольфу Гітлеру. Дэмакратычна абранаму лідэру дэмакратычнай дзяржавы. Не законам, кодэксам, канстытуцыям — асобе, правадыру, фюрэру. Ці не так пачыналіся трагедыі ў 1917-м, 1937-м і..? Шматкроп'е можна напоўніць многімі прыкладамі з сусветнай гісторыі. Апошняе слова хочацца тлуста падкрэсліць: няхай бы ўсё закончылася гісторыяй. Нам ёсць дзе вучыцца, каб не паўтараць наробленых чалавецтвам памылак. Іначай — Катастрофа. Часта — без імён і памяці.

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

## САПРАЎДЫ ТАК: ХОЧАШ ЗБЕРАГЧЫ ГРОШЫ — НЕ ХВАРЭЙ

Калі вы збераецеся ў Літву, асцерагайцеся захварэць — гэта небяспечна. Лепш загадзя прайдзіце медагляд, бо інакш, акрамя болю ў назе, руцэ ці іншай частцы цела, у вас яшчэ пачне і галава балець... ад цэн за лячэнне.

Замежны грамадзянін, апынуўшыся ў медыцынскай установе Літвы, павінен будзе выплаціць ад 30 да 100 долараў ЗША ў дзённым стацыянары і ад 10 да 20 долараў ЗША — за наведванне клінікі. Цэны ўказаны ў залежнасці ад установы, у якую вы звернецеся. Асобна грошы з вас возьмуць за аперацыі і паслугі стаматолагаў.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

- **«ТРЭЦЯЯ СІЛА» Ў РАСІІ — ЧАРГОВЫ «ЖАРТ» ЖЫРЫНОЎСКАГА?**

Лідэр ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі ўпэўнены, што прэзідэнцкіх выбараў у чэрвені не будзе. Па яго сцвярджэнню, менавіта Барыс Ельцын павінен выступіць з такой ініцыятывай. Зараз прэзідэнта падштурхоўваюць нанесці ўдар па камуністах. Усё вырашыцца ў красавіку-маі. На прэс-канферэнцыі ў Дзярждуме Жырыноўскі сцвярджаў, што Масква ўжо практычна акупіравана і краіна знаходзіцца на парозе гібелі. Калі прэзідэнт на гэта пойдзе і на вуліцах будзе кроў, то, як заявіў Жырыноўскі, трэцяя сіла «ўбярэ» камуністаў і Ельцына.

- **УКРАІНА ПАГАДЗІЛАСЯ ЛІКВІДАВАЦЬ ЯДЗЕРНУЮ ЗБРОЮ**

Украіна адобрыла так званую Заходнюю нулявую пазіцыю па ядзерных узбраеннях. Яна прадугледжвае поўную забарону ядзерных выпрабаванняў, у тым ліку ядзерныя выбухі ў мірных мэтах, на якіх настойвае Кітай. Міністр замежных спраў Украіны Генадзь Удавенка заявіў, што яго краіна — першая дзяржава свету, якая абвясціла аб сваім намеры ліквідаваць ядзерную зброю на сваёй тэрыторыі.

- **АПЕРАЦЫЯ ПРАЙШЛА ПРЫ СВЯТЛЕ ГАЗАВАЙ ЛЯМПЫ**

У Грузіі зроблена першая аперацыя па змяненню полу. Аднак не толькі ў Грузіі, але ўпершыню ў свеце гэта аперацыя ў выніку энергетычнага крызісу ў рэспубліцы была праведзена пры святле газавай лямпы. Аперацыя цягнулася 16 гадзін, і газы было выкарыстана нямала, каб ператварыць 29-гадовую Бэку ў мужчыну.

- **ЗДАЧА ЭКЗАМЕНАЎ НА ПРАВЫ — ХОБІ?**

Шатландзец Кэк Марэль марыць навучыцца вадзіць аўтамабіль. Для гэтага ён узяў больш за 1000 урокаў ваджэння, на што затраціў 10.000 фунтаў (столькі каштуе ў Вялікабрытаніі добры аўтамабіль памерам з расійскую «Волгу»). 35 разоў ён здаваў экзамены на правы — і 35 разоў правальваўся. Аднак ва ўпартасці яму не адмовіш. Марэль і далей збіраецца працягваць спробы авалодаць навыкамі ваджэння аўтамабіля.

- **ПРЭЗІДЭНТА ПАР ЧАСТА ЗБІВАЛА ЖОНКА**

Да разводу жонка прэзідэнта ПАР Нэльсана Мандэлы Віні не аднойчы накідвалася з кулакамі на свайго мужа, паведаміла йоханэсбургская газета «Сіці-прэс». Са спасылкай на некалькіх асоб з акружэння кіраўніка дзяржавы выданне паведамляе, што Віні фізічна атакавала мужа, былога баксёра. Віні на 17 гадоў маладзей за Мандэлу і ёй часта ставілі ў віну, што яна няславіць вобраз лідэра барацьбы супраць апартэіду.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Бюджэт ЮАР на 1996 год прадугледжвае павышэнне зарплаты дзяржаўных служачых. І толькі жалаванне прэзідэнта Мандэлы застанецца на ранейшай кропцы. Зараз яго гадавы даход складае каля 140 тысяч амерыканскіх долараў. Гэта з усімі льготамі. Аднак ён не вызвалены ад падаткаў, якія ў яго выпадку складаюць каля 45 працэнтаў. Але прэзідэнт, які пасля фактычнага разводу са сваёй жонкай Віні вось ужо тры гады жыве адзін, не скардзіцца. У свае 78 гадоў Мандэла вядзе сціплы лад жыцця і аддае частку зарплаты ў Дзіцячы фонд.

**ІТАР—ТАСС**

*Сутыкнуўшыся нос у нос з мядзведзіцай, памёр ад інфаркту ляснік у Лесаводскім раёне Прыморскага краю.*

*Трагічны выпадак адбыўся ў мінулы панядзелак. Работнікі гаспадаркі пайшлі выбіраць новую дзялянку для лесанарыхтовак і, ідучы па старой прасецы, убачылі вялікае дупло. Лесніка падвяла цікаўнасць. Ён вырашыў праверыць, хто ў ім жыве. З дупла насустрач яму з ровам выбегла вялікая мядзведзіца, але, не звярнуўшы ўвагі на людзей, знікла ў лесе. Ляснік памёр на месцы.*

**«Труд».**

Міліцыя краін Еўрапейскага саюза ўзмацняе ўзаемадзеянне ў барацьбе супраць футбольнага хуліганства. Такое рашэнне прынята ў аўторак на пасяджэнні Савета ЕС на ўзроўні міністраў унутраных спраў і юстыцыі. Прадугледжаны, у прыватнасці, абмен данымі аб хуліганах, якія заўважаны хаця б у адной з краін саюза.

**ЕАН.**

*СКАНДАЛ*

# БЕЛАРУСКІЯ КАНСЕРВАВЫЯ КАМБІНАТЫ ТРАПІЛІ «НА ВУДУ» РАСІЙСКІХ КАМБІНАТАРАЎ

## Некаторыя кіраўнікі беларускіх прадпрыемстваў упарта не хочуць вучыцца на чужых памылках

**Нават пасля шматлікіх гучных скандалаў з расійскімі і айчыннымі фірмамі тыпу «МММ» на Беларусі па-ранейшаму засталіся спрыяльныя ўмовы для дзейнасці так званых «пірамідчыкаў». Праўда, зараз нашчадкі спадара Маўродзі замест даверлівых пенсіянераў абдзіраюць як ліпку цэлыя прадпрыемствы. Аказваецца, кіраўнікі некаторых дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання не менш наіўныя, чым малаадукаваныя дзяды і бабулькі, якіх за гады савецкай улады прывучылі верыць кожнаму друкаванаму слову.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік аддзела ўпраўлення па барацьбе с эканамічнай злачыннасцю МУС Беларусі Аляксандр ЯЦКОЎСКІ, ахвярамі навяўленых расійскіх «пірамідчыкаў» у нашай краіне сталі некалькі кансервавых камбінатаў у Гомельскай і Брэсцкай абласцях. Будаваліся гэтыя «кансервавыя пірамiды» наступным чынам.

Група грамадзян Расіі купіла ў Мінску вытворча-камерцыйную кампанію «Аграторгмаш». Затым рэспектабельнага выгляду камерсанты пачалі наносіць візіты кіраўнікам кансервавых камбінатаў ці начальнікам аддзелаў збыту гатовай прадукцыі з мэтай набыцця буйных партый кансерваванай агародніны. Іх сустракалі як сапраўдных збавіцеляў, бо складскія памяшканні камбінатаў былі літаральна пад самы дах завалены прадукцыяй. Ці то з вялікай радасці, ці па якіх-небудзь іншых больш важкіх прычынах кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў пры сустрэчы з прадстаўнікамі «Аграторгмаша» гублялі неабходную дзелавую абачлівасць. Атрымаўшы ў якасці папярэдняй аплаты 50 мільёнаў рублёў, камбінаты адгружалі «Аграторгмашу» прадукцыі на 450 мільёнаў. Астатнія грошы камерсанты абавязваліся вярнуць праз тыдзень-паўтара.

Аднак пасля заканчэння тэрміну выплаты грошай прыходзілі прадстаўнікі гэтай жа фірмы і замест вяртання доўгу прапаноўвалі заключыць чарговы дагавор на закупку яшчэ большай партыі прадукцыі. Гэта, відавочна, яшчэ больш радавала кіраўнікоў камбінатаў і яны замест таго, каб спагнаць доўг, давалі загады адгрузіць чарговую партыю кансерваванай агародніны. Тым больш, што камерсанты зноў жа ўносілі частковую перадаплату наяўнымі грашыма. Праўда, заплаціўшы 100 мільёнаў рублёў, атрымлівалі прадукцыі на 500 мільёнаў рублёў. Так паўтаралася некалькі разоў. Але аднойчы, калі будаўніцтва «кансервавай піраміды» было завершана, прадстаўнікі «Аграторгмаша» зніклі. У выніку кансервавыя камбінаты, якія супрацоўнічалі з гэтай кампаніяй, так і не атрымалі абяцаных грошай за прадукцыю. А гэта, паводле папярэдніх падлікаў, складае ўвогуле больш за 1 мільярд рублёў.

Зараз супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС спрабуюць знайсці ашуканцаў, але гэта не так проста. Бо, па ўсім відаць, дзейнічалі прайдзісветы, у адрозненне ад сваіх партнёраў з кансервавых камбінатаў, даволі абачліва. На рахунку кампаніі не засталося ніводнага рубля.

Зрэшты, як выявілася, нават на пачатку дзейнасці расійскіх камерсантаў з «Аграторгмаша» на банкаўскім рахунку фірмы не было грошай. Таму, калі б ашуканыя кіраўнікі кансервавых камбінатаў загадзя пацікавіліся плацежаздольнасцю сваіх партнёраў, то, відавочна, адразу ж здагадаліся б, з кім маюць справу.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «АХВЯРУЮ СВАІМ «Я»...

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Маючы на мэце абмеркаваць агульныя беларускія справы і праблемы разам з дыяспарай, прэзідэнт ЗБС запрасіў на сустрэчу афіцыйных асоб з Міністэрства замежных спраў, з міграцыйнай службы, з Кабінета Міністраў, але ніхто з іх не палічыў патрэбным з'явіцца. «І гэта нягледзячы на тое, што некаторыя з іх уваходзяць у Раду ЗБС, — каменціруе акадэмік. — Цяпер ні адзін чыноўнік не рызыкуе паявіцца, каб такім чынам не дыскрэдытаваць сябе. Чыноўнікаў мяняюць хутка, калі яны не адпавядаюць стандарту...» Дарэчы, аднойчы сказалі адкрыта і Гарэцкаму: «Вам не месца ў кіраўніцтве беларускай Акадэміі навук, дзейнасць гэтай установы павінна быць па-за палітыкай». Патрабаванне прагучала грозна. Але як зняць з пасады, на якую не прызначалі? Нават у сталінска-хрушчоўска-брэжнеўскія часы зняць віцэ-прэзідэнта Акадэміі мог толькі яе агульны сход.

Аднак у арсенале «сістэмы» аказаліся і спецыфічныя метады ўздзеяння. І пакарання. Радзім Гарэцкі павінен быў ехаць на Генеральную Асамблею ЮНЕСКО ў Парыж. «Наверсе», куды запатрабавалі спісы ўдзельнікаў дэлегацыі, прозвішча Гарэцкага выкраслілі.

## АБ ЛЁСЕ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Нядаўна Радзім Гаўрылавіч разам з групай беларускай інтэлігенцыі пабываў у Празе. Госці ўдзельнічалі таксама ва ўскладанні кветак да магіл суайчыннікаў, членаў урада БНР. Магілы беларусаў у Празе даглядае старая жанчына, якую завуць Насця, дарэчы, таксама беларуска. Гэта жанчына даўно, яшчэ ў вайну, трапіла ў Чэхію, там і засталася. Яна расказала Гарэцкаму, што пакуль Чэхаславакія была «пад Масквой», яна ўвесь час зведвала страшэнны страх за тое, што яе пакараюць за догляд магіл беларускіх нацыяналістаў. Так і сказала — «нацыяналістаў». Пасля яе слоў Радзім Гаўрылавіч канчаткова зразумеў, як будзе расцэнены гэты візіт у Прагу на яго радзіме. Скажуць адназначна: нацыяналісты паехалі да нацыяналістаў.

— Дзіўна неяк атрымліваецца ў нас, — кажа Р. Гарэцкі, — калі ты за сваю мову, за беларускасць — значыць нацыяналіст.

У час свайго першага арышту ў Маскве мой бацька пісаў у лісце да Усевалада Ігнатоўскага, што калі гаворка ідзе аб культурна-эканамічным адраджэнні Беларусі (нават без дамінанты нацыянальнага. — **Т.А.**), заўсёды ўзнікае нейкая хваравітая атмасфера рэзкай падазронасці. Здаецца, цяпер у нас існуе незалежная беларуская дзяржава, але ў адносінах да беларушчыны мала што змянілася. Нацыяналізм у нас трактуецца амаль як фашызм, хаця на Захадзе гэта тое самае, што патрыятызм.

Якія беларусы нацыяналісты — гэта проста смешна... У нас не толькі няма пачуцця перавагі над іншымі, а хутчэй комплекс непаўнацэннасці ў параўнанні з іншымі народамі.

Пакручастыя шляхі беларушчыны знайшлі сваё адлюстраванне як у кроплі вады ў малодшым пакаленні сям'і Гарэцкіх. Адзін унук Радзіма Гаўрылавіча, нягледзячы на традыцыі іх роду, дыстанцыруецца і ад беларускай мовы, і ад нацыянальнай культуры, а другога, малодшага, наадварот, як магнітам цягне да дзеда, які чытае яму беларускія казкі. «Дзеда, хто я, калі мае маці і бацька беларусы? — пытаецца хлопчык. — Хто такія беларусы?»

Радзім Гаўрылавіч гаворыць, што гэта пытанне малодшага ўнука дае яму ўпэўненасць у тым, што не варта казаць, што беларускае адраджэнне ў XX стагоддзі пацярпела паражэнне — яно ўвесь час ідзе неяк хвалямі. І як ні душылі, ні зневажалі беларушчыну, яна вытыркалася, як трава з-пад асфальту. Заўсёды знаходзіліся людзі, якія пачыналі ёй самааддана служыць.

«Ахвярую сваім «я» ў імя святога ўсім нам адраджэння», — так некалі сказаў славуты пісьменнік Максім Гарэцкі, якім ганарыцца Беларусь. Так, напэўна, альбо прыблізна так мог бы сказаць аб сабе і Радзім Гарэцкі.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# ПРЫ АБМЕНЕ НЕ ЗГУБІМ НІ ЦЭНТА?

**Апошнім часам у нашай краіне ў сувязі з уводам новых доларавых купюр ходзяць разнастайныя чуткі. Напрыклад, лідэры камерцыйных банкаў пераконваюць насельніцтва праз некаторыя СМІ, што пры абмене купюр фінансавыя ўстановы будуць несці значныя затраты на праверку іх сапраўднасці і транспарціроўку. А ў сувязі з гэтым, лічаць яны, з уладальнікаў наяўных долараў пры абмене трэба патрабаваць спецыяльную плату — камісійныя.**

**Каб удакладніць гэтае і іншыя пытанні, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся па тлумачэнні ў Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь да намесніка старшыні праўлення Нацбанка Валянціна ЗАЯША:**

— З моманту аб'яўлення Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША аб уводзе новых купюр мы пільна сочым за разгортваннем падзей, — адзначыў ён.

**— Можна чакаць ад галоўнага банка краіны якіх-небудзь рашучых дзеянняў у рэчышчы маючых адбыцца падзей?**

— Прымаючы пад увагу той факт, што старыя долары будуць мець паўнапраўнае паралельнае хаджэнне з новымі купюрамі на працягу неабмежаванага прамежку часу і тое, што пры ўжыванні новай валюты ніякай дэвальвацыі астатніх грашовых знакаў адбывацца не будзе, Нацбанк не плануе вялікіх паступленняў і вывазу наяўнай валюты. У мінулым годзе аб'ёмы вывазу наяўнай валюты ў 10 разоў перавысілі падобныя аперацыі па безнаяўнаму разліку. Таму мы лічым, што натуральнай міграцыі будзе зусім дастаткова для безажыятажнага і непрыметнага абмену 100-доларавых купюр.

**— Ці прыйдзецца плаціць за аперацыю абмену ў камерцыйных банках рэспублікі?**

— Непасрэдна браць камісію пры абмене старых 100-доларавых купюр на новыя ніхто не мае права.

**— А калі ўсё ж камбанкі захочуць падзарабіць на нездаровым ажыятажы асобных катэгорый грамадзян нашай краіны?**

— Нават цяпер на абменных пунктах сустракаюцца аб'явы і ўстанаўліваецца камісія, напрыклад, за праверку купюры на сапраўднасць або за яе размен. Плата за гэтыя паслугі не прадугледжана 601-м палажэннем Нацбанка. За такія дзеянні камбанкі могуць быць сурова пакараны. Такія ж санкцыі будуць прымяняцца да парушальнікаў, якія паспрабуюць незаконна патрабаваць плату за абмен «старой» валюты на «новую».

**— Як вы ацэніце прымяненне камбанкамі скрытых камісійных, напрыклад, шляхам змяншэння працэнтных ставак з прадастаўленнем у канчатковым выніку ўкладу ў новых купюрах?**

— На руках у насельніцтва знаходзіцца каля 2 млрд. долараў ЗША. І калі такі рэкламны трук, як паскораны абмен старых купюр на новыя, прыцягне ў фінансавую сістэму краіны былыя «мёртвыя», а цяпер больш танныя грошы, — Беларусь ад гэтага толькі выйграе. Паняцце скрытых камісійных існуе толькі ў разважаннях. Пакаранні ж за падобныя дзеянні законам не прадугледжаны. А калі шчыра, на лаўца і звер бяжыць. Выбар жа за вамі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

***Сяргей ДУБАВЕЦ:***

# «Наша ніва» — газета пра ўсё і для ўсіх

***Ёсць газеты, якія немагчыма абысці ўвагай, прынамсі з-за іх назвы. З пачатку сакавіка зноў (дарэчы, папярэднія спробы адраджэння былі ў 1920 і 1991 гг.) пачала выходзіць газета «Наша ніва». Цяпер ужо з рэдакцыяй у Мінску, цяпер ужо ў якасці штотыднёвіка. З рэдактарам газеты «Наша ніва» Сяргеем Дубаўцом гутарыць наш карэспандэнт.***

**— У рэдакцыйным маніфесце зноў аднаўленай «Нашай нівы» вы абвяшчаеце яе масавым выданнем. Але, кажучы шчыра, першыя ўражанні ад газеты: яна нашмат лепш аформленая, някепска інфармаваная, больш чытабельная, але, па вялікаму рахунку, засталася ўсё той жа, узору 1991—1995 гг., — амбіцыйнай і нават можна сказаць у нечым андэграўнднай.**

— Зразумела, нейкія сляды той, як яе нярэдка называлі «элітарнай» «Нашай нівы» засталіся. Мы шмат гадоў друкавалі'амаль невядомую ў нас прозу, асабліва навуковыя тэксты, авангардную паэзію. Адысці ад гэтага адразу немагчыма. Але, паставіўшы зараз задачу зрабіць з «Нашай нівы» масавую газету, мы ведаем, што рабіць і ў які бок крочыць.

**— Канцэпцыя цяперашняй «Нашай нівы» — якая яна?**

— У ідэале хацелася б (з улікам таго, што прайшоў час і ў свеце змянілася ўся прэса) вярнуцца да канцэпцыі 1906 года. Сапраўды, наша ранейшая аўдыторыя — гэта найперш нацыянальна арыентаваная культурніцкая інтэлігенцыя. Але зараз мы не маем намеру звужаць кола нашых чытачоў. Сёння хацелася б выйсці за межы «элітарнасці» і рабіць газету пра ўсё і для ўсіх.

**— У якасці ідэала вы ўзгадалі «Нашу ніву» пачатку стагоддзя. Але не будзем забывацца: на той час гэта была адзіная беларуская газета. Дзе «ваша ніша» сёння?**

— Мне здаецца, магчымасці выдання для шырокага чытача на рынку прэсы не будуць вычарпаны ніколі. Тым больш, што (нават не маючы на ўвазе моўны аспект) можна сцвярджаць: ні адной па-сапраўднаму агульнанацыянальнай, агульнанароднай газеты сёння на Беларусі няма. Калі мы возьмем афіцыйную прэсу, яна вельмі шчыльна прывязана да кіруючых структур. Новыя ж незалежныя выданні закручаныя ў гульнях палітычнага істэблішменту, і ў гэтым сэнсе таксама вельмі далёкія ад народа.

**— Вы ўвесь час гаворыце пра масавае выданне, у той жа час выходзіце на «тарашкевіцы». Гэта прынцыпова?**

— Можна прывесці прыклад газеты «Свабода», якая зрабіла свой вялікі тыраж, выходзячы менавіта на «тарашкевіцы». Гэта мова не скалечаная ў 1933 годзе, мова, якая не нясе на сабе адбітку рэпрэсій. Да таго ж, у якасці заўвагі: як паказвае практыка, апалагеты «наркомаўкі» у жыцці беларускай мовай не карыстаюцца ўвогуле.

**— Дагэтуль рэдакцыя «Нашай нівы» знаходзілася ў Вільнюсе, а друкавалася газета ў Мінску. Зараз адбываецца ўсё наадварот. Чаму?**

— Вільня заўсёды была «катлом» нацыянальнай беларускай ідэі. Пэўны час нам проста трэба было пасядзець у ім, «паварыцца». Але «Наша ніва» заўсёды была газетай для Беларусі. Рэдакцыя патрэбна тут тым больш, што зараз «Наша ніва» стала тыднёвікам.

Наконт таго, чаму мы друкуемся ў Літве. «Наша ніва» на Беларусі ніколі не была ні забароненай, ні ганімай. І сёння мы можам друкавацца ў Мінску. Але атрымліваецца, што друкавацца ў Вільні і танней, і больш якасна. Да таго ж нашы людзі, папрацаваўшы ў беларускіх друкарнях, едуць на літоўскую фабрыку як на маленькае свята. Таму што там можна пабачыць і што такое культура працы, і што такое чыстая вытворчасць, нарэшце, што такое нармальныя адносіны паміж людзьмі.

**— Сяргей Іванавіч, асабіста вы верыце, што цяперашняя, ужо чацвёртая па ліку, «Наша ніва» — гэта, як той казаў, «усур'ёз і надоўга»?**

— Можна верыць і можна не верыць. Але трэба працаваць. Я лічу, што той план масавага выдання, які мы распрацавалі для «Нашай нівы», на сёння аптымальны.

**Сяргей ГРЫБ.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## ПЕРАДАЛІМПІЙСКІ ЮБІЛЕЙ

**Учора Нацыянальнаму алімпійскаму камітэту Беларусі споўнілася 5 гадоў. З гэтай нагоды і ў сувязі са 100-годдзем сучасных Алімпійскіх гульняў у НАКу для журналістаў была наладжана прэс-канферэнцыя.**

Галоўнай дзеючай асобай гэтага мерапрыемства стаў міністр спорту і турызму Уладзімір Рыжанкоў, які аднačасова ўзначальвае і Нацыянальны алімпійскі камітэт.

Уладзімір Мікалаевіч зрабіў кароткі экскурс у гісторыю Алімпійскіх гульняў, зазначыўшы, што і маладая самастойная Рэспубліка Беларусь ужо паспела ўпісаць некалькі старонак у летапіс Алімпійскіх гульняў.

На парозе XXVI летняя Алімпіяда ў Атланце, зазначыў старшыня НАКа, да якой Беларусь рыхтуецца самастойнай камандай. Нашымі спартсменамі ўжо заваявана звыш 150 ліцэнзій амаль у 20 відах спорту.

Кіраўнік спартыўна-турыстычнага ведамства запэўніў прысутных, што дзяржава ўдзяляе вялікую ўвагу падрыхтоўцы атлетаў да галоўных стартаў чатырохгоддзя, выдзяляе неабходную матэрыяльную дапамогу з мэтай, каб спартсмены перадалімпійскія зборы для акліматызацыі змаглі правесці ў прыгарадзе Атланты. Не забыў міністр закрануць такое вострае і балючае для ўсяго спорту пытанне, як допінг-кантроль. Па словах Уладзіміра Мікалаевіча, дзесьці ў сярэдзіне наступнага месяца беларускія спартсмены змогуць прайсці неабходны медыцынскі кантроль дома, таму што Беларусь плануе закупіць найноўшае допінгавае абсталяванне.

Спадар Рыжанкоў не без гонару пацвердзіў, што, нягледзячы на пэўныя эканамічныя цяжкасці, урад краіны плануе шчодра адарыць спартсменаў і трэнераў за дасягнутыя поспехі на Алімпіядзе. Фінансавая раскладка для шчаслiўцаў застаецца ранейшай: чэмпіён у якасці прэміяльных атрымае 40 тысяч долараў, сярэбраны прызёр — удвая менш, а ўладальніку бронзавага медаля «свеціць» 15 тысяч «зялёных». Уладзімір Мікалаевіч выказаў спадзяванне, што не застануцца ў баку ад клопатаў нашых алімпійцаў і спонсары. Некаторыя з іх ужо ўнеслі свой уклад у падтрымку айчыннага спорту. А генеральным спонсарам алімпійцаў з'яўляецца вядомае ў Беларусі прадпрыемства «Беларуськалій», якое нядаўна выдзеліла НАКу 30 тысяч долараў ЗША.

У заключэнне старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэта сказаў, што разам са спартсменамі, трэнерамі, журналістамі ў Атланту будуць запрошаны людзі з Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, Адміністрацыі Прэзідэнта, якія павінны на месцы ўбачыць дасягненні сусветнага спорту, натхніць беларускіх атлетаў на дасягненне поспехаў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## НА «ЛЕТНІ» ЧАС

У сувязі з парадкам вылічэння часу, акрэсленым урадам Рэспублікі Беларусь, Белстандарт паведамляе, што 31 сакавіка 1996 года ў рэспубліцы будзе здзейснены пераход на «летні час».

У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў па ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у 2 гадзіны 31 сакавіка 1996 года пераводзяцца на адну гадзіну ўперад.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у лютым 1996 года склала 1.089.878 рублёў (у студзені была 1.017.271 рубель). У студзені-лютым 1996 года яна склала 1.054.252 рублі і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 2,6 раза.



**Асабліва шматлюдна было ў гэты дзень у мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Сюды прыходзілі з букетамі кветак — як на свята — каб павіншаваць двух віноўнікаў урачыстасці: Вольгу Іванаўну і Барыса Сцяпанавіча Пестуноў з вёскі Сваткі Мядзельскага раёна.**

**Вольга Іванаўна амаль трыццаць гадоў кіравала мясцовым народным хорам. Вядома яна і як майстрыха ў справе вышывання і вязання.**

**Барыс Сцяпанавіч заўзяты мастак, аўтар шматлікіх пейзажаў, на якіх адлюстравана прыгажосць азёрнага краю.**

**Настаўніцкая сям'я Пестуноў прывезла ў Мінск не толькі свае творы, але і рэдкую калекцыю дакументаў, звязаных з самымі вядомымі літаратарамі Беларусі. Шмат гадоў у мясцовую школу прыязджалі знакамітыя пісьменнікі, паэты. Іх пісьмы да вучняў і настаўнікаў, фотаздымкі, кнігі з аўтографамі ўвайшлі ва унікальную калекцыю музея школы. Ёсць тут і фотаальбомы аб літаратурных вечарах у вёсцы.**

**Амаль паўвека прысвяцілі Вольга Іванаўна і Барыс Сцяпанавіч педагагічнай працы і выхаванню моладзі ў шчырай духоўнай прыхільнасці да роднага слова і мастацтва.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ**: Барыс Сцяпанавіч прымае віншаванні наведвальнікаў; посцілкі і ручнікі Вольгі Іванаўны ўпрыгожылі залу; «Вясна» — адзін са шматлікіх пейзажаў; гэты стэнд знаёміць з пісьмамі да школьнікаў Васіля Быкава.

# Усім багата наша хата, прыязджайце ў Сваткі!







*КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА*

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАСЦЮМ НА МАРЦЫ

**Летась Міністэрства сувязі і інфарматыкі РБ выпусціла цікавую серыю паштовых мініяцюр, прысвечаную беларускім нацыянальным касцюмам.**



На трох рознакаляровых марках паказаны мотальскі строй, ваўкавыска-камянецкі і пухавіцкі строі. У дзень выхаду гэтых марак у паштовае абарачэнне Мінская пошта прымяніла спецыяльнае гашэнне «першага дня», да гэтага дня быў таксама выпушчаны канверт «першага дня», на малюнку якога мастак М. Раманюк намаляваў беларускую жанчыну ў нацыянальным адзенні, якая сядзіць за ткацкім станком. Серыя гэта выклікала цікавасць у філатэлістаў не толькі нашай рэспублікі. Справа ў тым, што амаль усе былыя рэспублікі СССР пасля набыцця незалежнасці выпусцілі падобныя маркі, і гэтыя выпускі сталі своеасаблівым сімвалам незалежнасці. Бо пошта СССР ніколі не выпускала такіх марак. Мне могуць запярэчыць, і не толькі філатэлісты, што, маўляў, пошта СССР некалькі разоў выпускала серыі марак і канвертаў, на якіх былі адлюстраваны нацыянальныя касцюмы, і гэтыя серыі так і называліся — «Нацыянальныя касцюмы народаў СССР». Так, такія серыі марак і канвертаў былі выдадзены, але што яны сабой уяўлялі? Першая марка, на якой былі паказаны прадстаўнікі розных народаў, што насялялі СССР, была выдадзена да 10-годдзя кастрычніцкіх падзей 1917 года. У апісанні гэтай маркі ў каталогах сказана, што мастак адлюстраваў «шэсце працоўных розных нацыянальнасцей, якія насяляюць нашу краіну. На марцы пад флагам ідуць рускі, украінец, беларус, прадстаўнікі народаў Каўказа і Поўначы». На гэтай марцы па адзенні можна ідэнтыфікаваць толькі прадстаўнікоў Каўказа і Поўначы, рускі, беларус і ўкраінец апрануты аднолькава.

У 1933 годзе пошта СССР выдала вялікую этнаграфічную серыю марак «Народы СССР». Серыя гэта цікавая не толькі тым, што на ёй упершыню паказаны нацыянальныя касцюмы некаторых народаў, якія насялялі тагачасны Саюз, але і сваім незвычайным лёсам. У даваенных каталогах у ёй значыцца 21 марка, у пасляваенных каталогах (1948—1952 гг.) іх стала на дзве менш. Маркі, прысвечаныя татарам Крыма і чачэнцам, былі зняты. Аб іх не ўпаміналася некалькі гадоў. Сёння ўжо ўсім вядома аб тых несправядлівых рэпрэсіях, якім падвергліся цэлыя народы ў ваенныя і пасляваенныя гады. Былі «рэпрэсіраваны» і маркі. Праўда, у філатэліі рэабілітацыя прайшла хутчэй, чым у жыцці. Ужо ў 1958 годзе ў каталогах паявілася апісанне маркі аб чачэнцах. Мініяцюру аб татарах яшчэ доўга не адважваліся ўключаць у каталогі. Гэта было зроблена толькі ў 70-я гады. У гэтай серыі з'явілася і першая марка, на якой былі паказаны беларусы ў нацыянальным адзенні.



Амаль 30 гадоў савецкая пошта марак аб народах, якія насяляюць СССР, больш не выдавала. І толькі ў 1960-1961 гадах яна зноў вярнулася да гэтай тэмы. У тыя гады была выпушчана больш маляўнічая серыя (у некалькіх выпусках) — «Касцюмы народаў СССР». На адной з мініяцюр — тры дзяўчыны і юнак у беларускіх нацыянальных касцюмах. Яшчэ некалькі марак і канвертаў, на якіх былі паказаны прадстаўнікі рэспублікі ў нацыянальных касцюмах, былі выдадзены да розных юбілеяў СССР, перапісу насельніцтва.




Нацыянальныя беларускія касцюмы паказаны таксама на канвертах з серыі «Танцы народаў СССР» — гэта беларускія танцы «Юрачка», «Бульба». Не хачу паўтараць яшчэ раз: усе гэтыя маркі і канверты, на якіх паказаны беларускія нацыянальныя касцюмы, — неканкрэтныя, г. зн. касцюмы, паказаныя на іх, не адносяцца да якога-небудзь рэгіёна рэспублікі. І наогул, усе савецкія маркі — няхай гэта будзе адлюстраванне літоўскіх, грузінскіх ці ўзбекскіх нацыянальных касцюмаў, былі неканкрэтнымі. Яны не паказвалі касцюмы асобных раёнаў Беларусі, Літвы ці Грузіі, а нейкі абагульнены нацыянальны касцюм, у яго сучасным, нават у сучасным сцэнічным выглядзе.

Па марках савецкай пошты нельга меркаваць аб багацці і разнастайнасці беларускага ці літоўскага нацыянальнага касцюма. Новыя ж маркі беларускай пошты, якія расказваюць аб нацыянальных касцюмах, далі магчымасць пазнаёміцца з касцюмамі некалькіх рэгіёнаў нашай рэспублікі. Усё сказанае датычыцца і выпускаў на гэту тэму, ажыццёўленых ва ўсіх былых саюзных рэспубліках.

Калекцыянеры паштовых марак спадзяюцца, што пошта нашай краіны прадоўжыць гэтую цікавую серыю і сёлета.

**Рубрыку вядзе Леў КОЛАСАЎ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 26 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**12.35** Да Міжнароднага дня тэатра. «Тэлевізійны АРТ-клуб». Маскоўская прэм'ера. **15.00** Навіны. **15.15** «Слухаць у адсеках». Мастацкі фільм. 1-я серыя. **16.20** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.45** Студыя «Акно». «Танцавальныя рытмы», «Класіка двароў». **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** На добры лад. Перадача з Гродна. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **20.05** Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Прамая лінія. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Вячаслаў Шалевіч у мастацкім фільме «Фіктыўны шлюб». **23.25** Тэлеанонс. **23.30** Супергол. **24.00** Навіны.

### ГРТ

**9.50** Смехапанарама. Вядучы Я.Петрасян. **10.15** «Ослік-агароднік». Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 2-і. 4-я серыя. Заключная. **12.55** «Корцік». 1-я серыя. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** Сем дзён спорту. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.05** «Каб памяталі...» Н.Рыбнікаў. Вядучы Л.Філатаў. **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.30** Аперацыя. **20.45** Праграма перадач. **20.50** Мікалай Рыбнікаў у фільме Міхаіла Швейцара «Чужая радня». **22.35** Масква — Крэмль. **23.00** «Я выйшла на Пікадзілі». Канцэрт Лаймы Вайкуле.

### Канал «Расія»

**10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **11.15—11.30** Рэпартажы з месцаў. **15.05** Свята кожны дзень. **15.15** Там-там навіны. **15.30** «Маё сэрца засталося ў Нарвегіі». Дак. фільм. **15.45** Кліп-антракт. **15.50** Каляндар. **16.25** Новая лінія. «А можа...» **16.50** Кліп-антракт. С.Белікаў. **16.55** Стоп-кадр. **17.10** Надзвычайны канал. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Анкор, яшчэ анкор». Мастацкі фільм. **21.25** Подыум. **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** Дзённік фестывалю «Залатая маска». **22.55** Экран крымінальных паведамленняў. **23.05—23.50** Гукавая дарожка.

### НТБ

**17.00** «Цудоўныя гады». 107-я серыя (ЗША). **17.30** Вялікі рынг. **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Свет кіно. Энжэла Панч Макгрэгар у фільме «Выпрабаванне кахання» (Аўстралія). **20.35** «Як казакі ў футбол гулялі». Мультфільм. **21.35** Гадзіна серыяла. «Слова». 2-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** Меламанія: «Мэднес».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.326 Індэкс 63850.
Зак. № 1495.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12